

# КОЖНЫ МАЕ ПРАВА ВЕДАЦЬ СВАЕ ПРАВЫ



НАВУЧАЛЬНЫ ДАПАМОЖНІК



Беларускі варыянт выставы «Кожны мае права ведаць свае правы» быў адаптаваны Праваабарончым цэнтрам «Вясна» ў межах сумеснай дзейнасці Міжнароднай сеткі Дамоў правоў чалавека праграмы «Дом Дому».

Пры адаптацыі выставы за аснову ўзята ўкраінская версія, падрыхтаваная грамадскай арганізацыяй «М'АРТ» (Чарнігаў, Украіна), якая была зроблена ў адпаведнасці з планам дзеянняў Усеўкраінскай асветнай праграмы «Разумеем правы чалавека».

*Аўтары і аўтаркі, складальнікі тэкстаў:* **Паліна Сцепаненка, Андрэй Палуда, Аляксандр Вайтэнка, Сяргей Бураў, Канстанцін Равуцкі, Алена Грабоўская, Андрэй Кінаш, Руслана Бурава, Максім Елігулашвілі**

*Ідэя дызайну выставы:* **Багдана Вайтэнка**

*Дызайн стэндаў экспазіцыі*: **Аксана Шаўчэнка**

*Праца над дызайнам беларускай версіі выставы:* **Віктар Корзун**

У распрацоўцы стэндаў выставы выкарыстаны фотаздымкі і ілюстрацыі з конкурсаў, якія праводзіліся Усеўкраінскай асветнай праграмай «Разумеем правы чалавека», Украінскім Хельсінкскім саюзам правоў чалавека, грамадскай арганізацыяй «М'АРТ».

Сярод выкарыстаных фотаздымкаў ёсць атрыманыя ў вольным доступе з сеткі Інтэрнэт.

У тым ліку з сайтаў: **http://spring96.org/, http://vytoki.net/, http://belsat.eu/, https://racyja.com, https://www.svaboda.org/, https://nn.by/**

*Арганізатары і арганізаткі выставы выказваюць шчырую падзяку аўтарам і аўтаркам фотаздымкаў:* **Максіму Гацаку, Алене Сцяпанавай, Альгерду Бахарэвічу, Таццяне Смоткінай, Віктару Трацякову, Алене Казловай, Юліі Калашэнка, Ірыне Арахоўскай, Паліне Сцепаненка, Уладзіміру Сапагову, Уладзіміру Кармілкіну, Віктару Стралоўскаму, Юліі Красільнікавай, Марыяне Хардзі, Уладзіславу Спяшылаву**

*Арганізатары і арганізаткі выставы выказваюць шчырую падзяку за спрыянне альбо непасрэдны ўнёсак у распрацоўку гэтай экспазіцыі наступным арганізацыям:*
**Сетка Дамоў правоў чалавека (Осла, Нарвегія)**
**Беларускі Дом правоў чалавека ў Вільні імя Барыса Звозскава**
**Адукацыйны Дом правоў чалавека ў Чарнігаве**
**Украінскі Хельсінкскі саюз правоў чалавека**
**Праваабарончы цэнтр «Поступ» (Луганск, Украіна)**
**Кангрэс нацыянальных грамад Украіны (Кіеў, Украіна)**
**Рэгіянальны дабрачынны фонд «Рэзананс» (Львоў, Украіна)**
**Харкаўская абласная фундацыя «Грамадская альтэрнатыва»**

Таксама вялікая падзяка ўсім асобам і арганізацыям, у асаблівасці Валанцёрскай службе ПЦ «Вясна», якія ўкладаюць свае высілкі ў працу выставы, ажыццяўляюць валанцёрскую падтрымку, выступаюць у якасці гідаў, экскурсаводаў і рэгіянальных каардынатараў.

Змест

# Уводзіны

*Правы чалавека могуць быць рэалізаваны тады, калі людзі інфармаваны аб сваіх правах і ведаюць, як імі карыстаціца. Таму адукацыя ў галіне правоў чалавека мае надзвычай важнае значэнне для эфектыўнага выканання ўстаноўленых стандартаў. І хоць тое было заяўлена 60 гадоў таму, калі была прынята Усеагульная дэкларацыя правоў чалавека, мы пакуль не дасягнулі таго, каб людзі ведалі пра свае правы і разумелі, як патрабаваць выканання гэтых правоў.*

**Томас Хамарберг**[1]

Сітуацыя з выкананнем правоў чалавека ў Беларусі залежыць не толькі ад наяўнасці і дзеяння эфектыўных сродкаў прававой абароны на нацыянальным і міжнародным узроўнях. Вялікую ролю адыгрывае грамадская актыўнасць і ступень патрабавання ад уладных органаў выканання правоў чалавека. Асабліва важна, каб такая актыўнасць мела месца і была дзейснай на ўзроўні мясцовых супольнасцяў.

Эфектыўнасць гэтай актыўнасці, у прыватнасці, залежыць ад наяўнасці актывістаў, якія здольныя своечасова ідэнтыфікаваць праблему і маюць падрыхтоўку па арганізацыі дзеянняў, грамадскіх кампаній.

У межах адукацыйнай дзейнасці Праваабарончага цэнтра «Вясна» і праграмы «Беларуская праваабарончая школа», якая цэнтрам сваёй увагі мае непасрэдную сувязь навучання з дзеяннем, спецыяльную падрыхтоўку атрымліваюць актывісты ў галіне правоў чалавека, сацыяльных, экалагічных, палітычных і г.д.

Пачаўшы сваю дзейнасць у асвеце і адукацыі ў галіне правоў чалавека ў 2006 годзе, Праваабарончы цэнтр «Вясна», у межах праграмы «Беларуская праваабарончая школа», адразу вызначыў асноўныя праблемныя пазіцыі, на якія гэтыя дзеянні павінны ўплываць:

– У грамадстве няма дастатковага разумення правоў чалавека. Нізкі ўзровень інфармаванасці грамадскасці аб правах чалавека і асноўных свабодах, механізмах іх абароны стварае сітуацыю, у якой нават актыўнасць грамадзян, накіраваная на прадстаўленне і абарону грамадскіх інтарэсаў, часта застаецца марнай.

– Існуе практыка падмены зместу разумення правоў чалавека, што дазваляе выкарыстоўваць правы чалавека ў якасці палітычнага інструменту і такім чынам маніпуляваць грамадскай думкай падчас палітычных дыскусій.

– Адсутнасць афіцыйнай мадэлі сістэмы бесперапыннай адукацыі ў галіне правоў чалавека з'яўляецца наступным складнікам праблемы. Беларусь да гэтага часу не мае нацыянальнага плана навучання правам чалавека, нягледзячы на тое, што абавязалася такі план распрацаваць, калі далучылася да Сусветнай праграмы навучання правам чалавека.

– Назіраецца недахоп спецыялістаў, здольных эфектыўна выкарыстоўваць адукацыйныя дзеянні ў мэтах абароны і падтрымкі правоў чалавека.

– Існуе патрэба ў практычных спецыялізаваных навучальных праграмах па правах чалавека для актывістаў недзяржаўных арганізацый.

Крок за крокам, выкарыстоўваючы разнастайныя адукацыйныя дзеянні, тэхналогіі, метады і інструменты, мы намагаемся дасягнуць станоўчых зменаў.

Дапаможнік «Кожны мае права ведаць свае правы» з'яўляецца адным з крокаў рэагавання на неабходнасць сістэмнага падыходу да навучання правам чалавека, развіцця культуры правоў чалавека. Гэтае выданне дае магчымасць выкарыстоўваць яго ў якасці дапаможных матэрыялаў для навучання, стымуляваць дыскусію вакол праблем правоў чалавека. Змястоўная структура матэрыялаў дапаможніка дазваляе ўбачыць магчымасці інтэграцыі тэмы правоў чалавека ў розныя навучальныя дысцыпліны. Разам з тым гэтае выданне не з'яўляецца класічным падручнікам, метадычным дапаможнікам або хрэстаматыяй. Тут амаль адсутнічаюць «правільныя» адказы, метадычныя рэкамендацыі, парады ці гатовыя «рэцэпты» па правядзенні заняткаў. Кожная крыніца інфармацыі, кожнае пытанне стварае прастору для разважанняў, стымулюе да пошуку дадатковай інфармацыі, можа матываваць да грамадскай актыўнасці.

Асаблівасцю дапаможніка з'яўляецца і тое, што ён грунтуецца на разнастайных адукацыйных інструментах і метадах, якія былі распрацаваныя ў межах праграмы «Разумеем правы чалавека». Яго асновай з'яўляюцца матэрыялы аднайменнага дапаможніка перасоўнай экспазіцыі аб правах чалавека. Уступныя тэксты да кожнай тэмы ўяўляюць сабой сціслае выказванне ў пісьмовай форме думак, што з'яўляюцца інфармацыйным напаўненнем навучання і трэнінгаў, якія мы праводзім разам са сваімі партнёрамі.

Завяршаючы працаваць над дапаможнікам, мы разумелі, што далёка не ўсе важныя для выкарыстання ў навучанні і дыскусіі тэмы правоў чалавека нам удалося ахапіць, што застаецца жаданне падзяліцца вялікай колькасцю цікавых матэрыялаў, метадычных распрацовак, вынікаў адукацыйных дзеянняў. Але гэта толькі стымулюе працаваць далей, дапаўняць гэтае выданне і рыхтаваць новыя, сістэматызаваць уласныя матэрыялы і дзяліцца імі, шукаць і кансалідаваць досвед аднадумцаў.

---

[1] Томас Хамарберг «Адукацыя ў галіне правоў чалавека з'яўляецца прыярытэтам — трэба больш канкрэтных дзеянняў», 06/10/2008

# Як карыстацца дапаможнікам

У канцы XX стагоддзя перагляд канцэпцыі гуманітарнай адукацыі прывёў да разумення таго, што вывучэнне грамадазнаўчых дысцыплін не павінна зводзіцца да назапашвання фактаграфіі і «канчатковых» інтэрпрэтацый, а павінна дапамагаць асабіста асэнсоўваць грамадскую рэчаіснасць праз прыцягненне да пошуку інфармацыі, да адкрыцця для сябе гісторыі чалавецтва і эвалюцыі грамадства. Навучанне дэмакратыі і правам чалавека павінна прадастаўляць рознабаковую інфармацыю, заахвочваць да разваг і абмеркавання, надаючы асаблівую ўвагу складаным і супярэчлівым момантам.

Ва ўмовах дэмакратыі, у адрозненне ад таталітарных рэжымаў, свабода слова ў шырокім спектры поглядаў на пэўную праблему дазваляе кожнаму ўдзельніку дыскусіі лепш зарыентавацца ва ўсім тэматычным полі і дайсці да ўласных высноваў на падставе іншых перспектыў.

Улічваючы рэаліі сучаснай адукацыі, даводзіцца канстатаваць факт неэфектыўнасці старых, класічных методык, асабліва ў такіх сферах адукацыі, як гісторыя, права, грамадазнаўства. Моладзь часта не гатовая ўспрымаць вялікі аб'ём інфармацыі ў лекцыйнай форме, цяжка арыентуецца і не заўсёды крытычна аналізуе інфармацыйную прастору Інтэрнэту, больш гатовая ўспрымаць візуальную інфармацыю, чым тэксты. Просты паслядоўны пераказ матэрыялу з'яўляецца нецікавым, не заахвочвае да разваг, крытычнага мыслення, дыскусіі.

Складаныя, супярэчлівыя тэмы і пытанні могуць быць і балючымі, раздражняльнымі для вывучэння, а значыць — складанымі для разумення. Яны могуць выклікаць супраціў успрымання, завастраць прадузятасці, якія ўжо склаліся, выклікаць асабістыя перажыванні.

Працуючы з матэрыяламі па правах чалавека, асабліва са складанымі тэмамі, што выклікаюць спрэчкі нават сярод спецыялістаў, можна развіваць навыкі крытычнага мыслення, аналізу, фарміравання ўласнай пазіцыі. У такім працэсе навучання варта звярнуць увагу на некалькі складнікаў:

- асэнсаванне складанасці праблемы;
- высвятленне аргументацыі розных груп і асобных людзей;
- уменне адрозніваць істотную інфармацыю ад неістотнай;
- здольнасць выкарыстоўваць розныя крыніцы інфармацыі;
- вызначэнне прабелаў у атрыманай інфармацыі;
- ацэнка інфармацыі з улікам яе дакладнасці і вычарпальнасці;
- уменне высвятляць ступень прадузятасці людзей, якія прадастаўляюць інфармацыю;
- уменне прымаць рашэнні ў супярэчлівай і неадназначнай сітуацыі.

Асновай дапаможніка з'яўляюцца матэрыялы перасоўнай экспазіцыі «Кожны мае права ведаць свае правы». Матэрыял умоўна складаецца з трох раздзелаў. Першы — гісторыя, эвалюцыя і асноўныя паняцці і каштоўнасці, на якіх грунтуецца канцэпцыя правоў чалавека. Другі раздзел прысвечаны асобным матэрыяльным правам і свабодам. Трэці распавядае аб правах дзіцяці. Веды па кожным з гэтых раздзелаў могуць быць пашыраныя шляхам пошуку дадатковай інфармацыі.

Уступныя артыкулы да кожнай тэмы не толькі дапамагаюць атрымаць агульныя ўяўленні пра яе, але і вызначаюць рэальныя аспекты праяўлення правоў чалавека.

Працуючы з матэрыяламі дапаможніка, кожны можа арыентавацца на пытанні, адрасаваныя яго асобным складнікам, — фатаграфіям, тэкстам, прыкладам. Гэтыя пытанні накіраваныя на актуалізацыю асобных аспектаў правоў чалавека і дапамагаюць праз «уяўную» дыскусію паглыбіцца ў іх разуменне. Зразумела, што сцісласць самога матэрыялу падштурхоўвае да пошуку дадатковай інфармацыі. Так, згадка асобных спраў Еўрапейскага суда дае магчымасць самастойна знайсці іх на адпаведных сайтах у сетцы Інтэрнэт і азнаёміцца з рашэннямі ў поўным аб'ёме, паглядзець іншыя справы, якія тычацца таго ж права. Прапрацоўваючы візуальныя матэрыялы, варта не толькі падумаць над пытаннямі да іх, але і паспрабаваць змадэляваць сваё ўласнае бачанне жыццёвых прыкладаў. Амаль кожнае фота падштурхоўвае да пэўных асабістых рэфлексій, і таму варта прыслухацца да адчуванняў і паразважаць пра іх карані, бо правы чалавека — гэта каштоўнасці, якія датычацца кожнага з нас. Асобныя тэзісы або цытаванні норм права, прыведзеныя ў матэрыялах экспазіцыі, гучаць суха, і, магчыма, кожны зможа ажывіць іх, увеўшы ў плоскасць паўсядзённага жыцця, падумаўшы, як тая ці іншая норма тычыцца менавіта яго, блізкіх, навакольных людзей. Зацікавіўшыся асобнымі пытаннямі, кожны мае магчымасць самастойна знайсці адпаведную інфармацыю на сайтах праваабарончых арганізацый, грамадскіх аб'яднанняў ці ў публікацыях СМІ. Такая праца можа змяніць перспектыву ўспрымання паўсядзённай інфармацыі, і нават навіны на тэлебачанні ці радыё могуць быць прааналізаваныя з пункту гледжання стандартаў правоў чалавека.

Самастойная праца з матэрыялам можа зрабіцца добрай асновай для пашырэння поля меркаванняў. Улічваючы актуальнасць пытанняў правоў чалавека ў сучасным свеце, кожны можа прыцягнуць да абмеркавання іншых, падахвочваць сяброў або калег уключыцца ў дыскусію.

Інфармацыйны матэрыял дае магчымасць ажыццяўляць навучанне любым зручным спосабам — як праводзіць асобныя заняткі з абраных тэм, так і пачаць сістэматычнае вывучэнне. Педагог або той, хто бярэцца за выкладанне правоў чалавека, безумоўна, павінен мець адпаведную падрыхтоўку і ведаць спецыфіку працы з візуальнымі крыніцамі інфармацыі. Апісанне розных методык, педагагічных прыёмаў і тэхнік, якое дапаможа пабудаваць эфектыўны адукацыйны працэс падчас працы з матэрыяламі дапаможніка, можна знайсці ў спецыялізаваных выданнях, рэкамендацыях, на сайтах ААН, АБСЕ, Савета Еўропы.



# КОЖНЫ МАЕ ПРАВА ВЕДАЦЬ СВАЕ ПРАВЫ

***Чалавек, яго правы, свабоды і гарантыі іх рэалізацыі з'яўляюцца вышэйшай каштоўнасцю і мэтай грамадства і дзяржавы. Дзяржава адказная перад грамадзянінам за стварэнне ўмоваў для свабоднага і годнага развіцця асобы. Грамадзянін адказны перад дзяржавай за няўхільнае выкананне абавязкаў, ускладзеных на яго Канстытуцыяй.***

**Артыкул 2** Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь

***«(...) Яны [дзяржавы-ўдзельніцы] пацвярджаюць права асобаў ведаць свае правы (...) і дзейнічаць у адпаведнасці з імі (...)»***

З раздзела VII «Павага да правоў чалавека і асноўных свабодаў, уключаючы свабоду думкі, сумлення, рэлігіі і перакананняў» Заключнага акта Нарады па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе (г. Хельсінкі, 1 жніўня 1975 г.)

СВАБОДА СУМЛЕННЯ І ВЕРАВЫЗНАННЯ
СВАБОДА ВЫКАЗВАННЯ МЕРКАВАННЯЎ
АБМЕЖАВАННІ
УНІВЕРСАЛЬНАСЦЬ
СВАБОДА АД КАТАВАННЯЎ
ПРАВЫ ДЗІЦЯЦІ
ВЯРШЭНСТВА ПРАВА
ПРАВАВАЯ ДЗЯРЖАВА
НЕДЫСКРЫМІНАЦЫЯ
ІНДЫВІДУАЛЬНАСЦЬ
ГОДНАСЦЬ
КАНВЕНЦЫЯ ААН ПА ПРАВАХ ДЗІЦЯЦІ
МІРНЫЯ СХОДЫ І АСАЦЫЯЦЫІ
ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА І АБАВЯЗКІ
ПРЫВАТНАСЦЬ
ПАХОДЖАННЕ ПРАВОЎ ЧАЛАВЕКА
СВАБОДА І АСАБІСТАЯ НЕДАТЫКАЛЬНАСЦЬ
ПРАВА НА ЖЫЦЦЁ
САЛІДАРНАСЦЬ
СВАБОДА
ЭВАЛЮЦЫЯ ПРАВОЎ ДЗІЦЯЦІ



# § 1–2. ПАХОДЖАННЕ ПРАВОЎ ЧАЛАВЕКА

У нашы дні аб правах чалавека кажуць шмат. Мы ўзгадваем пра іх, калі адчуваем, што з намі абышліся несправядліва. Гэтае словазлучэнне часта выкарыстоўваюць і палітыкі, якія спрабуюць маніпуляваць грамадскай думкай. Але ці аднолькава мы разумеем сэнс гэтага паняцця? Што такое правы чалавека? Філасофская канцэпцыя або канкрэтныя прававыя стандарты? Прыгожыя словы ў тэкстах дэкларацый ці дзейсныя механізмы абароны? Навошта яны нам патрэбныя? Якую ролю яны іграюць у нашым жыцці? Ці кожную несправядлівасць можна растлумачыць мовай правоў чалавека? Якая іх прырода? Ці ёсць у іх межы? Як яны звязаныя з іншымі важнымі для нас каштоўнасцямі? Паспрабуем гэта высветліць.

## Узнікненне і генезіс

Гісторыя правоў чалавека налічвае не адно тысячагоддзе. Можна сцвярджаць, што яны — равеснікі чалавецтва і зарадзіліся як ідэя ўжо тады, калі сталі ўзнікаць першыя чалавечыя супольнасці. У гэтых супольнасцях былі моцныя і слабыя. Сіла моцных давала ім уладу. І гэтую ўладу не магло абмежаваць нішто, акрамя іншай, яшчэ большай сілы. У слабых не было нічога, акрамя свайго ўяўлення аб справядлівасці і шчырага імкнення не пакутаваць ад самавольства тых, хто ўзяў уладу. З гэтага і пачалася доўгая гісторыя станаўлення канцэпцыі правоў чалавека як прынцыпаў, якія павінны абмежаваць самавольства моцных і даць кожнай асобе магчымасць жыць і ў поўнай меры рэалізоўваць сябе.

У сучасным грамадстве такім моцным суб'ектам, ад самавольства якога кожнаму чалавеку патрэбная абарона, з'яўляецца дзяржава. Вось чаму сёння, гаворачы пра правы чалавека, мы маем на ўвазе не столькі адносіны паміж людзьмі як роўнымі суб'ектамі, колькі так званыя вертыкальныя адносіны — адносіны паміж асобай і дзяржавай.

Але вернемся да гісторыі. Развіццё канцэпцыі правоў чалавека — гэта гісторыя ператварэння нормаў маралі ў нормы права. Спачатку гэта былі толькі маральныя і філасофскія катэгорыі. Мінулі тысячагоддзі, і гэтыя каштоўнасці ды гарантыі іх рэалізацыі і абароны пачалі замацоўвацца як юрыдычныя нормы.

Першымі спробамі замацаваць абмежаванне самавольства моцных у пісаным праве называюць законы вавілонскага цара Хамурапі (пачатак II тысячагоддзя да н.э.) і Маніфест заснавальніка Персідскай імперыі цара Кіра Вялікага (сярэдзіна I тысячагоддзя да н.э.). Гэтыя дакументы казалі пра справядлівае кіраванне, не дазвалялі моцным прыгнятаць слабых, фармулявалі прынцып прэзумпцыі невінаватасці, а другі дакумент нават дараваў свабоду і роўныя з іншымі грамадзянамі прывілеі вавілонскім рабам. Падобныя прыклады ёсць у гісторыі і іншых старажытных цывілізацый — Егіпта, Персіі.

У Антычнай Грэцыі зарадзілася філасофская дактрына, паводле якой права з'яўляецца не прывілеямі, нададзенымі ўладамі ці грамадствам, а чымсьці натуральным, уласцівым чалавечай сутнасці. Тады ж упершыню з'яўляюцца паняцці «ізагоніі» і «ізаноміі» — прынцыпы, вельмі падобныя да сучаснай свабоды слова і роўнасці перад законам. Рымскія законнікі былі паслядоўнікамі грэчаскіх філосафаў. Цыцэрон перакладае філасофскія ідэі на юрыдычную латынь. У першых стагоддзях да нашай эры ў Рыме нараджаецца дактрына «справядлівага права», якой пастуліраваўся прыродны характар правоў і свабодаў. Аднак гэтыя правы належалі не кожнаму чалавеку. У прыватнасці, галоўным прынцыпам прававой сістэмы рымлян была роўнасць усіх вольных, гэта значыць — не рабоў.

У сярэднявеччы, на мяжы XII–XIII стагоддзяў, у некаторых еўрапейскіх краінах быў прыняты шэраг важных дакументаў, якімі абвяшчаліся правы і свабоды: спачатку — дваранства, а пасля — усіх вольных людзей. Найбольш вядомым з іх з'яўляецца Magna Charta — Вялікая хартыя вольнасцяў, абвешчаная ў 1215 годзе англійскім каралём Іаанам Першым. Яна была прынятая пад ціскам шляхты і духавенства, якія больш не хацелі мірыцца з самавольствам караля і, аб'яднаўшыся, прымусілі яго кіраваць паводле закону.

У канцы XVII і ў XVIII стагоддзі адбыліся падзеі, якія зрабіліся сапраўднай рэвалюцыяй у фарміраванні канцэпцыі правоў чалавека. Філасофскія перадумовы гэтых падзей заклалі такія вядомыя філосафы-асветнікі, як Джон Лок, Джон Мільтан, Вальтэр, Шарль Луі Мантэск'ё і іншыя. Гэтыя мысляры развілі ідэю натуральнага паходжання правоў і свабод і сцвярджалі, што яны належаць не толькі грамадзянам, але кожнаму чалавеку ад нараджэння. Мінула зусім няшмат часу, і ідэі асветнікаў былі ўвасобленыя ў жыццё. У 1689 годзе ў Англіі з'яўляецца Біль аб правах — дакумент, які заклаў асновы першай канстытуцыйнай манархіі. Як і Вялікая хартыя вольнасцяў, ён утрымліваў пералік часткі правоў, якім потым дадуць назву «грамадзянскія (асабістыя) і палітычныя правы». А яшчэ за стагоддзе гэтыя дасягненні памножыліся і замацаваліся ў такіх дакументах, як Дэкларацыя незалежнасці Злучаных Штатаў Амерыкі (1776) І Дэкларацыя правоў чалавека і грамадзяніна Францыі (1789), а пасля — і ў Канстытуцыях ЗША і Францыі. Цяжка пераацаніць гэтыя падзеі — упершыню ў гісторыі чалавецтва дзяржавы прызналі права грамадзяніна фундаментальнай каштоўнасцю і заклалі гэты прынцып у аснову дзяржаўнага ладу.

У XIX стагоддзі важнымі вехамі станаўлення канцэпцыі правоў чалавека стала «Вясна народаў» — шэраг еўрапейскіх рэвалюцый, які скончыўся прыняццем некалькіх канстытуцый, і спробы гуманізацыі вядзення войнаў праз прыняцце першых канвенцый міжнароднага гуманітарнага права. Але правы чалавека яшчэ не былі прызнаныя ўніверсальнымі каштоўнасцямі і не выйшлі за нацыянальныя межы. Да сярэдзіны XX стагоддзя правы чалавека фактычна заставаліся «правамі белага чалавека». Існаванне рабства і расавай сегрэгацыі, гендарнай дыскрымінацыі, пераследу па ідэалагічных перакананнях былі масавай практыкай, часта замацаванай у законе.

Жудасныя зверствы Другой сусветнай вайны падштурхнулі чалавецтва да пераацэнкі каштоўнасцяў — прызнаецца ўніверсальнасць правоў чалавека, дзяржавы свету звязваюць сябе абавязальніцтвамі гарантаваць правы і свабоды ўсім, хто знаходзіцца пад іх юрысдыкцыяй. Большасць краін згаджаецца абмежаваць свой суверэнітэт і дазволіць сусветнай супольнасці кантраляваць стан захавання правоў чалавека на сваіх тэрыторыях — пачынаюць стварацца міжнародныя механізмы абароны правоў чалавека. У 1945 годзе ствараецца Арганізацыя Аб'яднаных Нацый. А 10 снежня 1948 года прымаецца Усеагульная дэкларацыя правоў чалавека. Гэты дакумент мае 30 артыкулаў і ўтрымлівае пералік правоў, якія належаць кожнаму чалавеку без выключэння. Важнасць Дэкларацыі палягае і ў тым, што яна зрабілася прадметам «сусветнага кансенсусу» — пераважная большасць краін свету, нягледзячы на вялікія сацыяльныя і культурныя адрозненні, прызналі каштоўнасць абвешчаных у ёй правоў і свабодаў. Але гэты дакумент быў толькі «абвяшчэннем намераў» і не накладаў ніякіх абавязальніцтваў на ўрады краін, якія далучыліся да яго. Наперадзе быў вялікі шлях. Неабходна распрацаваць і прыняць дакументы, якія будуць абавязковымі для выканання тымі дзяржавамі, якія возьмуць на сябе гэтае абавязальніцтва.

На працягу наступных дзесяцігоддзяў на рэгіянальным і сусветным узроўнях прымаюцца міжнародныя дамовы, якімі ствараюцца механізмы кантролю за выкананнем і абаронай правоў чалавека. У 1950 годзе на Еўрапейскім кантыненце ўзнікае Канвенцыя Савета Еўропы аб абароне правоў чалавека і асноўных свабодаў. А ў 1966 годзе Арганізацыяй Аб'яднаных Нацый прымаюцца два міжнародныя пакты — «Аб грамадзянскіх і палітычных правах» і «Аб сацыяльных, эканамічных і культурных правах». Калі механізмы абароны, прадугледжаныя Еўрапейскай Канвенцыяй, запрацавалі ўжо праз тры гады пасля яе прыняцця, то для таго, каб прымусіць дзейнічаць механізмы ААН, спатрэбілася яшчэ амаль 10 гадоў. Пазней у сістэме ААН, Савета Еўропы прымаюцца і іншыя дакументы, якія маюць сілу міжнародных пагадненняў. Большасць з гэтых дакументаў не дадаюць новых правоў у каталогі правоў чалавека, а ствараюць дадатковыя гарантыі рэалізацыі правоў прадстаўнікоў так званых уразлівых груп або дэталізуюць працэдуры выканання асобных правоў і свабодаў.

Такім чынам, мінулі тысячагоддзі, перш чым правы чалавека з маральных каштоўнасцяў і філасофскіх катэгорый ператварыліся ў жорсткія юрыдычныя нормы, якія ўжо значна цяжэй ігнараваць тым, хто мае ўладу. Гэты працэс працягваецца, канцэпцыя правоў чалавека дынамічна развіваецца, удасканальваюцца механізмы рэалізацыі і абароны правоў і свабодаў. Гэта павялічвае магчымасці кожнага чалавека. Але не трэба забываць, што гісторыя правоў чалавека — гэта гісторыя барацьбы, і якімі б дасканалымі ні былі механізмы абароны, рэалізацыя нашых правоў

у першую чаргу залежыць ад дасведчанасці і актыўнасці кожнага з нас.

## Прырода правоў чалавека

Сёння, гаворачы пра правы чалавека, мы маем на ўвазе адначасова і філасофію, і этыку, і юрыспрудэнцыю. І ўсе гэтыя аспекты канцэпцыі аднолькава важныя — іх нельга аддзяліць адзін ад аднаго. Але давайце застанемся ў плоскасці філасофіі і паспрабуем высветліць, што ляжыць у прыродзе правоў чалавека.

З аднаго боку, правы чалавека — гэта пераапранутыя ў строгія касцюмы юрыдычных нормаў базавыя чалавечыя патрэбы. Той мінімум, без якога чалавек не можа існаваць і развівацца як асоба. У чалавека шмат патрэбаў, і іх пералік пастаянна расце. А вось каталогі правоў чалавека павялічваюцца значна больш павольна. Чаму гэта так і чаму асноўныя каталогі правоў чалавека не гарантуюць нам такіх важных патрэбаў, як быць шчаслівымі, любіць і быць любімымі? Таму што адзіным гарантам рэалізацыі нашых правоў з'яўляецца дзяржава. Менавіта на яе ўскладаюцца ўсе абавязкі па выкананні і абароне правоў чалавека. Але ў дзяржавы няма і не можа быць механізмаў, якія забяспечаць кожнаму чалавеку такія патрэбы, як шчасце, сяброўства або любоў блізкіх. Такім чынам, усе правы чалавека з'яўляюцца чалавечымі патрэбамі, але не ўсе патрэбы робяцца правамі чалавека. З іншага пункту гледжання, правы чалавека — гэта ўніверсальныя агульначалавечыя каштоўнасці, увасобленыя ў праве; каштоўнасці, якімі кожны чалавек вымярае свет, суадносячы сябе са з'явамі і падзеямі. Гэта прынцыпы, якія дазваляюць нам суіснаваць з іншымі людзьмі ў грамадстве. Яны адначасова і абараняюць ад замахаў на годнасць кожнага чалавека, і забяспечваюць мір і ўстойлівае развіццё чалавечых супольнасцяў. І калі прыглядзецца ўважліва, мы ўбачым, што гэтыя два погляды на прыроду правоў чалавека не ўступаюць у супярэчнасць паміж сабой.

Мы згодныя з тым, што ніводная ўлада не павінна быць неабмежаванай. Але нельга не прызнаць, што, у сілу сваёй прыроды, кожная ўлада заўсёды імкнецца да гэтага. Разумеючы гэта, чалавецтва доўгі час выпрацоўвала прынцыпы, якія павінны абмяжоўваць уладу. Сёння такімі прынцыпамі з'яўляюцца правы чалавека — яны абмяжоўваюць самавольства дзяржаўнай улады, забяспечваючы кожнай асобе магчымасць рэалізоўваць сябе і самой выбіраць і фарміраваць свой сацыяльны асяродак. У дэмакратычным грамадстве ўлада фармальна знаходзіцца ў руках большасці. Але і такая ўлада павінна быць абмежаванай, паколькі большасць звычайна не схільная ўлічваць інтарэсы і патрэбы тых, хто да яе не належыць, — прадстаўнікоў шматлікіх меншасцяў.

Каб лепш зразумець адрозненні ў прыродзе правоў чалавека, можна ўмоўна падзяліць іх на правы і свабоды. Кажучы пра свабоды, мы маем на ўвазе тыя сферы жыцця чалавека, у якія не павінна ўмешвацца дзяржава. Напрыклад, калі ўлада не будзе забараняць нам выказаць свае адносіны да тых ці іншых падзеяў — гэтага будзе, у прынцыпе, дастаткова для таго, каб прызнаць, што наша свабода выказвання меркаванняў выкананая. У адрозненне ад свабод, забеспячэнне правоў патрабуе выканання дзяржавай пэўных «пазітыўных дзеянняў». Напрыклад, для таго каб мы рэалізавалі права на адукацыю, дзяржаве недастаткова не забараняць нам вучыцца — яна павінна як мінімум пабудаваць школы, падрыхтаваць настаўнікаў і надрукаваць падручнікі. Але трэба памятаць, што такая класіфікацыя — умоўная, і рэалізацыя ўсяго комплексу правоў чалавека накладае на дзяржаву абавязкі актыўна дзейнічаць дзеля іх забеспячэння.

Да таго ж варта заўважыць, што гэтыя абавязкі дзяржавы носяць зусім не дэкларатыўны характар. Напрыклад, у 1996 годзе, прыняўшы Канстытуцыю, Украіна пісьмова паклялася ў поўным аб'ёме забяспечыць кожнаму са сваіх грамадзянаў і кожнаму чалавеку, які знаходзіцца на тэрыторыі Украіны, увесь пералік правоў, якія змяшчае Канстытуцыя. А ратыфікаваўшы ў 1997 годзе Еўрапейскую канвенцыю па правах чалавека, украінская ўлада паабяцала сусветнай супольнасці забяспечыць усім, хто знаходзіцца пад яе юрысдыкцыяй, рэалізацыю зафіксаваных у Канвенцыі правоў і свабодаў. Гэта дае нам падставы ўжо не прасіць, а патрабаваць выканання сваіх правоў, замацаваных у нацыянальных і міжнародных дакументах. Мы не вядзём з уладай гандлёвых перамоваў, а, так бы мовіць, прымушаем яе вярнуць нам доўг.

Парадокс, але правы чалавека — гэта тое, што абараняе нас ад самавольства ўладаў, і, разам з тым, гарантуецца выключна дзяржавай. Гэта тое, што нараджаецца разам з намі, і адначасова тое, за што мы павінны пастаянна змагацца.

# ПАХОДЖАННЕ ПРАВОЎ ЧАЛАВЕКА



«Я нарадзіўся чалавекам… Жыву…
Я адчуваю боль, калі мне робяць балюча…
Я магу выказваць свае погляды…
Выказваць словам, паводзінамі, эмоцыямі…

Тыя каштоўнасці, якія належаць мне ўжо таму, што я нарадзіўся чалавекам. Ці ёсць патрэба ў тым, каб гэтыя каштоўнасці абаранялі? Аказваецца, што ёсць…»





«Свабода — гэта не тое, што вам далі. **Гэта тое, што ў вас нельга забраць».**

*Вальтэр*





Мы жывём у грамадстве. У грамадстве, дзе кожны чалавек — гэта цэлы свет. У грамадстве, у якім ёсць тыя, хто мае ўладу над іншымі…

**ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА — гэта ўніверсальныя, неад'емныя агульначалавечыя каштоўнасці, якія ад нараджэння належаць і гарантуюцца кожнаму чалавеку ў яго ўзаемасувязях з дзяржавай.**

**«Канцэпцыя правоў чалавека грунтуецца на трох асноўных палажэннях:**

*1) любая ўлада абмежаваная;*

*2) кожны чалавек мае свой аўтаномны свет, у які не можа ўмешвацца аніякая ўлада;*

*3) кожны чалавек, абараняючы свае правы, можа высоўваць прэтэнзіі дзяржаве, дамагацца захавання сваіх правоў».*

**Віктар Асяцінскі,**
гісторык, палітолаг, прафесар Цэнтральнаеўрапейскага ўніверсітэта ў Будапешце, Хельсінкскі фонд правоў чалавека (Варшава, Польшча)





Яшчэ ў часы Антычнасці з'яўляюцца ідэі правоў чалавека, чалавечай годнасці і роўнасці ў правах.

Але ў Антычнай Грэцыі гэта датычыла толькі грамадзянаў мужчынскага полу.

Галоўнай асновай прававой сістэмы рымлянаў была роўнасць усіх вольных (нерабоў).



У 1215 годзе з'яўляецца Magna Carta — Вялікая хартыя вольнасцей.

Англійская арыстакратыя і духавенства ўзняліся супраць злоўжыванняў уладай каралём Іаанам і прымусілі яго кіраваць паводле закона.

**«Гэта не трагедыя, калі дыктатар лічыць грамадзяніна сваім рабом. Трагедыя — калі грамадзянін з гэтым згодзен!»**

У 1689 годзе, зноў у Англіі, з'яўляецца «Біль аб правах» — дакумент, які заклаў падмурак першай канстытуцыйнай манархіі. Як і Вялікая хартыя вольнасцей, гэты дакумент змяшчаў пералік правоў, якім пазней дадуць назву — грамадзянскія (асабістыя) і палітычныя правы.

Гэтыя здабыткі ў далейшым памнажаліся і былі замацаваныя ў такіх дакументах, як Дэкларацыя незалежнасці ЗША (1776) і Дэкларацыя правоў чалавека і грамадзяніна ў Францыі (1789), а пазней і ў канстытуцыях гэтых дзяржаваў.





**«Любая ўлада — ад Бога, я гэта прызнаю, але ад Бога і ўсялякая хвароба. Ці значыць гэта, што забаронена запрашаць лекара?»**

**Жан-Жак Русо** (1712–1778),
французскі пісьменнік, філосаф



# ПАХОДЖАННЕ ПРАВОЎ ЧАЛАВЕКА
## (частка першая)



1. Як, на вашую думку, здымак суадносіцца з выказваннем?
2. Што можа азначаць фраза «Гэта каштоўнасці, якія належаць мне ўжо таму, што я нарадзіўся чалавекам»?
3. Чаму можа ўзнікнуць патрэба ў абароне такіх каштоўнасцяў?

«Я нарадзіўся чалавекам… Жыву…
Я адчуваю боль, калі мне робяць балюча…
Я магу выказваць свае погляды…
Выказваць словам, паводзінамі, эмоцыямі…

Тыя каштоўнасці, якія належаць мне ўжо таму, што я нарадзіўся чалавекам. Ці ёсць патрэба ў тым, каб гэтыя каштоўнасці абаранялі? Аказваецца, што ёсць…»





«Свабода — гэта не тое, што вам далі. **Гэта тое, што ў вас нельга забраць».**

*Вальтэр*








Мы жывём у грамадстве. У грамадстве, дзе кожны чалавек — гэта цэлы свет. У грамадстве, у якім ёсць тыя, хто мае ўладу над іншымі…



1. Як вы разумееце выраз Вальтэра?
2. Чаму сярод гэтай групы малюнкаў менавіта фота з выказваннем Вальтэра мае найбольшы памер?
3. Пакажыце сярод гэтых фота тое, якое можа быць ілюстрацыяй да подпісу размешчанага ў правым ніжнім куце фрагмента.
4. Растлумачце, чаму вы абралі менавіта гэтае фота.
5. Што агульнага вы заўважылі ў прадстаўленых ў фрагменце фота?
6. Некаторыя фота сімвалізуюць канфлікт. Хто з’яўляецца бакамі гэтага канфлікту?

**ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА — гэта ўніверсальныя, неад'емныя агульначалавечыя каштоўнасці, якія ад нараджэння належаць і гарантуюцца кожнаму чалавеку ў яго ўзаемасувязях з дзяржавай.**



Як прыведзенае выказванне можна звязаць з двума папярэднімі фрагментамі?

**«Канцэпцыя правоў чалавека грунтуецца на трох асноўных палажэннях:**

*1) любая ўлада абмежаваная;*

*2) кожны чалавек мае свой аўтаномны свет, у які не можа ўмешвацца аніякая ўлада;*

*3) кожны чалавек, абараняючы свае правы, можа высоўваць прэтэнзіі дзяржаве, дамагацца захавання сваіх правоў».*

**Віктар Асяцінскі,**
гісторык, палітолаг, прафесар Цэнтральнаеўрапейскага ўніверсітэта ў Будапешце, Хельсінкскі фонд правоў чалавека (Варшава, Польшча)





1. Чаму менавіта гэтыя тры палажэнні навуковец абраў як асноватворныя для канцэпцыі правоў чалавека?
2. Чаму любая ўлада павінна быць абмежаванай?
3. Як вы думаеце, што менавіта ўстанаўлівае межы улады ў дэмакратычным грамадстве?
4. Што менавіта вы разумееце пад патрабаваннем выканання сваіх правоў?
5. Чаму гэтае палажэнне з'яўляецца важным для канцэпцыі правоў чалавека?

Яшчэ ў часы Антычнасці з'яўляюцца ідэі правоў чалавека, чалавечай годнасці і роўнасці ў правах.

Але ў Антычнай Грэцыі гэта датычыла толькі грамадзянаў мужчынскага полу.

Галоўнай асновай прававой сістэмы рымлянаў была роўнасць усіх вольных (нерабоў).



У 1215 годзе з'яўляецца Magna Carta — Вялікая хартыя вольнасцей.

Англійская арыстакратыя і духавенства ўзняліся супраць злоўжыванняў уладай каралём Іаанам і прымусілі яго кіраваць паводле закона.

**«Гэта не трагедыя, калі дыктатар лічыць грамадзяніна сваім рабом. Трагедыя — калі грамадзянін з гэтым згодзен!»**



1. Як вы думаеце, якія прыкметы канцэпцыі правоў чалавека можна ўбачыць у інфармацыі аб Антычнай Грэцыі, Старажытным Рыме, сярэдневяковай Англіі?
2. Што, на вашу думку, можа азначаць фраза «кіраваць паводле закона» ў прыведзеным фрагменце гістарычнай даведкі пра Вялікую хартыю вольнасцей 1215 года?

У 1689 годзе, зноў у Англіі, з'яўляецца «Біль аб правах» — дакумент, які заклаў падмурак першай канстытуцыйнай манархіі. Як і Вялікая хартыя вольнасцей, гэты дакумент змяшчаў пералік правоў, якім пазней дадуць назву — грамадзянскія (асабістыя) і палітычныя правы.

Гэтыя здабыткі ў далейшым памнажаліся і былі замацаваныя ў такіх дакументах, як Дэкларацыя незалежнасці ЗША (1776) і Дэкларацыя правоў чалавека і грамадзяніна ў Францыі (1789), а пазней і ў канстытуцыях гэтых дзяржаваў.





1. Чаму прыведзены ў гістарычнай даведцы перыяд называюць рэвалюцыйным у гісторыі правоў чалавека?
2. Што такое канстытуцыяналізм і чаму гэта паняцце з'яўляецца важным для канцэпцыі правоў чалавека?
3. Звярніце ўвагу на карціну, дзе выяўлена прыняцце Канстытуцыі ЗША. Як вы думаеце, чаму яна мае ўрачысты выгляд?



**«Любая ўлада — ад Бога, я гэта прызнаю, але ад Бога і ўсялякая хвароба. Ці значыць гэта, што забаронена запрашаць лекара?»**

**Жан-Жак Русо** (1712–1778),
французскі пісьменнік, філосаф



1. Што для вас значыць прыведзенае выказванне Жан-Жака Русо?
2. Якім чынам гэтае выслоўе можна звязаць з канцэпцыяй правоў чалавека?

# ПАХОДЖАННЕ ПРАВОЎ ЧАЛАВЕКА



*«Гісторыя правоў чалавека — гэта гісторыя барацьбы. Парадокс, але гэта барацьба за тое, што чалавек мае ад нараджэння».*





*Да сярэдзіны 20-х — 30-х гадоў XX стагоддзя ў Еўропе былі месцы ў заапарках — Баззлі і Турыне, — дзе ў якасці «экзотыкі» дэманстраваліся афрыканцы, азіяты, індусы і эскімосы.*

**Да сярэдзіны XX стагоддзя правы чалавека фактычна заставаліся «правамі белага чалавека». Рабства і расавая сегрэгацыя, перaслед па ідэалагічных перакананнях былі масавай практыкай, часта замацаванай у законе.**



Вызваленне вязняў з канцлагера Асвенцім у 1945 годзе.

**Пасля жахлівых зверстваў Другой сусветнай вайны, злачынстваў супраць чалавецтва і чалавечнасці, у сярэдзіне XX стагоддзя ўзнікае сучасная канцэпцыя правоў чалавека і пачынаюць распрацоўвацца механізмы іх абароны.**

**У 1945 годзе была створана Арганізацыя Аб'яднаных Нацый, а 10 снежня 1948 года была прынята Усеагульная дэкларацыя правоў чалавека.**

**Гэты дакумент мае 30 артыкулаў і абвяшчае пералік правоў, якія належаць КОЖНАМУ ЧАЛАВЕКУ.**



**«Зараз мы стаім на парозе найвялікшай падзеі як у жыцці ААН, так і ў жыцці ўсяго чалавецтва. Гэтая дэкларацыя цалкам можа стаць міжнароднай Вялікай хартыяй вольнасцей для людзей усяго свету».**

**Элеанора Рузвельт**

*З прыняццем пактаў ААН аб грамадзянскіх, палітычных, сацыяльных і эканамічных правах распачаўся працэс іх ратыфікацыі і барацьбы за іх выкананне.*



**Андрэй Дзмітрыевіч Сахараў.**
Лаўрэат Нобелеўскай прэміі міру 1975 года за «бясстрашную падтрымку фундаментальных прынцыпаў міру паміж людзьмі і мужную барацьбу супраць злоўжыванняў уладай і любых формаў уціску чалавечай годнасці».



**Рыгаберта Менчу Тум.**
Лаўрэатка Нобелеўскай прэміі міру 1992 года. Была актыўнай удзельніцай кампаніі супраць парушэнняў правоў чалавека, брала ўдзел у падрыхтоўцы Дэкларацыі ААН аб правах карэнных народаў.



**Далай Лама XIV.**
Лаўрэат Нобелеўскай прэміі міру 1989 года за канструктыўныя і дальнабачныя прапановы па вырашэнні міжнародных канфліктаў, пытанняў правоў чалавека і глабальных экалагічных праблем.



У Беларусі ў часы СССР інфармацыю пра правы чалавека распаўсюджваў дысідэнт **Міхась Кукабака** (нарадзіўся ў 1936 годзе ў Бабруйску). За свае перакананні, адстойванне свабоды слова і распаўсюд Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека Міхась Кукабака быў асуджаны 4 разы, на 17 гадоў пазбаўлены волі ў турмах, лагерах і спецыяльных псіхіятрычных бальніцах. У падтрымку Кукабакі была арганізаваная міжнародная кампанія салідарнасці. У яго абароны выступалі **Amnesty International**, беларуская эміграцыя, акадэмік Андрэй Сахараў, адпаведныя публікацыі з'явіліся ў «New York Times».

**У выніку доўгай барацьбы правы чалавека ператварыліся ў строгія юрыдычныя нормы, якія ўжо значна складаней было ігнараваць тым, хто мае ўладу.**



ВЯСНА праваабарончы цэнтр · Беларускі дом правоў чалавека імя Барыса Звозскава · HUMAN RIGHTS HOUSE FOUNDATION · РОЗУМІЄМО ПРАВА ЛЮДИНИ www.edu.helsinki.org.ua

# ПАХОДЖАННЕ ПРАВОЎ ЧАЛАВЕКА
## (частка другая)



1. Што вы думаеце пра гэтае выслоўе?
2. Чаму гісторыя правоў чалавека звязана з барацьбой?
3. Пра якую менавіта барацьбу ідзе гаворка?

***«Гісторыя правоў чалавека — гэта гісторыя барацьбы. Парадокс, але гэта барацьба за тое, што чалавек мае ад нараджэння».***





*Да сярэдзіны 20-х — 30-х гадоў XX стагоддзя ў Еўропе былі месцы ў заапарках — Базэлі і Турыне, — дзе ў якасці «экзотыкі» дэманстраваліся афрыканцы, азіяты, індусы і эскімосы.*

**Да сярэдзіны XX стагоддзя правы чалавека фактычна заставаліся «правамі белага чалавека». Рабства і расавая сегрэгацыя, пераслед па ідэалагічных перакананнях былі масавай практыкай, часта замацаванай у законе.**



Што аб'ядноўвае гэтыя фота? Што вам вядома пра людзей, якім прысвечаны фота?

1. Што вам вядома пра гэтыя падзеі?
2. Як іх можна звязаць з барацьбой за правы чалавека?

Што маглі адчуваць людзі, якіх «дэманстравалі» ў заапарках? Што маглі адчуваць наведвальнікі? Чаму падобныя месцы былі зачынены? Як суадносіцца наяўнасць такіх месцаў з ідэяй правоў чалавека?



Вызваленне вязняў з канцлагера Асвенцім у 1945 годзе.

**Пасля жахлівых зверстваў Другой сусветнай вайны, злачынстваў супраць чалавецтва і чалавечнасці, у сярэдзіне XX стагоддзя ўзнікае сучасная канцэпцыя правоў чалавека і пачынаюць распрацоўвацца механізмы іх абароны.**



Прынцып неўмяшання ва ўнутраныя справы, які дзейнічаў пасля Першай сусветнай вайны, быў пераасэнсаваны ў выніку ўсведамлення таго, як далёка можа зайсці ўлада ў парушэнні правоў чалавека — праз аналіз таго, што адбылося ў Трэцім рэйху перыяду нацызму.

Генацыд яўрэяў, які атрымаў назву Халакост, знішчэнне цыганаў, людзей з псіхічнымі расстройствамі, пераследу гомасексуалаў, зняволенні сведак Іеговы, расавая палітыка на акупаваных тэрыторыях — усё гэта дало штуршок развіццю ідэі пра «абмежаваны суверэнітэт» або прынцыповага палажэння аб тым, што пытанні захавання правоў чалавека не могуць быць толькі ўнутранай справай дзяржавы.



**«Зараз мы стаім на парозе найвялікшай падзеі як у жыцці ААН, так і ў жыцці ўсяго чалавецтва. Гэтая дэкларацыя цалкам можа стаць міжнароднай Вялікай хартыяй вольнасцей для людзей усяго свету».**

**Элеанора Рузвельт**



1. Што вы ведаеце пра расавую палітыку нацыстаў, пра канцэнтрацыйныя лагеры? Чаму падобная палітыка стала магчымай?
2. Як, на вашу думку, такая палітыка і яе наступствы звязаны са стварэннем у 1945 годзе Арганізацыі Аб’яднаных Нацый і распрацоўкай міжнародных механізмаў абароны правоў чалавека?



Элеанора Рузвельт ўзначальвала Камісію ААН па правах чалавека і адыграла значную ролю ў падрыхтоўцы Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека. Прапаноўваючы яе на разгляд Генеральнай асамблеі ААН, яна сказала: «Цяпер мы стаім на парозе найвялікшай падзеі як у жыцці ААН, так і ў жыцці ўсяго чалавецтва. Гэтая дэкларацыя цалкам можа стаць міжнароднай Вялікай хартыяй вольнасцей для людзей усяго свету». Тэкст Дэкларацыі быў перакладзены на 375 моваў і дыялектаў і стаў першым глабальным вызначэннем правоў, якімі валодаюць усе людзі. Важна ведаць, што ў гады з’яўлення Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека значная колькасць краінаў яшчэ заставалася ў каланіяльным стане, аўтарытарныя рэжымы панавалі ў СССР і краінах-сатэлітах, у свеце існавалі ваенныя дыктатуры, у ЗША расавая сегрэгацыя заставалася замацаванай на заканадаўчым узроўні.



Чаму ў сярэдзіне XX ст. Элеанора Рузвельт параўнала Усеагульную дэкларацыю правоў чалавека з Вялікай хартыяй вольнасцей XIII ст.?

*З прыняццем пактаў ААН аб грамадзянскіх, палітычных, сацыяльных і эканамічных правах распачаўся працэс іх ратыфікацыі і барацьбы за іх выкананне.*



У чым юрыдычная розніца паміж Усеагульнай дэкларацыяй правоў чалавека (1948), Міжнароднымі пактамі ААН аб грамадзянскіх і палітычных правах, эканамічных, сацыяльных і культурных правах (1966) і Канвенцыяй аб абароне правоў чалавека і асноўных свабодаў Савета Еўропы (1950)?



**Андрэй Дзмітрыевіч Сахараў.**
Лаўрэат Нобелеўскай прэміі міру 1975 года за «бясстрашную падтрымку фундаментальных прынцыпаў міру паміж людзьмі і мужную барацьбу супраць злоўжыванняў уладай і любых формаў уціску чалавечай годнасці».



**Рыгаберта Менчу Тум.**
Лаўрэатка Нобелеўскай прэміі міру 1992 года. Была актыўнай удзельніцай кампаніі супраць парушэнняў правоў чалавека, брала ўдзел у падрыхтоўцы Дэкларацыі ААН аб правах карэнных народаў.



**Далай Лама XIV.**
Лаўрэат Нобелеўскай прэміі міру 1989 года за канструктыўныя і дальнабачныя прапановы па вырашэнні міжнародных канфліктаў, пытанняў правоў чалавека і глабальных экалагічных праблем.

У Беларусі ў часы СССР інфармацыю пра правы чалавека распаўсюджваў дысідэнт **Міхась Кукабака** (нарадзіўся ў 1936 годзе ў Бабруйску). За свае перакананні, адстойванне свабоды слова і распаўсюд Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека Міхась Кукабака быў асуджаны 4 разы, на 17 гадоў пазбаўлены волі ў турмах, лагерах і спецыяльных псіхіятрычных бальніцах. У падтрымку Кукабакі была арганізаваная міжнародная кампанія салідарнасці. У яго абарону выступалі **Amnesty International**, беларуская эміграцыя, акадэмік Андрэй Сахараў, адпаведныя публікацыі з'явіліся ў «New York Times».



**У выніку доўгай барацьбы правы чалавека ператварыліся ў строгія юрыдычныя нормы, якія ўжо значна складаней было ігнараваць тым, хто мае ўладу.**



У 1975 годзе А. Сахараў быў узнагароджаны Нобелеўскай прэміяй міру з указаннем: «За бясстрашную падтрымку фундаментальных прынцыпаў міру паміж людзьмі і мужную барацьбу са злоўжываннем уладай і любымі формамі падаўлення чалавечай годнасці».



1. Якім чынам ажыццяўляецца кантроль за выкананнем дзяржавамі міжнародных абавязальніцтваў па выкананні правоў чалавека?
2. Што вы ведаеце аб сістэме абароны правоў чалавека Арганізацыі Аб'яднаных Нацый?
3. Што вы ведаеце аб сістэме абароны правоў чалавека Савета Еўропы?
4. Як працуе нацыянальная сістэма абароны правоў чалавека ў нашай краіне?

Адказваючы на гэтыя пытанні, звярніце ўвагу — якія дакументы існуюць, што з'яўляецца асновай пабудовы гэтых сістэмаў абароны правоў чалавека, якія арганізацыі гэтым займаюцца і якія працэдуры ствараюць магчымасць функцыянавання гэтых сістэмаў.

# § 3. ГОДНАСЦЬ

Нам не ўдасца ў поўнай ступені зразумець філасофскія асновы канцэпцыі правоў чалавека, калі мы не высветлім для сябе, што такое чалавечая годнасць. Гэтае паняцце з'яўляецца ключавым для разумення канцэпцыі ў цэлым. Чалавечая годнасць з'яўляецца крыніцай правоў чалавека. Увесь комплекс правоў і свабод існуе менавіта дзеля абароны годнасці чалавека ад замахаў.

Павага да чалавечай годнасці — гэта прызнанне самадастатковай каштоўнасці чалавека. Гэта прыняцце таго факту, што чалавек жыве дзеля рэалізацыі свайго ўласнага патэнцыялу, а не дзеля таго, каб служыць сродкам дасягнення мэтаў іншых людзей.

Украінскі праваабаронца і педагог Сяргій Бураў лічыць чалавечую годнасць своеасаблівай «лакмусавай паперкай», якая можа падаваць знак аб магчымых парушэннях правоў чалавека. Калі мы адчуваем прыніжэнне або боль — пакутуе чалавечая годнасць. Калі прычынай пакуты, болю з'яўляюцца дзеянні дзяржавы — гэта сітуацыя парушэння правоў чалавека.

Але ці значыць, што заўсёды, калі мы адчуваем крыўду, мы можам сцвярджаць, што нашыя правы чалавека парушаныя? Не, гэта не так. Не варта блытаць чалавечую годнасць з той годнасцю, якую разам з гонарам і дзелавой рэпутацыяй абараняе ад замахаў Грамадзянскі кодэкс. Вядучы польскі абаронца правоў чалавека Марэк Навіцкі прапаноўваў адрозніваць чалавечую і асабістую годнасць.

Асабістая годнасць, паводле ягонай класіфікацыі, — гэта сінонім паняццяў «гонар» і «рэпутацыя», яна можа мяняцца ў залежнасці ад таго, якія ўчынкі мы робім і як іх ацэньвае грамадства. Такая годнасць «расце», калі мы робім добрыя ўчынкі, і «памяншаецца», калі робім дрэнныя. У адрозненне ад яе, чалавечая годнасць — гэта нешта вельмі блізкае да самой сутнасці чалавечнасці. Гэта тое, што робіць чалавека чалавекам. Яна з'яўляецца разам з намі, і яе «аб'ём» не залежыць ад нашых паводзінаў. Яна ёсць і застаецца аднолькавай як у страшнага злачынцы, гэтак і ў дзіцяці, якое толькі нарадзілася і не зрабіла яшчэ ані добрых, ані дрэнных учынкаў. Пакаранне злачынца, які сядзіць у турме, складаецца з абмежавання свабоды, абмежавання многіх іншых правоў і свабод. Але гэта не значыць, што чалавека можна катаваць.

Менавіта чалавечая, а не асабістая годнасць з'яўляецца крыніцай правоў чалавека, і менавіта яна згадваецца ў прэамбулах галоўных міжнародных дакументаў, якімі абвяшчаюцца асноўныя правы і свабоды чалавека.

Аднак, нягледзячы на значнасць гэтага паняцця, агульнапрынятага вызначэння чалавечай годнасці не існуе. Значна працей адчуць яе, калі на яе аказваецца наступ, чым сфармуляваць, што гэта такое, мовай філасофіі або юрыспрудэнцыі.

Але, паводле словаў Марэка Навіцкага, ані тэорыя, ані практычнае ўвасабленне канцэпцыі правоў чалавека немагчымыя без прызнання чалавечай годнасці яе падмуркам. Гэтак жа, як немагчыма пабудаваць матэматыку як навуку без паняцця «мноства» або фізіку без паняццяў «хуткасць» ці «адлегласць», па вызначэнні якіх таксама няма кансэнсусу ў навуковым асяроддзі.

Чалавечая годнасць — гэта зацвярджэнне падабенства ўсіх людзей і адначасова ўнікальнасці кожнага чалавека. На думку ўкраінскага праваабаронцы Дзмітрыя Гройсмана, чалавечая годнасць выцякае з фундаментальных біялагічных асаблівасцяў чалавека. З таго, што аб'ядноўвае нас усіх: рэагаванне на боль, патрэба ў зносінах і працягу роду, пэўныя біялагічныя канстанты, такія як дыяпазон камфортных для чалавека тэмператур, і многія іншыя характарыстыкі. Менавіта гэтае «біялагічнае падабенства» фарміруе прыкладна аднолькавыя патрэбы людзей і іх патрабаванні ў адносінах да сябе.

Годнасць чалавека грунтуецца на ўнікальнасці кожнага і кожнай з нас, на непаўторнасці спалучэння асабістых якасцяў, пачуццяў, думак. На прызнанні таго, што ніколі раней не існавала і ўжо ніколі пасля нас у свеце не будзе існаваць такога чалавека, як кожны і кожная з нас.

Разумеючы каштоўнасць гэтага, праваабаронцы заўсёды супраць нават мінімальнага наступу на чалавечую годнасць. Сёння ад неправамерных дзеянняў або бяздзейнасці ўлад пакутуе іншы чалавек — заўтра гэта можа адбыцца з кожным і кожнай з нас. Бо ўсе мы — людзі.

# ГОДНАСЦЬ



*«Ёй нельга даць азначэнне,
але яе можна адчуваць.
Яе мае кожны чалавек».*





**Чалавечая годнасць з'яўляецца крыніцай правоў чалавека.**

Гэта своеасаблівая лакмусавая паперка, якая можа быць знакам магчымых парушэнняў правоў чалавека. Калі мы адчуваем прыніжэнне або боль — пакутуе чалавечая годнасць. Калі прычынамі прыніжэння або болю з'яўляюцца дзеянні дзяржавы — гэта сітуацыя парушэння правоў чалавека.

**Кожны чалавек мае годнасць ужо таму, што ён — чалавек. Гэта падмурак, на якім грунтуецца канцэпцыя правоў чалавека. Правы і свабоды чалавека стаяць на абароне чалавечай годнасці.**

«Чалавечую годнасць варта адрозніваць ад асабістай годнасці, якая з'яўляецца паняццем, блізкім да гонару, — такую годнасць трэба "зарабіць", яна расце, калі мы паводзім сябе высакародна і прыстойна; можна яе згубіць, калі мы дзейнічаем ганебна. **Для правоў чалавека істотным з'яўляецца першае паняцце — чалавечая годнасць».**

«Правы чалавека не гарантуюць, што мы будзем каханымі, шчаслівымі, што нам будзе спадарожнічаць поспех, не гарантуюць нават справядлівасці або мінімуму дабрабыту — яны абараняюць нас ад прыніжэння, замаху на нашу годнасць».



**Марэк Навіцкі,**
старшыня Хельсінкскага фонду
па правах чалавека (Варшава, Польшча)
у 1990–2003 гадах



Нельга дазволіць, каб правы чалавека «трошкі выконваліся» або «трошкі парушаліся».

Пакутуе чалавечая годнасць.
Пакутуе феномен чалавечай прыроды.

**Чалавечая годнасць не залежыць ад нашых паводзінаў. Яна аднолькава існуе і застаецца як у страшнага злачынцы, так і ў дзіцяці, якое толькі што нарадзілася і не здзейсніла ані добрых, ані кепскіх учынкаў.**



Акупаваўшы Данію, нацысты прымусілі мясцовае яўрэйскае насельніцтва насіць жоўтую зорку.

У адказ дацкі кароль **Крысціян X** заявіў: «Калі яўрэяў Даніі прымушаюць насіць сімвал, які адрозніва іх ад іншых суайчыннікаў, то я і мая сям'я таксама будзем насіць гэты сімвал».

**Загад пра жоўтую зорку так і не быў уведзены.**



Канцлер ФРГ **Вілі Брант** прынёс прабачэнні ад імя немцаў за злачынствы нацызму.

Гэтую публічную заяву ён зрабіў перад помнікам героям і ахвярам паўстання ў Варшаўскім гета.

Паэтка **Ларыса Геніюш** (1910–1983) арыштаваная ў 1948 годзе, у Мінску яе дапытваў міністр дзяржбяспекі БССР Лаўрэнці Цанава. На патрабаванне паэткі звяртацца да яе па-беларуску праграждаў катаваннямі. Ларысу Геніюш асудзілі на 25 гадоў.

У лагерах Комі АССР і Мардоўскай АССР яна пісала вершы і распаўсюджвала сярод зняволеных. Вязні называлі яе вершы глюкозай, вучылі на памяць. Паэзія дапамагала выжыць.



У 1956 годзе Ларыса Геніюш вызваленая і вярнулася ў Беларусь. Жыла ў Зэльве з пазнакай у пашпарце «без грамадзянства», адмаўлялася прыняць грамадзянства СССР.

27 гадоў жыцця Ларысы Геніюш прайшло пад наглядам КДБ. І ў 2017 годзе з Генеральнай пракуратуры Беларусі дадзены адказ на зварот грамадзянаў: «Геніюш Л. А. прызнана не падлеглай рэабілітацыі».












# ГОДНАСЦЬ



*«Ёй нельга даць азначэнне,*
*але яе можна адчуваць.*
*Яе мае кожны чалавек».*






**Чалавечая годнасць з’яўляецца крыніцай правоў чалавека.**

Гэта своеасаблівая лакмусавая паперка, якая можа быць знакам магчымых парушэнняў правоў чалавека. Калі мы адчуваем прыніжэнне або боль — пакутуе чалавечая годнасць. Калі прычынамі прыніжэння або болю з’яўляюцца дзеянні дзяржавы — гэта сітуацыя парушэння правоў чалавека.



Што магло б выглядаць на фота інакш, калі б яно было зроблена ў нашы дні?

**Кожны чалавек мае годнасць ужо таму, што ён — чалавек. Гэта падмурак, на якім грунтуецца канцэпцыя правоў чалавека. Правы і свабоды чалавека стаяць на абароне чалавечай годнасці.**

«Чалавечую годнасць варта адрозніваць ад асабістай годнасці, якая з’яўляецца паняццем, блізкім да гонару, — такую годнасць трэба “зарабіць”, яна расце, калі мы паводзім сябе высакародна і прыстойна; можна яе згубіць, калі мы дзейнічаем ганебна. **Для правоў чалавека істотным з’яўляецца першае паняцце — чалавечая годнасць».**

«Правы чалавека не гарантуюць, што мы будзем каханымі, шчаслівымі, што нам будзе спадарожнічаць поспех, не гарантуюць нават справядлівасці або мінімуму дабрабыту — яны абараняюць нас ад прыніжэння, замаху на нашу годнасць».



**Марэк Навіцкі,**
старшыня Хельсінкскага фонду
па правах чалавека (Варшава, Польшча)
у 1990–2003 гадах



Як вы разумееце розніцу паміж чалавечай і асабістай годнасцю?
Што мае на ўвазе М. Навіцкі, калі кажа, што правы чалавека дазваляюць нам захаваць індывідуальнасць і непаўторнасць?



Нельга дазволіць, каб правы чалавека «трошкі выконваліся» або «трошкі парушаліся».

Пакутуе чалавечая годнасць.
Пакутуе феномен чалавечай прыроды.



«Няма ніводнага чалавека, які быў бы сам па сабе, як востраў: кожны чалавек — гэта лапік зямлі, частка сушы. Калі скалу змывае морам з берага, меншае Еўропа, гэтак жа, як і тады, калі вада паглынае ўсю скалу ці дом твайго сябра або твой дом, бо са смерцю кожнага чалавека меншаю і я, бо я адзіны з усім чалавецтвам, і таму ніколі не пытай, па кім звоніць звон, — ён звоніць па табе».

**Джон Дон**



Прачытайце радкі англійскага паэта Джона Дона і паспрабуйце параўнаць выказанае ім меркаванне з выяўленым малюнкам і тэкстам ідэі пра тое, што чалавечая годнасць не залежыць ад нашых асабістых якасцяў.

**Чалавечая годнасць не залежыць ад нашых паводзінаў. Яна аднолькава існуе і застаецца як у страшнага злачынцы, так і ў дзіцяці, якое толькі што нарадзілася і не здзейсніла ані добрых, ані кепскіх учынкаў.**



Акупаваўшы Данію, нацысты прымусілі мясцовае яўрэйскае насельніцтва насіць жоўтую зорку.

У адказ дацкі кароль **Крысціян X** заявіў: «Калі яўрэяў Даніі прымушаюць насіць сімвал, які адрозніває іх ад іншых суайчыннікаў, то я і мая сям’я таксама будзем насіць гэты сімвал».

**Загад пра жоўтую зорку так і не быў уведзены.**



Канцлер ФРГ **Вілі Брант** прынёс прабачэнні ад імя немцаў за злачынствы нацызму.

Гэтую публічную заяву ён зрабіў перад помнікам героям і ахвярам паўстання ў Варшаўскім гета.

Паэтка **Ларыса Геніюш** (1910–1983) арыштаваная ў 1948 годзе, у Мінску яе дапытваў міністр дзяржбяспекі БССР Лаўрэнці Цанава. На патрабаванне паэткі звяртацца да яе па-беларуску пагражаў катаваннямі. Ларысу Геніюш асудзілі на 25 гадоў.

У лагерах Комі АССР і Мардоўскай АССР яна пісала вершы і распаўсюджвала сярод зняволеных. Вязні называлі яе вершы глюкозай, вучылі на памяць. Паэзія дапамагала выжыць.





У 1956 годзе Ларыса Геніюш вызваленая і вярнулася ў Беларусь. Жыла ў Зэльве з пазнакай у пашпарце «без грамадзянства», адмаўлялася прыняць грамадзянства СССР.

27 гадоў жыцця Ларысы Геніюш прайшло пад наглядам КДБ. І ў 2017 годзе з Генеральнай пракуратуры Беларусі дадзены адказ на зварот грамадзянаў: «Геніюш Л. А. прызнана не падлеглай рэабілітацыі».

# § 4. УНІВЕРСАЛЬНАСЦЬ ПРАВОЎ ЧАЛАВЕКА

Мы можам прэтэндаваць на рэалізацыю многіх правоў, але далёка не ўсе яны адносяцца да катэгорыі «правы чалавека». Не з'яўляюцца правамі чалавека, напрыклад, правы спажыўцоў і іншыя так званыя дагаворныя правы, якія рэгулююць адносіны паміж роўнымі суб'ектамі і могуць быць рэалізаваныя без удзелу дзяржавы. Што ж адрознівае правы чалавека ад правоў іншых катэгорый? Ёсць некалькі такіх прыкмет. Адна з іх — універсальнасць правоў чалавека.

Гэта азначае, што ўсе правы, замацаваныя ў асноўных міжнародных пагадненнях, аднолькава важныя і павінны быць забяспечаныя любому чалавеку на зямлі, незалежна ад яго ўзросту, колеру скуры, сацыяльнага статусу, рэлігіі, якую ён вызнае, ці культуры, у якой ён выхоўваўся. Гэта той мінімум каштоўнасцяў і базавых патрэбаў, якія прызнаныя прадстаўнікамі амаль усіх культур аднолькава важнымі для кожнай без выключэння чалавечага істоты.

Аднак універсальнасць правоў чалавека — гэта прынцып, які выклікае вялікую дыскусію. Дзяржавы, дзе моцная ўлада імкнецца кантраляваць як мага больш сфераў прыватнага жыцця кожнага чалавека, заўсёды спрабавалі паставіць пад сумнеў важнасць грамадзянскіх і палітычных правоў і свабодаў, сцвярджаючы неабходнасць ахвяраваць імі на карысць рэалізацыі сацыяльна-эканамічных і культурных правоў, або правоў развіцця. Напрыклад, Савецкі Саюз называў буржуазнымі і непатрэбнымі для працоўных такія правы, як свабода выказвання, свабода мірных сходаў і асацыяцый, права на свабоду і асабістую недатыкальнасць і іншыя правы першага пакалення. СССР вылучаў на першы план правы другога пакалення — права на працу, права на сацыяльнае забеспячэнне, права на дастатковы жыццёвы ўзровень і іншыя. Вынікі падобнай палітыкі вядомыя — мільёны людзей былі пакараныя або накіраваныя ў лагеры ці на прымусовае псіхіятрычнае лячэнне за выказванне ўласных поглядаў, якія не супадалі з партыйнымі ўстаноўкамі.

Усё гэта рабілася «ў імя працоўнага народа», але ніводзін асобны прадстаўнік гэтага народа не лічыўся вартым павагі як асоба і не меў права на ўласную пазіцыю. Савецкі Саюз спыніў існаванне. І падобную рыторыку сёння працягваюць іншыя краіны, улады якіх бачаць пагрозу ў рэалізацыі грамадзянамі сваіх свабод, разумеючы, што гэта непазбежна зробіць грамадства мацнейшым і дасць людзям магчымасць кантраляваць уладу. Такія краіны сфармулявалі і спрабуюць даказаць канцэпцыю «культурнага рэлятывізму», згодна з якой правы чалавека з'яўляюцца каштоўнасцямі выключна еўрапейскай цывілізацыі і не могуць быць навязаныя іншым культурам. Дыскусія працягваецца.

Дырэктар праграмы «Вяршэнства права» Міжнароднага фонду «Адраджэнне» Раман Раманаў важным аргументам на карысць прынцыпу ўніверсальнасці лічыць тое, што правы чалавека як канцэпцыя зацверджаныя на самых высокіх міжнародных форумах з найшырэйшым на планеце прадстаўніцтвам. Дэкларацыя правоў чалавека, якая была прынятая 10 снежня 1948 года, атрымала сусветнае прызнанне — ніводная з краін, прадстаўленых на той момант у Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, не прагаласавала супраць. На яго думку, правы чалавека як трансфармаваныя ў права маральныя нормы ствараюць аснову для ўкаранення каштоўнасцяў, што ствараліся чалавецтвам у розныя часы на тэрыторыі розных кантынентаў.

Каардынатар Вінніцкай праваабарончай групы Дзмітрый Гройсман тлумачыць універсальнасць правоў чалавека тым, што ўсе чалавечыя істоты аднолькава створаныя біялагічна і маюць аднолькавыя патрабаванні адносна свайго камфорту. Ён лічыць, што праз гэта даволі лёгка вызначыць мінімальны пералік чалавечых патрэбаў, якія абавязкова павінны быць задаволеныя, — тое, што чалавек можа рабіць, і тое, што забаронена рабіць з чалавекам. Гэты мінімальны пералік з'яўляецца ўніверсальным менавіта з прычыны падабенства людзей як біялагічных і сацыяльных істот.

Сапраўды, да якой бы культуры мы ні належалі, наўрад ці мы ўхвалім прымяненне да нас катаванняў, зняваг або адвольнага пазбаўлення волі толькі таму, што так нібыта диктуе сталая традыцыяй. І менавіта галасы ахвяр парушэнняў правоў чалавека з'яўляюцца важкім аргументам супраць канцэпцыі культурнага рэлятывізму на карысць прынцыпу ўніверсальнасці фундаментальных правоў і свабод.

# УНІВЕРСАЛЬНАСЦЬ





**Валянцін Стэфановіч**,
юрыст Праваабарончага цэнтра «Вясна»

*«Адным з нашых прынцыпаў з’яўляецца ўніверсальнасць правоў чалавека, мы абараняем кожнага без выключэння і дыскрымінацыі па якіх бы там ні было прыкметах: расы, колеру скуры, полу, сексуальнай арыентацыі, гендарнай ідэнтычнасці, мовы, рэлігіі, палітычных ды іншых перакананняў, нацыянальнага або сацыяльнага паходжання, маёмаснага становішча, нараджэння ці іншых абставінаў. Праваабаронца не можа дапускаць расісцкіх, гамафобных і іншых прыніжаючых выказванняў, рознага роду дыскрымінацыі, выступаць за смяротнае пакаранне».*



**У свеце жывуць мужчыны і жанчыны, дарослыя і дзеці, людзі з розным колерам скуры, якія размаўляюць на розных мовах, злачынцы і праведнікі, багатыя і бедныя.**

**Мы можам вызнаваць розныя рэлігіі або належаць да розных культур. Але правы чалавека належаць кожнаму з нас без выключэння, незалежна ад таго, дзе мы жывём, каго любім або якую рэлігію вызнаём.**







Асобныя крытыкі сцвярджаюць, што правы чалавека не могуць быць вызначальнымі, бо ў шмат якіх грамадствах склаліся свае культуры.

***«Аднак хто можа адмаўляць, што ўсе мы ненавідзім гвалт? Ці даводзілася вам чуць, каб вольны чалавек патрабаваў адмяніць свабоду? Ці даводзілася вам чуць, каб раб адстойваў рабства? Ці даводзілася вам чуць, каб ахвяра катаванняў услаўляла катаванні? (…)***

***Ва ўсе часы і ва ўсіх культурах цярпімасць і міласэрнасць былі ідэаламі дзяржаўнага кіравання і паводзінаў чалавека. Сёння мы называем гэтыя каштоўнасці правамі чалавека».***

**Кофі Анан**, генеральны сакратар ААН (1997–2006)











Правы чалавека не супярэчаць разнастайнасці культур і індывідуальным асаблівасцям кожнага з нас, а наадварот, могуць іх абараніць.





**Ратыфікацыя Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах, студзень 2013 года**




**Правы чалавека сталі падмуркам для ўкаранення каштоўнасцяў, якія ствараліся чалавецтвам у розныя часы на тэрыторыі розных кантынентаў.**



# УНІВЕРСАЛЬНАСЦЬ



Правы чалавека з'яўляюцца не прадуктам адной культуры, а адпаведнымі стандартамі, выпрацаванымі ў выніку намаганняў усёй міжнароднай супольнасці.

Ідэя правоў чалавека прайшла доўгі шлях развіцця, узбагачаючыся новымі правамі і свабодамі. Але толькі ў XX стагоддзі правы чалавека прызналі галоўнай каштоўнасцю, што адлюстравана ў адпаведных міжнародных дакументах. У сучаснай канцэпцыі правоў чалавека ўвасобіліся думкі з рэлігійных дактрынаў, філасофскіх, палітычных, прававых вучэнняў розных эпохаў. Правы чалавека — гэта агульныя правы і свабоды ўсіх людзей незалежна ад грамадскага ладу, палітычнага рэжыму, формаў дзяржаўнага ладу і кіравання, міжнароднага статусу краіны, грамадзянінам якой з'яўляецца чалавек. Пытанні правоў чалавека, асноўных свабодаў, дэмакратыі і вяршэнства закона маюць міжнародны характар, паколькі іх захаванне — адна з асноваў светапарадку.

У правах чалавека адлюстраваны найважнейшыя агульначалавечыя каштоўнасці, якімі павінен валодаць кожны індывід, кім бы ён ні быў і дзе б ні пражываў. Яны ўніверсальныя, то бок ёсць здабыткам кожнага (міжнародная супольнасць прызнае правы за ўсім людзьмі), непадзельныя, узаемазвязаныя і ўзаемаабумоўленыя.




**Валянцін Стэфановіч,**
юрыст Праваабарончага цэнтра «Вясна»

*«Адным з нашых прынцыпаў з'яўляецца ўніверсальнасць правоў чалавека, мы абараняем кожнага без выключэння і дыскрымінацыі па якіх бы там ні было прыкметах: расы, колеру скуры, полу, сексуальнай арыентацыі, гендарнай ідэнтычнасці, мовы, рэлігіі, палітычных ды іншых перакананняў, нацыянальнага або сацыяльнага паходжання, маёмаснага становішча, нараджэння ці іншых абставінаў. Праваабаронца не можа дапускаць расісцкіх, гамафобных і іншых прыніжаючых выказванняў, рознага роду дыскрымінацыі, выступаць за смяротнае пакаранне».*





**У свеце жывуць мужчыны і жанчыны, дарослыя і дзеці, людзі з розным колерам скуры, якія размаўляюць на розных мовах, злачынцы і праведнікі, багатыя і бедныя.**

**Мы можам вызнаваць розныя рэлігіі або належаць да розных культур. Але правы чалавека належаць кожнаму з нас без выключэння, незалежна ад таго, дзе мы жывём, каго любім або якую рэлігію вызнаём.**













Паглядзіце на фатаграфіі і назавіце праявы разнастайнасці чалавечых ідэнтычнасцяў.

Чым адрозніваюцца асобныя фота? Чым яны падобныя?

Прачытаўшы тэкст, сфармулюйце сваю ўласную выснову да яго.



Існавала меркаванне, што Дэкларацыя правоў чалавека адлюстроўвае ідэі заходняга грамадства.

Амерыканскі антраполаг Мэлвіл Хэрсковіц падрыхтаваў праект Заявы аб правах чалавека, у якой гаворыцца: «...Дэкларацыя павінна мець міжнародную дастасавальнасць. Яна павінна ахапіць і прызнаць законнасць многіх розных спосабаў жыцця. Не будзе ён дзейнічаць пераканаўча на інданезійца, афрыканца, кітайца, калі будзе знаходзіцца ў той жа плоскасці, як і іншыя падобныя дакументы адносна больш ранняга перыяду. Правы чалавека ў дваццатым стагоддзі не могуць быць абмежаваныя стандартамі адной адзінай культуры ці прадыктаваныя імкненнямі аднаго народа».

Вялікую ролю ў выпрацоўцы міжнародных стандартаў правоў чалавека адыграла Арганізацыя Аб'яднаных Нацый. Дзякуючы працяглай і мэтанакіраванай дзейнасці ААН універсальнасць правоў чалавека выразна вызначана і прызнана міжнародным правам.

Асобныя крытыкі сцвярджаюць, што правы чалавека не могуць быць вызначальнымі, бо ў шмат якіх грамадствах склаліся свае культуры.



***«Аднак хто можа адмаўляць, што ўсе мы ненавідзім гвалт? Ці даводзілася вам чуць, каб вольны чалавек патрабаваў адмяніць свабоду? Ці даводзілася вам чуць, каб раб адстойваў рабства? Ці даводзілася вам чуць, каб ахвяра катаванняў услаўляла катаванні? (...)***

***Ва ўсе часы і ва ўсіх культурах цярпімасць і міласэрнасць былі ідэаламі дзяржаўнага кіравання і паводзінаў чалавека. Сёння мы называем гэтыя каштоўнасці правамі чалавека».***

**Кофі Анан**, генеральны сакратар ААН (1997–2006)



Што вам вядома пра ААН?

Што робіць гэтая арганізацыя для абароны правоў чалавека?









Правы чалавека не супярэчаць разнастайнасці культур і індывідуальным асаблівасцям кожнага з нас, а наадварот, могуць іх абараніць.







Ці залежаць правы чалавека ад полу, узросту, расы, этнічнасці, сацыяльнага становішча і інш.?

Вазьміце тэкст Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека або іншы дакумент, у якім ёсць пералік правоў і свабодаў чалавека, і паспрабуйце адказаць на гэтае пытанне, выбраўшы адно з правоў чалавека, названае ў пераліку, і ўмоўна ўявіўшы сябе ў іншай ролі (напрыклад, «Вы — жыхары беднага сяла ў Заходняй Афрыцы», «Вы — жанчыны», «Вы — падлеткі з Мексікі», «Вы — старыя французы» і да т.п.).



Дзейнасць Еўрапейскага суда па правах чалавека — яскравы прыклад таго, як у пытаннях забеспячэння правоў чалавека дзяржавы абмяжоўваюць свой суверэнітэт на карысць міжнароднага органа правасуддзя. Эфектыўная сістэма абароны правоў чалавека, якую можна лічыць своеасаблівым эталонам, зробленая ў Еўропе. Нягледзячы на тое, што і на тэрыторыі гэтага кантынента вызнаюць розныя рэлігіі, кожны народ мае сваю гісторыю і культуру, але існуюць каштоўнасці, паважаныя ўсімі, хто пражывае тут. Стварэнне сістэмы міжнароднага кантролю за выкананнем правоў чалавека — адно з найважнейшых дасягненняў гэтай аўтарытэтнай структуры. Чэшска-французскі вучоны Карэл Васак адзначыў: «Каштоўнасць Канвенцыі (Канвенцыя аб абароне правоў чалавека і асноўных свабодаў Савета Еўропы. — *Аўт.*) вызначаецца фактычна яе механізмам, а не правамі, якія яна абараняе. Упершыню ў гісторыі чалавецтва існуе міжнародны механізм, які функцыянуе па-за дзяржавай і выказвае агульныя каштоўнасці ўсяго чалавецтва».




**Правы чалавека сталі падмуркам для ўкаранення каштоўнасцяў, якія стваraліся чалавецтвам у розныя часы на тэрыторыі розных кантынентаў.**



Ці ёсць ва ўмовах жыцця або культурах розных краінаў значныя адрозненні, якія могуць уплываць на адрозненні ў патрэбах людзей?



Такія адрозненні сапраўды ёсць і ўлічаныя ў іншых міжнародных дакументах.

Міжамерыканская сістэма абароны правоў чалавека была створана ў межах Арганізацыі амерыканскіх дзяржаваў. Міжамерыканская канвенцыя аб правах чалавека была прынятая 20 лістапада 1969 года. Пералік правоў у ёй значна шырэйшы, чым у Еўрапейскай канвенцыі. У прыватнасці, яна змяшчае такія правы, як права на імя, правы дзіцяці, права на грамадзянства ці нацыянальнасць, права на роўнасць перад законам, права на прытулак і інш.

Афрыканская рэгіянальная сістэма абароны правоў чалавека была заснаваная ў 1981 годзе, калі Асамблея кіраўнікоў дзяржаваў і ўрадаў Арганізацыі афрыканскага адзінства прыняла Афрыканскую хартыю правоў чалавека і народаў (набыла сілу ў 1986 г.). У Хартыі (нароўні з правамі чалавека) замацаваныя правы народаў: усе народы маюць права на нацыянальную і міжнародную бяспеку, існаванне, карыстанне прыроднымі рэсурсамі, абвяшчаюцца абавязкі чалавека ў адносінах да сям'і, грамадства, дзяржавы.

Аднак пэўныя адрозненні ў гэтых дакументах не адмаўляюць універсальнасці Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека.

Гэта азначае, што палітычныя, грамадзянскія, культурныя, эканамічныя і сацыяльныя правы чалавека варта разглядаць у іх сукупнасці. Ніхто не можа выбіраць, якія правы заахвочваць і абараняць, усе яны раўнацэнныя і распаўсюджваюцца на ўсіх. Універсальнасць правоў чалавека гарантуе роўнасць правоў і свабод чалавека, незалежна ад полу, расы, нацыянальнасці, мовы, паходжання, маёмаснага або службовага становішча, месца жыхарства, рэлігійных і іншых перакананняў, прыналежнасці да грамадскіх аб'яднанняў, а таксама іншых абставінаў.

# § 5. НЕАД'ЕМНАСЦЬ І ІНДЫВІДУАЛЬНАСЦЬ

Яшчэ адной важнай прыкметай правоў чалавека з'яўляецца іх неад'емнасць.

Прынцып неад'емнасці правоў чалавека выцякае з прызнання таго, што правы і свабоды нараджаюцца разам з кожным і кожнай з нас. Правы чалавека — гэта частка чалавечай прыроды. Нас можна шмат чаго пазбавіць, але ніхто не можа прымусіць чалавека перастаць быць чалавекам. Гэтак жа і з нашымі правамі — іх ніхто нам не дарыў і таму ніхто не мае ўлады іх у нас адабраць.

Існуюць сітуацыі, у якіх магчымасці рэалізацыі нашых правоў могуць і нават павінны быць абмежаваныя. Напрыклад, калі чалавек здзейсніў злачынства, дзяржава ў адпаведнасці з законам можа абмежаваць свабоду ягонага перамяшчэння, звузіць сферу прыватнасці і яшчэ шэрагу свабодаў. Магчымасць рэалізацыі многіх правоў і свабод можа быць абмежаваная ва ўмовах вайны або надзвычайнага становішча. Але абмежаванні ў рэалізацыі таго ці іншага права не азначаюць, што мы яго пазбаўленыя. Абмежаванні заўсёды носяць часовы характар і не закранаюць самой сутнасці права. Гэтак жа і ў выпадках парушэнняў: гэта прагучыць парадаксальна, але тыя, хто прычыняе чалавеку пакуты, не пазбаўляе яго права на свабоду ад жорсткага абыходжання; і нават наўмыснае забойства пазбаўляе чалавека толькі жыцця, але ні ў якім разе не права на жыццё. Правы чалавека неад'емныя ад чалавека — іх носьбіта.

Тлумачачы прыроду правоў чалавека, мы таксама заўсёды кажам пра іх індывідуальнасць.

Ці значыць гэта, што кожны чалавек мае свой асабісты набор правоў і свабод, які не абавязкова належыць іншым? Вядома, не — гэта азначае толькі тое, што правы чалавека належаць асабіста кожнаму чалавеку, а не народам, расам, класам або працоўным калектывам. Прызнанне гэтага значна спрашчае вызначэнне суб'екта права. Пагадзіцеся, значна прасцей даць вызначэнне паняццю «чалавек», чым высветліць, дзе пачынаецца і дзе заканчваецца той ці іншы клас або этнас. І хоць ідэя далёка не новая, прызнанне індывідуальнасці як адной з галоўных характарыстык правоў чалавека стала рэвалюцыйным адкрыццём XX стагоддзя. І гэта прызнанне робіць сучасную канцэпцыю правоў чалавека значна менш уразлівай.

Апераванне агульнымі катэгорыямі — сацыяльнымі, этнічнымі, прафесійнымі, узроставымі і іншымі групамі – на думку дырэктара ўкраінскага Цэнтра грамадзянскіх свабодаў Аляксандры Матвійчук, з'яўляецца мовай і прадметам палітыкі. На мове ж правоў чалавека мы будзем казаць аб правах кожнага асобнага чалавека, які адносіць сябе да той ці іншай групы. Каардынатар чарнігаўскай грамадскай арганізацыі «М'АРТ» Сяргей Бураў тлумачыць гэта тым, што кожны чалавек знаходзіцца ў сваім асаблівым становішчы нават тады, калі праблема, ад якой ён пакутуе, тычыцца цэлай групы людзей. Кожны з нас, знаходзячыся ў адной і той жа сітуацыі, адчувае сябе па-рознаму. Гэта залежыць ад асабістых якасцяў і адметнасцяў. Гэта адна з важных прычын, чаму чалавечай годнасці нельга даць вызначэнне абоператварыць яе ў жорсткую норму. Чалавек з інваліднасцю, які перасоўваецца толькі з дапамогай вазка, можа адчуваць прыніжэнне і дыскрымінацыю, не маючы магчымасці патрапіць у залу суда, у той час як іншы чалавек нічога падобнага не адчувае.

Канцэпцыя правоў чалавека працягвае сваё станаўленне. Напрыканцы XX стагоддзя была сфармуляваная канцэпцыя калектыўных, або салідарных, правоў. Суб'ектам гэтых правоў выступаюць вялікія чалавечыя супольнасці — грамадскія групы, народы і нават дзяржавы. Яны паўсталі як адказ на частыя войны, беднасць, стыхійныя і экалагічныя бедствы, якія здараюцца ў шэрагу рэгіёнаў свету і робяць там немагчымым забеспячэнне ўсяго комплексу правоў чалавека. Ідэя калектыўных правоў палягае ў справядлівым пераразмеркаванні рэсурсаў паміж краінамі свету дзеля стварэння ў самых бедных краінах умоў для рэалізацыі правоў першага і другога пакаленняў. Не адмаўляючы неабходнасці справядлівага пераразмеркавання рэсурсаў, прафесар Цэнтральнаеўрапейскага ўніверсітэта Віктар Асяцінскі заўважае, што гэтыя правы вельмі часта робяцца інструментам палітычных маніпуляцый. Напрыклад, у некаторых краінах яны выкарыстоўваюцца аўтарытарнымі рэжымамі як падстава для адмовы ад абавязкаў па захаванні грамадзянскіх і палітычных правоў. Сцвярджаючы, што спачатку патрэбнае «ўстойлівае развіццё» і «дабрабыт», і толькі пасля іх атрымання можна казаць аб рэалізацыі правоў і свабод, улады гэтых дзяржаў патрабуюць рэсурсаў ад развітых краін. Але, паколькі слабыя грамадствы гэтых краін не здольныя кантраляваць уладу, атрыманыя рэсурсы прысвойваюцца кіруючымі коламі і не даходзяць да «канчатковага спажыўца» — людзей, якія там пражываюць.

Большасць тэарэтыкаў не лічаць калектыўныя правы правамі чалавека менавіта праз тое, што такая класіфікацыя фактычна робіць немагчымым вызначэнне суб'екта правоў і суб'ектаў, якія павінны гарантаваць іх рэалізацыю.

# ІНДЫВІДУАЛЬНАСЦЬ



*Правы чалавека належаць кожнаму асобнаму чалавеку — індывідууму. Правы чалавека з'яўляюцца індывідуальнымі.*







*Нават калі праблема датычыць цэлай групы людзей, кожная асоба мае сваю асаблівую сітуацыю. Кожны з нас, знаходзячыся ў аднолькавай сітуацыі, адчувае сябе па-рознаму. Гэта залежыць ад асабістых рысаў і асаблівасцяў.*

*Гэта адна з найважнейшых прычынаў таго, чаму чалавечай годнасці нельга даць азначэння або ператварыць яе ў жорсткую норму.*





*Чалавек з інваліднасцю, які перасоўваецца толькі з дапамогай вазка, можа адчуваць прыніжэнне, не маючы магчымасці трапіць у залу суда, у той час калі іншы чалавек нічога падобнага не адчувае.*





*У Еўрапейскім судзе па правах чалавека разглядалася справа «Прайс супраць Аб'яднанага Каралеўства» — жанчына з інваліднасцю, якая карысталася вазком з электрычным прывадам і не магла самастойна сябе абслугоўваць, скардзілася на жорсткае і прыніжальнае для чалавечай годнасці абыходжанне пад час адбывання пакарання за непавагу да суда. Матэрыялы гэтай справы, паводле ацэнак Еўрапейскага суда па правах чалавека, не ўтрымлівалі звестак аб намеры, скіраваным на прыніжэнне годнасці заяўніцы. Умовы, у якіх яна ўтрымлівалася, былі звычайнымі, ёй рэгулярна надавалі ўвагу і дапамагалі супрацоўнікі персаналу.*

*Аднак Суд вырашыў, што «…утрыманне жанчыны з сур'ёзнай формай інваліднасці ў памяшканні з небяспечна нізкай тэмпературай, дзе праз жорсткі і недасяжны ложак у яе маглі з'явіцца пролежні, дзе яна не магла хадзіць у туалет або мыцца, не адчуваючы пры гэтым надзвычайных цяжкасцяў, з'яўляецца абыходжаннем, якое прыніжае годнасць чалавека…». Для чалавека, які б не меў такіх праблемаў са здароўем, умовы ўтрымання не былі б прыніжальнымі для годнасці.*



**«Трэба выступаць. Нельга маўчаць…»**

Пятро Грыгарэнка

**Пятро Грыгарэнка** — савецкі генерал, украінец, праваабаронца, заснавальнік Маскоўскай і Украінскай Хельсінкскай групы за выкананне правоў чалавека.

**Выступаў за абарону крымскіх татараў і іншых дэпартаваных народаў.**

**У 1964 годзе за легальную праваабарончую дзейнасць разжалаваны ў радавыя.**

**Знаходзіўся ў савецкіх турмах. Памёр у выгнанні ў ЗША.**



**Леў Аўсішчар** (1919, Багушэўск — 2007, Ерусалім) — палкоўнік авіяцыі, герой Другой сусветнай вайны — 670 баявых вылетаў, пад Сталінградам з вышыні 200 метраў зачытваў умовы капітуляцыі арміі Паўлюса.

**У 70-я за ўдзел у руху за права габрэяў на выезд з СССР пазбаўлены вайсковага звання і ўзнагародаў. Падчас афіцыйнага візіту Брэжнева ў ЗША у 1973 годзе Леў Аўсішчар з аднадумцамі правёў у Мінску галадоўку пратэсту і прыйшоў з плакатам «Галадаем! Патрабуем адпусціць у Ізраіль!». З дапамогай Льва Аўсішчара беларускі дысідэнт Міхась Кукабака перадаваў на Захад тэксты.**

**Часам барацьба за свае правы ўсяго аднаго чалавека можа змяніць сітуацыю да лепшага для ўсёй групы людзей, якую гэтая праблема закранула.**





# ІНДЫВІДУАЛЬНАСЦЬ

*Правы чалавека належаць кожнаму асобнаму чалавеку — індывідууму. Правы чалавека з'яўляюцца індывідуальнымі.*





Пaглядзіце на фота.
Якія думкі і эмоцыі ў вас узнікаюць?
Што могуць азначаць гэтыя мядзведзі і чаму яны размаляваны па-рознаму?





United Buddy Bears (садружнасць мядзведзяў Бадзі) — міжнародная мастацкая выстава, якая праходзіла на пяці кантынентах і была прадстаўлена перад мільённай публікай. Яна складалася з карцінаў мастакоў з усяго свету і праходзіла пад дэвізам «Мастацтва і талерантнасць». Мастакі прадставілі яе ў амаль што 150 краінах свету, якія ўваходзяць у склад ААН.

Уваход на выставу абсалютна вольны. У сваім сусветным турнэ United Buddy Bears прапаведуюць мір, любоў, цярплівасць і паразуменне паміж народамі.



Звярніце ўвагу на хлопчыка, які глядзіць на шыльды з подпісамі да кожнага мядзведзя. Уявіце сабе ўсіх хлапчукоў аднаго горада. Ці будуць яны падобнымі? Паспрабуйце даць уласнае тлумачэнне паняцця індывідуальнасці правоў.



Правы чалавека, будучы ад пачатку задуманы галоўным чынам для абароны індывіда ад самавольства з боку дзяржаўнай улады, ніколі не азначалі свабоды большасці выкарыстоўваць наяўную ў кантралюемай імі дзяржаве сілу прымусу па ўласным меркаванні, гэта значыць у шкоду «меншасцяў». Іншымі словамі, міжнародныя нормы маюць сваёй мэтай у той жа ступені абарону ад адвольнага прымянення «дэмакратыі» з боку большасці і ад «дэмакратычнай» улады дзяржавы, як і абарону кожнага асобнага індывіда ад дзяржавы.



*Нават калі праблема датычыць цэлай групы людзей, кожная асоба мае сваю асаблівую сітуацыю. Кожны з нас, знаходзячыся ў аднолькавай сітуацыі, адчувае сябе па-рознаму. Гэта залежыць ад асабістых рысаў і асаблівасцяў.*

*Гэта адна з найважнейшых прычынаў таго, чаму чалавечай годнасці нельга даць азначэння або ператварыць яе ў жорсткую норму.*





Параўнайце дзве фатаграфіі і знайдзіце агульнае паміж імі.
Як гэтыя фота звязаны з тэмай індывідуальнасці правоў чалавека?



*Чалавек з інваліднасцю, які перасоўваецца толькі з дапамогай вазка, можа адчуваць прыніжэнне, не маючы магчымасці трапіць у залу суда, у той час калі іншы чалавек нічога падобнага не адчувае.*





Як вы разумееце прыведзены тэкст?



*У Еўрапейскім судзе па правах чалавека разглядалася справа «Прайс супраць Аб'яднанага Каралеўства» — жанчына з інваліднасцю, якая карысталася вазком з электрычным прывадам і не магла самастойна сябе абслугоўваць, скардзілася на жорсткае і прыніжальнае для чалавечай годнасці абыходжанне пад час адбывання пакарання за непавагу да суда. Матэрыялы гэтай справы, паводле ацэнак Еўрапейскага суда па правах чалавека, не ўтрымлівалі звестак аб намеры, скіраваным на прыніжэнне годнасці заяўніцы. Умовы, у якіх яна ўтрымлівалася, былі звычайнымі, ёй рэгулярна надавалі ўвагу і дапамагалі супрацоўнікі персаналу.*

*Аднак Суд вырашыў, што «…утрыманне жанчыны з сур'ёзнай формай інваліднасці ў памяшканні з небяспечна нізкай тэмпературай, дзе праз жорсткі і недасяжны ложак у яе маглі з'явіцца пролежні, дзе яна не магла хадзіць у туалет або мыцца, не адчуваючы пры гэтым надзвычайных цяжкасцяў, з'яўляецца абыходжаннем, якое прыніжае годнасць чалавека…». Для чалавека, які б не меў такіх праблемаў са здароўем, умовы ўтрымання не былі б прыніжальнымі для годнасці.*



Азнаёмцеся са скарочаным тэкстам справы "Прайс супраць Злучанага Каралеўства".
Растлумачце, як вы разумееце рашэнне суда ў кантэксце індывідуальнасці правоў.



**«Трэба выступаць. Нельга маўчаць…»**

Пятро Грыгарэнка

**Пятро Грыгарэнка** — савецкі генерал, украінец, праваабаронца, заснавальнік Маскоўскай і Украінскай Хельсінкскай групы за выкананне правоў чалавека.

**Выступаў за абарону крымскіх татараў і іншых дэпартаваных народаў.**

**У 1964 годзе за легальную праваабарончую дзейнасць разжалаваны ў радавыя.**

**Знаходзіўся ў савецкіх турмах. Памёр у выгнанні ў ЗША.**



**Леў Аўсішчар** (1919, Багушэўск — 2007, Ерусалім) — палкоўнік авіяцыі, герой Другой сусветнай вайны — 670 баявых вылетаў, пад Сталінградам з вышыні 200 метраў зачытваў умовы капітуляцыі арміі Паўлюса.

**У 70-я за ўдзел у руху за права габрэяў на выезд з СССР пазбаўлены вайсковага звання і ўзнагародаў. Падчас афіцыйнага візіту Брэжнева ў ЗША у 1973 годзе Леў Аўсішчар з аднадумцамі правёў у Мінску галадоўку пратэсту і прыйшоў з плакатам «Галадаем! Патрабуем адпусціць у Ізраіль!». З дапамагой Льва Аўсішчара беларускі дысідэнт Міхась Кукабака перадаваў на Захад тэксты.**

**Часам барацьба за свае правы ўсяго аднаго чалавека можа змяніць сітуацыю да лепшага для ўсёй групы людзей, якую гэтая праблема закранула.**



# § 6. САЛІДАРНАСЦЬ

Сучасная канцэпцыя правоў чалавека мае тры асноўныя складнікі — філасофскі, юрыдычны і этычны. Калі ўявіць гэтую канцэпцыю ў выглядзе будынка, то філасофія будзе яе падмуркам, цэглы выразных юрыдычных нормаў і механізмаў абароны складаюць яе сцены, а этыка — ці «культура правоў чалавека» — служыць растворам, які трывала змацоўвае паміж сабой усе элементы канструкцыі.

Этыка таксама складаецца з некалькіх інгрэдыентаў: дасведчанасці, свядомасці, узаемапавагі, — але галоўным з іх з'яўляецца салідарнасць. Менавіта яе часткова маса, ці не ў першую чаргу, вызначае, наколькі надзейным будзе гэты раствор.

Калісьці французскі філосаф Шарль Луі дэ Мантэск'ё сказаў мудрыя словы: «Несправядлівасць, дапушчаная ў адносінах да аднаго чалавека, з'яўляецца пагрозай усім нам». І нават цяпер, праз 250 гадоў, цяжка больш проста і трапна растлумачыць, што такое салідарнасць і чаму яна важная. Салідарнасць пачынаецца тады, калі мы ўсведамляем, што кожны чалавек на зямлі мае такі ж аб'ём правоў, што і мы. Што годнасць кожнага чалавека такая ж уразлівая і мае патрэбу ў абароне. Салідарнасць — гэта разуменне таго, што кожны замах на годнасць іншага чалавека — гэта выклік самой чалавечай прыродзе, а значыць, выклік і нам таксама. Недатычных не існуе.

І гэтае ўсведамленне не толькі дыктуе нам неабходнасць устрымлівацца ад дзеянняў, якія правакуюць наступ на годнасць іншых людзей, але і падахвочвае ўставаць на дапамогу тым, хто абараняе свае правы і свабоды. Нават калі гэта непасрэдна не закранае нашых інтарэсаў. Нават тады, калі мы не падзяляем поглядаў тых, хто мае патрэбу ў падтрымцы.

Без салідарнасці немагчымая ніводная сапраўдная перамога. Улада нашмат мацнейшая за кожнага з нас, яе не пераконваюць галасы адзінак. А вось калі адзінкі яднаюцца, каб разам заяўляць свае патрабаванні, улада проста вымушаная прыслухоўвацца.

Аб'ядноўваючыся, мы робім мацнейшым адно аднаго і ўрэшце можам стаць мацнейшымі за ўладу.

Менавіта дзякуючы такому яднанню базавыя чалавечыя патрэбы адна за другой былі прызнаныя неад'емнымі правамі і замацаваныя на ўзроўні прававых нормаў. Гэты складаны і драматычны працэс працягваўся шмат стагоддзяў. Людзі, высоўваючы ўладзе свае патрабаванні, атрымлівалі перамогі і цярпелі паразы. Але перамогаў было больш, і зараз усе мы можам карыстацца гэтымі дасягненнямі.

Прыкладам такой салідарнай барацьбы можна адвесці асобны дапаможнік. Прывядзём тут толькі некалькі найбольш значных. Так, на пачатку XIII стагоддзя незадаволеныя ўзмацненнем каралеўскай улады, замахам караля на іх свабоду і ўласнасць англійскія бароны здолелі аб'яднацца з духавенствам, рыцарамі і часткай свабодных грамадзян і высунуць свае патрабаванні каралю Іаану Беззямельнаму. Наўрад ці ён з уласнай волі адмовіўся б ад сваёй фактычна неабмежаванай улады, але сіла пратэсту была большая за сілу яго войска, і ён быў вымушаны прызнаць і гарантаваць пратэстантам той аб'ём правоў і прывілеяў, які яны патрабавалі. Так у 1215 годзе нарадзілася Вялікая хартыя вольнасцяў — дакумент, які істотна паўплываў на станаўленне брытанскага канстытуцыяналізму і развіцця канцэпцыі правоў чалавека наогул.

Праз 500 гадоў пасля гэтага таксама англічане, але ўжо на іншым кантыненце, былі абураныя несправядлівым і пастаянным ростам падаткаў, а таксама няроўным стаўленнем да іх з боку метраполіі. Яны паўсталі супраць улады і са зброяй у руках здабылі незалежнасць ад Брытанскай кароны. Людзі, якія належалі да розных палітычных класаў і сацыяльных груп, змаглі аб'яднацца дзеля абароны фундаментальных каштоўнасцяў — чалавечай годнасці, роўнасці і свабоды. Так нарадзіліся ЗША — першая ў свеце краіна, якая паклала прынцыпы правоў чалавека ў аснову сваёй дзяржаўнасці.

Але за рэалізацыю абвешчаных у амерыканскай канстытуцыі правоў многім амерыканцам давялося змагацца яшчэ больш за 200 гадоў. Да сярэдзіны XX стагоддзя дыскрымінацыя цемнаскурага насельніцтва была заканадаўча замацаваная ў шматлікіх штатах. Адзінкавыя пратэсты, якія ўспыхвалі то тут, то там на працягу двух стагоддзяў, істотна не ўплывалі на сітуацыю. Пратэст Розы Лі Паркс, цемнаскурай швачкі, якая была асуджаная за адмову пакінуць у грамадскім транспарце месца, прызначанае «толькі для белых», таксама растварыўся б у дзясятках папярэдніх пратэстаў, калі б у яе падтрымку не выступілі тысячы абураных амерыканцаў. Пасля байкоту цемнаскурым насельніцтвам грамадскага транспарту ў Мантгомеры, які доўжыўся амаль год і нанёс каласальную шкоду перавозчыкам, улады штата былі вымушаныя адмяніць неспра-

вядлівы мясцовы закон. Спатрэбілася яшчэ больш за 10 гадоў мітынгаў, пешых паходаў на Вашынгтон, сутыкненняў з паліцыяй, судовых спраў, крыві і слёз, але дзякуючы аб'яднанню намаганняў соцень тысяч амерыканцаў заканадаўчая дыскрымінацыя чарнаскурых была скасаваная канчаткова. Не менш працяглай і драматычнай была, напрыклад, барацьба жанчын за роўныя з мужчынамі выбарчыя правы, якая ў шмат якіх развітых краінах завяршылася перамогай толькі ў канцы XX стагоддзя. І якая таксама не была б паспяховай без актыўнай салідарнай падтрымкі.

Мы розныя. Нашы перавагі і імкненні часта істотна адрозніваюцца. Таму аб'ядноўвацца не заўсёды лёгка. Але, у рэшце рэшт, нашы адрозненні не такія вялікія ў параўнанні з тым, што нас аб'ядноўвае, — кожны з нас з'яўляецца чалавекам, кожны з нас усё роўна адчувае боль і жадае быць свабодным ад прыніжэння чалавечай годнасці. Мы павінны памятаць, што з прычыны сваёй прыроды дзяржава заўжды будзе імкнуцца звужаць нашыя свабоды і будзе парушаць нашыя правы. І, дзеля таго каб супрацьстаяць яе арганізаванай сіле, людзям заўсёды будуць патрэбныя мужнасць і салідарнасць.

# САЛІДАРНАСЦЬ



Кіраўнік аддзела Усходняй Еўропы і Цэнтральнай Азіі Міжнароднай федэрацыі за правы чалавека (FIDH) **Саша Кулаева**.

*«Вызваленне аднаго чалавека, нават вельмі для нас дарагога і любімага, ні ў якой меры не павінна разглядацца як сістэмная змена сітуацыі. Пакуль у краіне ёсць хоць адзін палітычны зняволены, рэжым сваю стратэгію не змяніў і не змяняе. Трэба прынцыпова дамагацца вызвалення ўсіх палітвязняў і сістэмных зменаў, якія зробяць сітуацыю такой, каб гэта больш не магло паўтарацца».*



Правы чалавека індывідуальныя і належаць кожнаму з нас, але для таго, каб іх паспяхова адстойваць і пераканаць уладу ў важнасці сваіх патрэбаў, людзям заўсёды даводзілася аб'ядноўвацца.

Ва ўсіх гэтых і многіх іншых выпадках людзі перамаглі і дамагліся зменаў, таму што змаглі аб'яднацца, падтрымаўшы патрабаванні адзін аднаго.



***Махандас Карамчанд «Махатма» Гандзі*** *(1869–1948) — адзін з кіраўнікоў і ідэолагаў руху за незалежнасць Індыі ад Вялікабрытаніі. Яго філасофія ненасілля (сат'яграха) аказала ўплыў на рух прыхільнікаў мірных пераменаў.*



***Лех Валенса*** *(нар. 1943) — польскі палітычны дзеяч, актывіст і абаронца правоў чалавека, кіраўнік незалежнага прафсаюза «Салідарнасць».*



***Харві Мілк*** *(1930–1978) — амерыканскі палітык і першы адкрыты гей, абраны на дзяржаўную пасаду ў штаце Каліфорнія ў якасці сябра гарадской назіральнай рады Сан-Францыска.*

**Што ж гэта такое — салідарнасць?**

**Гэта прызнанне роўнасці і павага да правоў іншых людзей. Гэта ўсведамленне і адказнасць. Гэта разуменне таго, што не існуе замахаў на чалавечую годнасць, якія не датычаць нас і не ўплываюць на забеспячэнне нашых уласных правоў. Гэта гатоўнасць прыйсці на дапамогу кожнаму, хто абараняе свае правы і свабоды.**








Акцыі ўкраінскіх актывістаў у падтрымку праваабаронцаў Беларусі.

Мы розныя. Нашы перавагі ды імкненні часта істотна адрозніваюцца. Таму аб'ядноўвацца не заўсёды лёгка. Але, у рэшце рэшт, нашы адрозненні не такія і вялікія ў параўнанні з тым, што нас аб'ядноўвае: кожны з нас з'яўляецца чалавекам, кожны з нас усё роўна адчувае боль і жадае быць свабодным ад прыніжэння чалавечай годнасці.



Дзень салідарнасці з Тыбетам у Брусэлі, 2012 год.




Турэцкія і мексіканскія дэманстранты на прыступках плошчы Юніян-Сквер у Нью-Ёрку падчас акцыі ў падтрымку дэмакратыі ў Турцыі. 16 чэрвеня 2013 года.



Акцыя Amnesty International у Гаазе ў дзень народзінаў Алеся Бяляцкага, 25 верасня 2013 года. Актывісты наведалі амбасаду Беларусі, каб уручыць яе супрацоўнікам адмысловы торт, а таксама подпісы пад патрабаваннем свабоды для палітвязня.



Малюнак Мікіты Дашкевіча, дасланы Алесю Бяляцкаму ў калонію, 2012 год.



Адказ Алеся Бяляцкага Мікіту Дашкевічу.

Мы павінны памятаць, што па сваёй прыродзе дзяржава заўсёды будзе прагнуць звужаць нашы свабоды і будзе парушаць нашы правы. І для таго, каб супрацьстаяць яе арганізаванай сіле, людзям заўжды будуць патрэбныя мужнасць і салідарнасць.



# САЛІДАРНАСЦЬ



Кіраўнік аддзела Усходняй Еўропы і Цэнтральнай Азіі Міжнароднай федэрацыі за правы чалавека (FIDH) **Саша Кулаева**.

*«Вызваленне аднаго чалавека, нават вельмі для нас дарагога і любімага, ні ў якой меры не павінна разглядацца як сістэмная змена сітуацыі. Пакуль у краіне ёсць хоць адзін палітычны зняволены, рэжым сваю стратэгію не зменіў і не зменіць. Трэба прынцыпова дамагацца вызвалення ўсіх палітвязняў і сістэмных зменаў, якія зробяць сітуацыю такой, каб гэта больш не магло паўтарацца».*

Правы чалавека індывідуальныя і належаць кожнаму з нас, але для таго, каб іх паспяхова адстойваць і пераканаць уладу ў важнасці сваіх патрэбаў, людзям заўсёды даводзілася аб'ядноўвацца.

Ва ўсіх гэтых і многіх іншых выпадках людзі перамаглі і дамагліся зменаў, таму што змаглі аб'яднацца, падтрымаўшы патрабаванні адзін аднаго.



***Махандас Карамчанд «Махатма» Гандзі*** *(1869–1948) — адзін з кіраўнікоў і ідэолагаў руху за незалежнасць Індыі ад Вялікабрытаніі. Яго філасофія ненасілля (сат'яграха) аказала ўплыў на рух прыхільнікаў мірных пераменаў.*



***Лех Валенса*** *(нар. 1943) — польскі палітычны дзеяч, актывіст і абаронца правоў чалавека, кіраўнік незалежнага прафсаюза «Салідарнасць».*



***Харві Мілк*** *(1930–1978) — амерыканскі палітык і першы адкрыты гей, абраны на дзяржаўную пасаду ў штаце Каліфорнія ў якасці сябра гарадской назіральнай рады Сан-Францыска.*



Якую ролю адыгрывала салідарнасць у барацьбе за правы чалавека ў прыведзеных прыкладах?

Чаму іншыя падтрымлівалі ідэі, якія ім не належалі?

Усе прыведзеныя прыклады барацьбы за правы насілі мірны, негвалтоўны характар. Якую ролю гэта адыгрывала?

Хто, на вашу думку, выйграў ад падобнай падтрымкі? Растлумачце вашы меркаванні.

Якія прыклады салідарнасці ў барацьбе за правы чалавека можна прывесці з беларускай гісторыі?

**Што ж гэта такое — салідарнасць?**

**Гэта прызнанне роўнасці і павага да правоў іншых людзей. Гэта ўсведамленне і адказнасць. Гэта разуменне таго, што не існуе замахаў на чалавечую годнасць, якія не датычаць нас і не ўплываюць на забеспячэнне нашых уласных правоў. Гэта гатоўнасць прыйсці на дапамогу кожнаму, хто абараняе свае правы і свабоды.**



Джон Дон, англійскі паэт XVII ст., напісаў: «Няма ніводнага чалавека, які быў бы сам па сабе, як востраў: кожны чалавек — гэта лапік зямлі, частка сушы. Калі скалу змывае марам з берага, меншае Еўропа, гэтак жа, як і тады, калі вада паглынае ўсю скалу ці дом твайго сябра або твой дом, бо са смерцю кожнага чалавека меншаю і я, бо я адзіны з усім чалавецтвам, і таму ніколі не пытай, па кім звоніць звон, — ён звоніць па табе».



Як суадносіцца гэтае выказванне з паняццем салідарнасці ў барацьбе за правы чалавека? Прывядзіце прыклады салідарнасці з паўсядзённага жыцця.








Акцыі ўкраінскіх актывістаў у падтрымку праваабаронцаў Беларусі.



Чым можна растлумачыць дзеянні і рэакцыю ўкраінскіх праваабаронцаў і актывістаў на разгон дэманстрацыі ў Мінску?

Чаму яны дзейнічалі такім чынам?

Якой рэакцыі яны чакалі? Якое значэнне маюць падобныя акцыі?

Якую інфармацыю ўладам нясуць петыцыі з сотнямі і тысячамі подпісаў?

Прывядзіце прыклады падобнай рэакцыі грамадства на выклікі правам чалавека ў свеце ў апошнія гады.

Мы розныя. Нашы перавагі ды імкненні часта істотна адрозніваюцца. Таму аб'ядноўвацца не заўсёды лёгка. Але, у рэшце рэшт, нашы адрозненні не такія і вялікія ў параўнанні з тым, што нас аб'ядноўвае: кожны з нас з'яўляецца чалавекам, кожны з нас усё роўна адчувае боль і жадае быць свабодным ад прыніжэння чалавечай годнасці.



Дзень салідарнасці з Тыбетам у Брусэлі, 2012 год.




Турэцкія і мексіканскія дэманстранты на прыступках плошчы Юніян-Сквер у Нью-Ёрку падчас акцыі ў падтрымку дэмакратыі ў Турцыі. 16 чэрвеня 2013 года.



Акцыя Amnesty International у Гаазе ў дзень народзінаў Алеся Бяляцкага, 25 верасня 2013 года. Актывісты наведалі амбасаду Беларусі, каб уручыць яе супрацоўнікам адмысловы торт, а таксама подпісы пад патрабаваннем свабоды для палітвязня.



Малюнак Мікіты Дашкевіча, дасланы Алесю Бяляцкаму ў калонію, 2012 год.



Адказ Алеся Бяляцкага Мікіту Дашкевічу.

Мы павінны памятаць, што па сваёй прыродзе дзяржава заўсёды будзе прагнуць звужаць нашы свабоды і будзе парушаць нашы правы. І для таго, каб супрацьстаяць яе арганізаванай сіле, людзям заўжды будуць патрэбныя мужнасць і салідарнасць.



Якая роля салідарнасці ў адстойванні правоў чалавека?

# § 7. ВЯЛІКІЯ ПРА ВЯЛІКАЕ

## ВЯЛІКІЯ ПРА ВЯЛІКАЕ





Васіль Быкаў

**«Чалавек, як і кожная жывая істота ад Бога, нараджаецца свабодным».**



Франклін Рузвельт

«Свабода азначае абсалютнае вяршэнства правоў чалавека».



Мікалай Бярдзяеў

«Свабода — гэта права на няроўнасць».



Тэрэнцый

«Глыбока памыляецца той, хто лічыць мацнейшай і цвярдзейшай уладу, якая абапіраецца на сілу, чым тую, якая заснаваная на любові».



Янка Брыль

«Стаўленне да дзяцей — мера духоўнай годнасці чалавека».



Махандас Карамчанд «Махатма» Гандзі

«Я адважуся паказаць сваім суайчыннікам, што супрацьстаянне злу праз гвалт толькі памнажае зло, і, паколькі зло можа абапірацца толькі на гвалт, трэба цалкам устрымацца ад апошняга, каб пазбавіць зло яго апоры. Прынцып адмовы ад гвалту прадугледжвае добраахвотнае прыняцце пакарання за проціпастаўленне сябе злу».



Цыцэрон

«Правасуддзе — душа законаў».



Вальтэр

«Я не згодны з тым, што вы кажаце, але буду да апошняй кроплі крыві абараняць ваша права выказваць сваё меркаванне».



Эрык Сацье

«Ланцуг куецца з першага звяна. Калі слова ўпершыню зазнае цэнзуру, калі думка ўпершыню будзе забароненая, упершыню будзе адмоўлена ў свабодзе, — тады мы ўсе станем упершыню незваротна закутыя ў ланцугі».



Нэльсан Мандэла

«Быць свабодным значыць не проста скінуць з сябе кайданы, гэта значыць жыць, паважаючы і памнажаючы свабоду іншых».



Арыстоцель

«Прыстойнасць — гэта здольнасць дзейнічаць свядома і справядліва там, дзе не прадугледжана дзеянне закона».



Элі Візэль

«Мы зараз разумеем: што б ні напаткала нейкую адну супольнасць, гэта неадкладна адлюстроўваецца на астатніх... Мы зразумелі, што кожны чалавек мае права адрозніваецца ад іншых, але ніхто не мае права быць абыякавым да пакутаў...»



ВЯСНА праваабарончы цэнтр · Беларускі дом правоў чалавека імя Барыса Звозскава · HUMAN RIGHTS HOUSE FOUNDATION · РОЗУМІЄМО ПРАВА ЛЮДИНИ www.edu.helsinki.org.ua

# ВЯЛІКІЯ ПРА ВЯЛІКАЕ





Васіль Быкаў

**«Чалавек, як і кожная жывая істота ад Бога, нараджаецца свабодным».**



Франклін Рузвельт

«Свабода азначае абсалютнае вяршэнства правоў чалавека».



Мікалай Бярдзяеў

«Свабода — гэта права на няроўнасць».



Тэрэнцый

«Глыбока памыляецца той, хто лічыць мацнейшай і цвярдзейшай уладу, якая абапіраецца на сілу, чым тую, якая заснаваная на любові».



Янка Брыль

«Стаўленне да дзяцей — мера духоўнай годнасці чалавека».



«Я адважуся паказаць сваім суайчыннікам, што супрацьстаянне злу праз гвалт толькі памнажае зло, і, паколькі зло можа абапірацца толькі на гвалт, трэба цалкам устрымацца ад апошняга, каб пазбавіць зло яго апоры. Прынцып адмовы ад гвалту прадугледжвае добраахвотнае прыняцце пакарання за проціпастаўленне сябе злу».

Махандас Карамчанд «Махатма» Гандзі


Цыцэрон

«Правасуддзе — душа законаў».


Вальтэр

«Я не згодны з тым, што вы кажаце, але буду да апошняй кроплі крыві абараняць ваша права выказваць сваё меркаванне».


Эрык Сацье

«Ланцуг куецца з першага звяна. Калі слова ўпершыню зазнае цэнзуру, калі думка ўпершыню будзе забароненая, упершыню будзе адмоўлена ў свабодзе, — тады мы ўсе станем упершыню незваротна закутыя ў ланцугі».


Нэльсан Мандэла

«Быць свабодным значыць не проста скінуць з сябе кайданы, гэта значыць жыць, паважаючы і памнажаючы свабоду іншых».


Арыстоцель

«Прыстойнасць — гэта здольнасць дзейнічаць свядома і справядліва там, дзе не прадугледжана дзеянне закона».


Элі Візэль

«Мы зараз разумеем: што б ні напаткала нейкую адну супольнасць, гэта неадкладна адлюстроўваецца на астатніх... Мы зразумелі, што кожны чалавек мае права адрознівацца ад іншых, але ніхто не мае права быць абыякавым да пакутаў...»

# § 8. НЕДЫСКРЫМІНАЦЫЯ

Зразумець, што такое дыскрымінацыя, немагчыма без разумення, што такое роўнасць і як гэтае паняцце звязанае з правамі чалавека.

Роўнасць мы разумеем па-рознаму. Адны лічаць, што роўнасць — гэта справядлівае размеркаванне матэрыяльных дабротаў: усе павінны атрымаць роўную долю. Чым заканчваюцца спробы ўвасобіць гэты падыход у жыццё, мы можам убачыць на прыкладзе перыяду бальшавізму. Іншыя мяркуюць, што роўнасць — гэта забеспячэнне роўных магчымасцяў на пачатку жыцця (што, вядома, не гарантуе роўнасці ў далейшым). Але што б мы ні ўкладалі ў паняцце «роўнасць», усе мы згодныя, што гэта нешта вельмі важнае, штосьці звязанае з паняццем «справядлівасць». І, незалежна ад нашага пра яе ўяўлення, роўнасць перад законам, роўнасць у магчымасцях рэалізаваць свае правы — гэта адзін з краевугольных камянёў сучаснай канцэпцыі правоў чалавека. Менавіта на ім і трымаецца будынак. Забяры яго — і канцэпцыя зруйнуецца, як гэта адбылося з усімі папярэднімі спробамі абвясціць правы не для ўсіх, а толькі для прадстаўнікоў абраных груп.

Прынцып роўнасці замацаваны ва ўсіх асноўных міжнародных пагадненнях у галіне правоў чалавека і ў большасці дэмакратычных канстытуцый.

Дыскрымінацыя — гэта спроба аспрэчыць прынцып роўнасці. Дыскрымінацыя — гэта, найперш, рацыянальна не абгрунтаванае абмежаванне правоў і паўнамоцтваў чалавека праз прыналежнасць яго да пэўнай меншасці. Для ілюстрацыі гэтага вызначэння польскі праваабаронца Марэк Навіцкі прыводзіць вельмі дакладны прыклад: забарона невідушчым кіраваць аўтамабілем не будзе дыскрымінацыяй невідушчых, таму што такім чынам забяспечваецца бяспека іншых людзей. А вось забарона кіраваць аўтамабілем людзям з белымі валасамі або цёмнай скурай была б відавочнай дыскрымінацыяй, паколькі такое абмежаванне не мае ніякага рацыянальнага абгрунтавання. З іншага боку, дыскрымінацыяй таксама з'яўляецца і неабгрунтаванае роўнае стаўленне да суб'ектаў, відавочна няроўных па сваіх магчымасцях. Так, напрыклад, чалавек на інвалідным вазку не можа рэалізаваць большасць сваіх правоў праз архітэктурную недаступнасць большасці адміністрацыйных будынкаў. Для таго каб лічыць выкананым ягонае права на адукацыю альбо на справядлівы суд, недастаткова проста не забараняць яму наведваць адпаведныя ўстановы — дзяржава павінна забяспечыць гэтага чалавека ўсім неабходным абсталяваннем і стварыць такое асяроддзе, якое выраўнуе магчымасці такога чалавека з іншымі людзьмі.

Не менш важнымі для разумення гэтай тэмы з'яўляюцца паняцці «большасць» і «меншасць». Мы можам убачыць, што самі па сабе гэтыя катэгорыі вельмі адносныя. Па пэўных прыкметах кожны з нас можа аднесці сябе як да большасці, гэтак і да цэлага шэрагу меншасцяў — калі не па этнічнай прыналежнасці або рэлігіі, то ўжо дакладна па звычках, захапленнях, палітычных ці культурных перавагах, фізічных або псіхалагічных асаблівасцях і многіх іншых. Разуменне гэтага прымушае нас больш уважліва ставіцца да патрэбаў і інтарэсаў навакольных людзей.

Але ў кожным разе пытанні правоў чалавека не вырашаюцца большасцю галасоў. Напрыклад, нельга выносіць на рэферэндум пытанне вяртання смяротнага пакарання альбо пазбаўлення ўсіх прадстаўнікоў пэўнай этнічнай супольнасці права галасаваць на выбарах — з высокай доляй верагоднасці можна меркаваць, што большасць прагаласуе, не ўлічваючы інтарэсаў тых, хто панясе на сабе цяжар наступстваў такіх рашэнняў. Лічыцца, што ў дэмакратычным грамадстве большасць ажыццяўляе ўладу, а акурат ад самавольства ўлады годнасць чалавечай асобы абараняюць правы чалавека. І менавіта інтарэсы прадстаўнікоў меншасцяў, сфармуляваныя мовай правоў чалавека, абмяжоўваюць уладу большасці ў дэмакратычным грамадстве.

Але, на жаль, гісторыя паказвае, што людзі часта спрабуюць адмаўляць роўнасць і абмяжоўваць правы іншых людзей. У мінулым у многіх правах адмаўлялі рабам і прадстаўнікам ніжэйшых класаў, замежнікам. Дэкларацыя незалежнасці Злучаных Штатаў Амерыкі абвяшчала роўнасць усіх людзей у годнасці і правах, але кола «ўсіх людзей» было даволі абмежаваным: у яго не ўваходзілі жанчыны, дзеці, цемнаскурыя і нават італьянцы з ірландцамі. Спатрэбілася яшчэ больш за 100 гадоў жорсткай барацьбы для таго, каб цемнаскурыя амерыканцы былі вызваленыя з рабства, і амаль 200 гадоў — для таго каб пазбавіцца зневажальных законаў, якімі замацоўвалася дыскрымінацыя афраамерыканцаў.

У адукаванай Еўропе жанчыны стагоддзямі змагаліся за роўныя з мужчынамі правы. У 1907 годзе ўпершыню ў свеце жанчыны былі абраныя ў заканадаўчы орган — сейм Фінляндыі. Немкі атрымалі права голасу толькі ў 1918 годзе, а англічанкі — у 1928 годзе. У Францыі жанчыны атрымалі магчымасць галасаваць на выбарах толькі ў 1946 годзе. Да 1971 года Швейцарыя адмаўляла грамадзянам жаночага полу ў праве абіраць і быць абранымі, а ў некаторых кантонах галасаваць на мясцовых выбарах швейцаркі змаглі толькі пасля 1991 года.

Гітлераўская Германія пазбавіла правоў людзей з фізічнымі недахопамі і псіхічнымі разладамі, гомасексуалаў, ромаў і габрэяў. Законы Савецкага Саюза дазвалялі знішчаць тых, хто быў не згодны з афіцыйнай ідэалогіяй. Такая сітуацыя застаецца ў Паўночнай Карэі. У некаторых тэакратычных краінах дагэтуль не прызнаюцца правы прадстаўнікоў недамінуючых канфесій, а за адступленне ад афіцыйнай рэлігіі чалавеку можа пагражаць смерць.

Роўнасць рэдка даецца ў падарунак. Ва ўсе часы людзі прыкладалі шмат намаганняў дзеля яе адстойвання. І не варта думаць, што замах на роўнасць — гэта нешта аддаленае ў часе і прасторы. Барацьба за яе і цяпер ідзе вакол нас, у нашай краіне, дзе прадстаўнікі шэрагу меншасцяў вымушаныя даказваць сваё права не пакутаваць ад дыскрымінацыі.



# НЕДЫСКРЫМІНАЦЫЯ



**Віёла Ермакова**, сацыёлаг, эксперт ініцыятыўнай групы «Журналісты за талерантнасць».

***«Мне падабаюцца словы Максіма Жбанкова пра "права суседа на яго ўласны джаз". Вось так бы я вызначыла недыскрымінацыю».***



**Алена Казлова** (Анка Упала), пісьменніца, перакладчыца.

***«Недыскрымінацыя — гэта паважлівае стаўленне да асобы незалежна ад стану здароўя, узросту, гендару, сексуальнай арыентацыі, веравызнання, нацыянальнасці, мовы з боку асобных людзей, арганізацый і дзяржавы. Гэта абароненае права асобы на свабодны жыццёвы выбар, калі ён не абмяжоўвае правы іншых асоб».***







Плакаты антыдыскрымінацыйнай кампаніі, Нідэрланды, 2009 год

**«Усе людзі нараджаюцца свабоднымі і роўнымі ў сваёй годнасці і правах. Яны надзелены розумам і сумленнем і павінны ставіцца адзін да аднаго ў духу братэрства».**

**«Кожны чалавек павінен валодаць усімі правамі і ўсімі свабодамі, якія абвешчаны гэтай Дэкларацыяй, без адрознення расы, колеру скуры, полу, мовы, рэлігіі, палітычных ці іншых перакананняў, нацыянальнага або сацыяльнага паходжання, маёмаснага, саслоўнага ці іншага становішча...»**

**Арт. 1 і 2 Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека**

Ёсць два важныя прынцыпы, замацаваныя ў арт. 21 і 24 Канстытуцыі Украіны: гэта прынцып роўнасці ў ажыццяўленні асноўных правоў і свабодаў і прынцып роўнасці перад законам. Аднак незалежнага заканадаўства аб забароне дыскрымінацыі ва Украіне да гэтага часу няма.




**Патрабаванні раўнапраўя былі вылучаны жанчынамі падчас Вайны за незалежнасць у ЗША.**

**1775–1783**



**Толькі ў 1928 годзе англічанкі атрымалі права голасу.**



**У Францыі жанчыны атрымалі права голасу праз паўтара стагоддзя пасля атрымання гэтага права мужчынамі.**

**1946**



**Да 1970-х гадоў Швейцарыя адмаўляла грамадзянкам у праве абіраць і быць абранымі.**

**Для многіх мусульманскіх краінаў гэтае патрабаванне застаецца актуальным і ў XXI стагоддзі.**



Пасля інцыдэнту з Розай Паркс (швачка была арыштаваная за адмову саступіць месца ў аўтобусе беламу пасажыру) Марцін Лютэр Кінг у снежні 1955 года ініцыюе байкот транспарту негрыцянскай абшчынай у Мантгомеры, які доўжыўся 382 дні.

У лістападзе 1956 года Вярхоўны суд ЗША прызнаў закон аб сегрэгацыі ў Алабаме неканстытуцыйным. Распачаты ім рух дамогся прыняцця ў 1964 годзе Акта аб грамадзянскіх правах, які забараняе расавую дыскрымінацыю.





У 2014 годзе ў Мінску Міхаіл Пішчэўскі трапіў у бальніцу ў стане комы пасля ўдару, нанесенага яму былым настаўнікам фізкультуры Дзмітрыем Лукашэвічам. Гэта адбылося на выхадзе з клуба, дзе праходзіла гей-вечарына. Прычына збіцця — гомасексуальнасць Пішчэўскага. Суд гэтых акалічнасцяў не ўлічыў і прысудзіў Лукашэвічу 2 гады і 8 месяцаў зняволення, але ён выйшаў па амністыі праз 11 месяцаў. 27 кастрычніка 2015 года стала вядома, што Міхаіл Пішчэўскі памёр.

**Пазітыўныя дзеянні (англ. affirmative action) — дзеянні, накіраваныя на выпраўленне дыскрымінацыі або няроўнасці. Гэта азначае, што дзяржава можа прыняць праграму, спецыяльна прызначаную для садзейнічання інтарэсам групаў, якія знаходзяцца ў нявыгадным становішчы.**





# НЕДЫСКРЫМІНАЦЫЮ

**Віёла Ермакова**, сацыёлаг, эксперт ініцыятыўнай групы «Журналісты за талерантнасць».

*«Мне падабаюцца словы Максіма Жбанкова пра "права суседа на яго ўласны джаз". Вось так бы я вызначыла недыскрымінацыю».*

**Алена Казлова** (Анка Упала), пісьменніца, перакладчыца.

*«Недыскрымінацыя — гэта паважлівае стаўленне да асобы незалежна ад стану здароўя, узросту, гендару, сексуальнай арыентацыі, веравызнання, нацыянальнасці, мовы з боку асобных людзей, арганізацый і дзяржавы. Гэта абароненае права асобы на свабодны жыццёвы выбар, калі ён не абмяжоўвае правы іншых асоб».*



Плакаты антыдыскрымінацыйнай кампаніі, Нідэрланды, 2009 год



Што хацелі сказаць аўтары гэтымі плакатамі? Якой рэакцыі ад гледачоў яны чакалі?
Якія рысы ідэнтычнасці ў дадзеным выпадку, на думку аўтараў плакатаў, з'яўляюцца ўразлівымі ва ўмовах Нідэрландаў? Чаму?

**«Усе людзі нараджаюцца свабоднымі і роўнымі ў сваёй годнасці і правах. Яны надзелены розумам і сумленнем і павінны ставіцца адзін да аднаго ў духу братэрства».**

**«Кожны чалавек павінен валодаць усімі правамі і ўсімі свабодамі, якія абвешчаны гэтай Дэкларацыяй, без адрознення расы, колеру скуры, полу, мовы, рэлігіі, палітычных ці іншых перакананняў, нацыянальнага або сацыяльнага паходжання, маёмаснага, саслоўнага ці іншага становішча...»**

**Арт. 1 і 2 Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека**

Ёсць два важныя прынцыпы, замацаваныя ў арт. 21 і 24 Канстытуцыі Украіны: гэта прынцып роўнасці ў ажыццяўленні асноўных правоў і свабодаў і прынцып роўнасці перад законам. Аднак незалежнага заканадаўства аб забароне дыскрымінацыі ва Украіне да гэтага часу няма.



Чаму прынцыпы, якія ляжаць у аснове дыскрымінацыі, сфармуляваны ў першых артыкулах Усеагульнай дэкларацыі?
Якія з пералічаных у артыкуле ідэнтычнасцяў вы лічыце найбольш уразлівымі ў Беларусі? Растлумачце свой пункт гледжання.
Ці ёсць названы пералік вычарпальным? Чым бы вы яго дапоўнілі?









Якія дакументы аб забароне дыскрымінацыі жанчын вы ведаеце?

Якія прыклады дыскрымінацыі па прыкмеце полу можна прывесці?





Пасля інцыдэнту з Розай Паркс (швачка была арыштаваная за адмову саступіць месца ў аўтобусе беламу пасажыру) Марцін Лютэр Кінг у снежні 1955 года ініцыюе байкот транспарту негрыцянскай абшчынай у Мантгомеры, які доўжыўся 382 дні.

У лістападзе 1956 года Вярхоўны суд ЗША прызнаў закон аб сегрэгацыі ў Алабаме неканстытуцыйным. Распачаты ім рух дамогся прыняцця ў 1964 годзе Акта аб грамадзянскіх правах, які забараняе расавую дыскрымінацыю.





Што хацеў сказаць аўтар карыкатуры, выявіўшы разам Марціна Лютэра Кінга, Розу Паркс і Барака Абаму?

Што вы ведаеце пра Розу Паркс і пра Марціна Лютэра Кінга? Якую ролю адыгралі гэтыя людзі ў барацьбе за роўнасць у правах афраамерыканцаў ЗША? (Гісторыя барацьбы афраамерыканцаў за свае правы можа быць тэмай асобнага занятку або самастойнай работы.)

Што для ЗША азначала рашэнне суда аб неправамернасці сегрэгацыі? Якія змены ў рэальным жыцці грамадзян ЗША адбыліся пасля прыняцця Акта аб грамадзянскіх правах?

Што вы ведаеце пра ідэі негвалтоўнага супраціву, якія адстойваў Махатма Гандзі? Чаму, на вашу думку, Марцін Лютэр Кінг лічыў менавіта гэтыя ідэі адзіна апраўданым метадам барацьбы за правы чалавека?



У 2014 годзе ў Мінску Міхаіл Пішчэўскі трапіў у бальніцу ў стане комы пасля ўдару, нанесенага яму былым настаўнікам фізкультуры Дзмітрыем Лукашэвічам. Гэта адбылося на выхадзе з клуба, дзе праходзіла гей-вечарына. Прычына збіцця — гомасексуальнасць Пішчэўскага. Суд гэтых акалічнасцяў не ўлічыў і прысудзіў Лукашэвічу 2 гады і 8 месяцаў зняволення, але ён выйшаў па амністыі праз 11 месяцаў. 27 кастрычніка 2015 года стала вядома, што Міхаіл Пішчэўскі памёр.

**Пазітыўныя дзеянні (англ. affirmative action) — дзеянні, накіраваныя на выпраўленне дыскрымінацыі або няроўнасці. Гэта азначае, што дзяржава можа прыняць праграму, спецыяльна прызначаную для садзейнічання інтарэсам групаў, якія знаходзяцца ў нявыгадным становішчы.**





Прывядзіце прыклады пазітыўных дзеянняў у дачыненні да людзей з інваліднасцю, якія, як вы лічыце, будуць накіраваны на выпраўленне дыскрымінацыі.

У дачыненні да якіх катэгорый грамадзян, на вашу думку, патрэбны падобныя дзеянні? Растлумачце свой пункт гледжання, падмацаваўшы яго прыкладамі.

# § 9. АБМЕЖАВАННІ

## Не усёдазволенасць, а адказнасць

Тое, што мы як чалавечыя істоты маем шэраг правоў, не азначае, што мы заўсёды можам дзейнічаць так, як нам захочацца. Часта нашы правы ўступаюць у канфлікт з правамі іншых людзей. Напрыклад, наша права збіраць і распаўсюджваць інфармацыю можа ўступіць у канфлікт з правам іншай асобы абараняцца ад умяшальніцтва ў ейнае асабістае жыццё. У выпадку, калі інфармацыя, якую мы збіраем і распаўсюджваем, не ўплывае на жыццё грамадства — напрыклад калі гэта проста чуткі пра людзей, з якімі мы разам вучымся ці працуем, — наша свабода слова можа і нават павінна, быць абмежавана. А калі мы даносім да людзей інфармацыю аб несумленных учынках палітыка, ад рашэнняў якога залежыць лёс многіх, то, відавочна, права на прыватнасць гэтай публічнай асобы павінна быць абмежаванае.

Чалавецтва ўжо даўно зразумела, што карыстанне правамі звязанае з адказнасцю перад грамадствам. І менавіта гэтая адказнасць дыктуе неабходнасць абмежаванняў. І гэтак жа даўно філосафы і юрысты спрабавалі сфармуляваць прынцыпы, якія рэгламентуюць умяшальніцтва ўлады ў правы чалавека. Ці не ўпершыню ў заканадаўчым акце мы можам пабачыць іх у Дэкларацыі правоў чалавека і грамадзяніна, прынятай у 1789 годзе ў Францыі. Там, у прыватнасці, было запісана наступнае: «Свабода палягае ва ўладзе рабіць усё, што не шкодзіць іншым: ажыццяўленне натуральных правоў кожнага чалавека мае толькі тыя межы, якія забяспечваюць іншым членам грамадства карыстанне тымі ж правамі. Гэтыя абмежаванні могуць быць вызначаны толькі законам... Закон мае права забараняць толькі тыя дзеянні, што з'яўляюцца шкоднымі для грамадства... Закон можа прызначаць толькі тыя пакаранні, якія відавочна і бясспрэчна неабходныя».

## Тры ўмовы абмежавання

Толькі два правы не могуць быць абмежаваныя ні пры якіх абставінах — гэта свабода ад катаванняў і свабода ад рабства. Астатнія правы чалавека могуць быць абмежаваныя ў пэўных сітуацыях. Аднак, абмяжоўваючы правы чалавека, улада павінна строга выконваць пэўныя ўмовы, інакш такое ўмяшанне будзе лічыцца ўжо не абмежаваннем, а парушэннем права.

Што гэта за ўмовы? Улада не можа ўмешвацца ў правы беспадстаўна — абмежаванне павінна мець пэўную мэту. Да таго ж мэта такога ўмяшання ў права не можа быць адвольнай. Вычарпальны пералік такіх мэтаў зафіксаваны ў міжнародных дагаворах па правах чалавека і ў нацыянальных законах. У яго ўваходзіць абарона правоў іншых асоб і такіх каштоўнасцяў, як бяспека грамадства, тэрытарыяльная цэласнасць і суверэнітэт дзяржавы, грамадская мараль, аўтарытэт правасуддзя — таго, што ў дэмакратычных краінах прызнана вельмі важным для ўстойлівага развіцця грамадства. Акрамя гэтага, ніхто не можа абмежаваць нашы правы, калі магчымасць такога абмежавання не прадугледжаная законамі нашай краіны. І апошняя ўмова — форма абмежавання права павінна быць прымальнай для дэмакратычнага грамадства. Умяшальніцтва ў права павінна быць прапарцыйным пагрозе тым каштоўнасцям, якія дзяржава такім чынам імкнецца абараніць, і не можа перавышаць мінімальны ўзровень, неабходны для іх абароны.

У Канстытуцыі Беларусі мы можам знайсці такі пералік каштоўнасцяў, для абароны якіх у асобных выпадках дзяржаве дазволена ўмешвацца ў правы і свабоды чалавека: гарантаванне нацыянальнай бяспекі, абарона суверэнітэту і тэрытарыяльнай цэласнасці дзяржавы, забеспячэнне грамадскага парадку з мэтай прадухілення хваляванняў ці злачынстваў, ахова здароўя і маральнасці насельніцтва, выратаванне жыцця людзей і маёмасці, абарона правоў і свабодаў іншых людзей, падтрыманне аўтарытэту і бесстароннасці правасуддзя. Каштоўнасці, дзеля якіх можа быць абмежаванае права, названыя ў тых жа артыкулах Канстытуцыі, якімі гэтае права гарантаванае. Любыя іншыя мэты для абмежавання правоў не могуць лічыцца легітымнымі.

## Рызыкоўная неабходнасць

Такім чынам, правы чалавека не толькі можна, а часам і проста неабходна абмяжоўваць — часта не існуе іншага спосабу абараніць правы або хаваць бяспеку іншых людзей. Пошук адказу на пытанне «чые правы ў дадзеным канкрэтным выпадку маюць патрэбу ў большай абароне?» часта бывае вельмі складаным. Менавіта гэтым, сярод іншага, і займаюцца нацыянальныя і міжнародныя суды.

Але трэба памятаць, што дзяржаве ўласціва злоўжываць абмежаваннямі. Гісторыя даказвае, што часта пад нагодай абароны пэўных каштоўнасцяў дзяржава аказвае наступ на правы чалавека. Менавіта таму мы заўсёды павінны пільна сачыць за дзеяннямі заканадаўцаў і чыноўнікаў і быць гатовымі абараняць свае правы.

# АБМЕЖАВАННІ



«Я за свабоду. Свабода павінна быць для ўсіх, а не толькі для абраных, а значыць, мусіць абмяжоўвацца разумным законам, менавіта законам, а не свавольствам улады».



**Кася Камоцкая**, спявачка





«...пры ажыццяўленні сваіх правоў і свабодаў кожны чалавек павінен спазнаць толькі такія абмежаванні, якія ўстаноўлены законам выключна ў мэтах забеспячэння належнага прызнання і павагі правоў і свабодаў іншых і задавальнення справядлівых патрабаванняў маралі, грамадскага парадку і агульнага дабрабыту ў дэмакратычным грамадстве».

*Частка другая арт. 29 Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека*

**Толькі два правы не могуць быць абмежаваны ні пры якіх абставінах — ГЭТА СВАБОДА АД КАТАВАННЯЎ і СВАБОДА АД РАБСТВА.**



Ніхто не можа абмежаваць нашы правы, калі магчымасць такога абмежавання не прадугледжана законамі нашай дзяржавы.

Умяшальніцтва ў права павінна быць прапарцыйным пагрозе тым каштоўнасцям, якія дзяржава такім чынам імкнецца абараніць, і не можа перавышаць узровень, неабходны для абароны гэтых каштоўнасцяў.



У еўрапейскіх краінах не сціхаюць дыскусіі з нагоды абгрунтаванасці абмежавання права мусульманак на нашэнне хіджабаў або нікабаў у грамадскіх месцах, забарона публікацыі асобных кніг і таму падобнае.



**Дзяржаве ўласціва злоўжываць абмежаваннямі. Гэта забарона мірных сходаў або саюзаў, цэнзура творчасці, незаконнае праслухоўванне, беспадстаўныя затрыманні...**

**Гісторыя даказвае, што часта пад выглядам абароны пэўных каштоўнасцяў дзяржава аказвае наступ на правы чалавека.**





**Пытанні абмежавання правоў чалавека бываюць надзвычай складанымі.**

**Арыенцірам у падобных пытаннях служаць прэцэдэнты міжнародных органаў, такіх, як Еўрапейскі суд па правах чалавека, Камітэт па правах чалавека ААН і інш.**



ВЯСНА праваабарончы цэнтр
Беларускі дом правоў чалавека імя Барыса Звозскава
HUMAN RIGHTS HOUSE FOUNDATION
РОЗУМІЄМО ПРАВА ЛЮДИНИ www.edu.helsinki.org.ua

# АБМЕЖАВАННІ



Успомніце сітуацыі з вашага жыцця, калі вы адчувалі, што вашы жаданні ці магчымасці хтосьці абмяжоўвае.

Чаму гэта было магчыма?

Разбярыце такія сітуацыі з улікам таго, ці былі для абмежаванняў важкія прычыны, або той, хто абмяжоўваў, меў дастатковы аўтарытэт або сілы гэта рабіць.

Што адчуваюць людзі, калі іх імкненне ці жаданне абмяжоўваюць?

Калі абмежаванні неабходныя? Прывядзіце такія жыццёвыя прыклады.

«Я за свабоду. Свабода павінна быць для ўсіх, а не толькі для абраных, а значыць, мусіць абмяжоўвацца разумным законам, менавіта законам, а не свавольствам улады».



**Кася Камоцкая**, спявачка








Што вы думаеце наконт сцэны на фота? Якія адчуванні могуць быць у маладой жанчыны, якую аглядаюць? Чаму яна пагаджаецца з сітуацыяй?



Дзеля бяспекі авіяпералётаў у аэрапортах большасці краін свету існуюць працэдуры персанальнага агляду пасажыраў.

«...пры ажыццяўленні сваіх правоў і свабодаў кожны чалавек павінен спазнаць толькі такія абмежаванні, якія ўстаноўлены законам выключна ў мэтах забеспячэння належнага прызнання і павагі правоў і свабодаў іншых і задавальнення справядлівых патрабаванняў маралі, грамадскага парадку і агульнага дабрабыту ў дэмакратычным грамадстве».

*Частка другая арт. 29 Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека*

**Толькі два правы не могуць быць абмежаваны ні пры якіх абставінах — ГЭТА СВАБОДА АД КАТАВАННЯЎ і СВАБОДА АД РАБСТВА.**



Два названыя правы часта называюць абсалютнымі, менавіта таму, што яны не могуць абмяжоўвацца ні ў якіх сітуацыях. Ніякім чынам нельга абгрунтаваць абмежаванне свабоды ад катаванняў і свабоды ад рабства.

Аднак усе іншыя правы могуць абмяжоўвацца дзяржавай. Але такія абмежаванні рэгламентаваны і павінны адпавядаць пэўным патрабаванням.



Ніхто не можа абмежаваць нашы правы, калі магчымасць такога абмежавання не прадугледжана законамі нашай дзяржавы.

Умяшальніцтва ў права павінна быць прапарцыйным пагрозе тым каштоўнасцям, якія дзяржава такім чынам імкнецца абараніць, і не можа перавышаць узровень, неабходны для абароны гэтых каштоўнасцяў.




У еўрапейскіх краінах не сціхаюць дыскусіі з нагоды абгрунтаванасці абмежавання права мусульманак на нашэнне хіджабаў або нікабаў у грамадскіх месцах, забарона публікацыі асобных кніг і таму падобнае.



**Дзяржаве ўласціва злоўжываць абмежаваннямі. Гэта забарона мірных сходаў або саюзаў, цэнзура творчасці, незаконнае праслухоўванне, беспадстаўныя затрыманні...**

**Гісторыя даказвае, што часта пад выглядам абароны пэўных каштоўнасцяў дзяржава аказвае наступ на правы чалавека.**



**Пытанні абмежавання правоў чалавека бываюць надзвычай складанымі.**

**Арыенцірам у падобных пытаннях служаць прэцэдэнты міжнародных органаў, такіх, як Еўрапейскі суд па правах чалавека, Камітэт па правах чалавека ААН і інш.**



# § 10. СВАБОДА АД КАТАВАННЯЎ

Свабода ад катаванняў і жорсткага абыходжання з'яўляецца адным з двух абсалютных правоў чалавека — такіх, якія не могуць быць абмежаваныя пры любых абставінах. Сёння мы прызнаём, што не існуе такіх прымальных для дэмакратычнага грамадства мэтаў, дзеля якіх з чалавека можна было б здзекавацца ці наносіць яму фізічны боль.

Але яшчэ не так даўно, менш як два стагоддзі назад, катаванні былі цалкам прымальныя і ўжываліся ў краінах Еўропы як мера пакарання за зробленыя злачынствы. Нават за дробны крадзеж чалавеку наносіліся моцныя фізічныя пакуты. За больш сур'ёзныя правіны чалавека маглі пазбавіць жыцця, прыносячы нясцерпны боль. Нярэдка гэта рабілася публічна. Лічылася, што такім чынам можна паменшыць злачыннасць. Стагоддзі бессэнсоўнай жорсткасці абверглі гэтае сцверджанне. З канца XVII стагоддзя катаванні ў еўрапейскіх краінах пачалі замяняцца на больш гуманныя спосабы пакарання — папраўчыя работы і пазбаўленне волі. На працягу ста гадоў — з другой паловы XVIII да другой паловы XIX стагоддзя — шэраг еўрапейскіх дзяржаваў цалкам забаранілі ўжыванне катаванняў. У Расійскай імперыі катаванні былі фармальна адмененыя ў 1801 годзе, аднак прысуды да пакарання шпіцрутэнамі, якія налічвалі некалькі тысяч удараў, выносіліся і ў саракавыя гады XIX стагоддзя. А ў некаторых краінах Еўропы цялесныя пакаранні ў дачыненні да дзяцей былі заканадаўча адмененыя толькі ў пачатку XXI стагоддзя.

На працягу XX стагоддзя, асабліва ў другой яго палове, усведамленне каштоўнасці чалавечай асобы працягнула расці. Наўмыснае нанясенне болю і здзекі былі прызнаныя недапушчальнымі. Катаванні і цялесныя пакаранні былі не толькі цалкам забароненыя, але і крыміналізаваныя ў большасці краін свету. Але ці можна сказаць, што катаванні, жорсткае і прыніжаючае годнасць абыходжанне пакінутыя ў мінулым? На жаль, не. У XX стагоддзі катаванні ізноў зрабіліся практыкай у краінах з таталітарнымі, дыктатарскімі і іншымі рэпрэсіўнымі рэжымамі (у прыватнасці — у нацысцкай Германіі, Савецкім Саюзе, Кітаі, лацінаамерыканскіх і афрыканскіх дыктатурах і нават у ЗША). Аднак іх ужыванне грунтуецца, як правіла, ужо не на законе, а на таемных загадах і інструкцыях. Дадзеныя даследаванняў, якія праводзяць украінскія праваабарончыя арганізацыі, сведчаць пра тое, што, нягледзячы на заканадаўчую забарону, міліцыянты нярэдка ўжываюць да затрыманых і падазраваных здзекі і катаванні. Паводле інфармацыі Харкаўскай праваабарончай групы, у 2010 годзе ва Украіне было зафіксавана больш за 780 000 выпадкаў незаконнага гвалту з боку работнікаў міліцыі — гэта значыць, што ўкраінскія міліцыянты парушаюць забарону на жорсткае абыходжанне кожныя 40 секунд.

Трэба адрозніваць тры ступені недапушчальнага абыходжання з чалавекам. Катаванні з'яўляюцца найгоршай з іх. Для катаванняў або бесчалавечнага абыходжання характэрна наўмыснае прычыненне чалавеку моцнага фізічнага болю ці маральных пакут з мэтай атрымаць ад яго пэўную інфармацыю або дзеля таго, каб прымусіць яго здзейсніць пэўныя дзеянні ці ўстрымацца ад пэўных дзеянняў. Менавіта такую ступень неналежнага абыходжання з чалавекам Еўрапейскі суд па правах чалавека выявіў у справе Аляксея Афанасьева: харкаўскія міліцыянты жорстка яго збілі, патрабуючы прызнання ў здзяйсненні крымінальнага злачынства.

Жорсткім абыходжаннем можа быць прызнана таксама і прынясенне моцных маральных пакутаў. Так, напрыклад, Еўрапейскім судом па правах чалавека такім абыходжаннем была прызнаная перадача ўладамі Вялікабрытаніі ўладам Злучаных Штатаў спадара С'ёрынга, якому ў ЗША пагражала смяротнае пакаранне. Суд у сваім рашэнні адзначыў, што чаканне смяротнага пакарання прыносіць чалавеку моцныя маральныя пакуты, і экстрадыцыя чалавека ў краіну, дзе яму пагражае падобнае бесчалавечнае пакаранне, з'яўляецца недапушчальным. Таксама парушэннем забароны на катаванні і жорсткае абыходжанне прызнаецца экстрадыцыя людзей у краіны, дзе ім пагражае прымяненне катаванняў. Прыкладам такіх рашэнняў з'яўляецца справа спадара Саадзі, якога ўлады Італіі спрабавалі перадаць уладам Туніса, дзе яго па абвінавачванні ў тэрарызме чакала доўгае зняволенне і жорсткае абыходжанне.

Асаблівую ўвагу Еўрапейскі суд надае выпадкам, калі чалавек знаходзіцца ў сітуацыі поўнай залежнасці ад прадстаўнікоў улады — затрыманы міліцыяй ці іншымі ўпаўнаважанымі на гэта службамі або зняволены. На думку

суда, у падобных сітуацыях прадстаўнікі ўлады павінны яшчэ больш пільна клапаціцца аб тым, каб чалавек не пакутаваў ад жорсткага абыходжання. І калі чалавек скардзіцца на жорсткае абыходжанне з боку чыноўнікаў такіх установаў, то менавіта дзяржава павінна прывесці пераканаўчыя доказы сваёй невінаватасці. Так, напрыклад, у справе «Рыбіч супраць Аўстрыі» заяўнік скардзіўся на нанясенне яму цялесных пашкоджанняў падчас допыту ў паліцыі, аднак паліцэйскія чыноўнікі сцвярджалі, што спадар Рыбіч сам нанёс сабе пашкоджанні падчас дастаўкі ў пастарунак. Але ў сваім рашэнні Еўрапейскі суд адзначыў своеасаблівую «прэзумпцыю вінаватасці дзяржавы» і неабходнасці менавіта чыноўнікаў, у поўнай залежнасці ад якіх знаходзіўся чалавек, аргументавана даказваць сваю недатычнасць да нанясення пашкоджанняў.

Варта заўважыць, што жорсткае або прыніжаючае годнасць абыходжанне ці пакаранне забароненае не толькі прадстаўнікам дзяржавы, але і ўсім іншым асобам. У абавязкі дзяржавы ўваходзіць папярэджанне жорсткага абыходжання шляхам заканадаўчай забароны падобных дзеянняў і ўстанаўлення адказнасці для парушальнікаў. У справе «Кастэла-Робертс супраць Злучанага Каралеўства» Еўрапейскі суд хоць і не вызначыў, што цялеснае пакаранне сямігадовага дзіцяці не дасягнула той ступені, каб лічыць яго прыніжальным абыходжаннем, але адзначыў, што дзяржава не мае права ўхіляцца ад адказнасці за захаванне правоў чалавека, дэлегуючы свае паўнамоцтвы па выхаванні прыватным установам ці асобам. Хуткае і пільнае расследаванне паведамленняў аб прымяненні катаванняў таксама з'яўляецца важнай часткай абавязкаў дзяржавы ў гэтай сферы. У 2007 годзе Еўрапейскі суд вынес рашэнне па справе «Мамадаў супраць Азербайджана», у якім прызнаў парушэнне свабоды ад катаванняў менавіта таму, што ўлады краіны не правялі эфектыўнае расследаванне паведамленняў спадара Мамадава аб катаваннях, якія прымяняліся да яго падчас знаходжання пад паліцэйскім арыштам.

Меншай ступенню неналежных паводзінаў з'яўляюцца паводзіны, якія прыніжаюць годнасць чалавека. Такія паводзіны таксама забароненыя. Паводле стандартаў Еўрапейскага суда, прыніжаючымі годнасць лічацца такія паводзіны, у выніку якіх ахвяра адчувае страх, маральныя пакуты, непаўнавартаснасць і прыніжанасць. Прычым гэта можа быць выклікана як дзеяннямі, гэтак і бяздзейнасцю службовых асоб. Напрыклад, прыніжаючымі годнасць, а часам нават бесчалавечнымі паводзінамі прызнаецца неаказанне медыцынскай дапамогі затрыманым ці зняволеным у выпадках, калі гэта пагражае жыццю чалавека або можа мець непапраўныя наступствы для яго здароўя. Прыніжаючым годнасць абыходжаннем могуць быць прызнаныя і ўмовы ўтрымання чалавека. Менавіта гэта вызначыў Еўрапейскі суд па справе «Калашнікаў супраць Расіі», дзе заяўнік скардзіўся на перапоўненасць камер для ўтрымання асуджаных, холад і дрэнныя санітарныя ўмовы.

Барацьба супраць ужывання катаванняў працягваецца ва Украіне і сёння. Ужо некалькі гадоў запар 26 чэрвеня, у Сусветны дзень памяці ахвяр катаванняў, у найбуйнейшых абласных цэнтрах праходзяць акцыі, закліканыя прыцягнуць увагу грамадства і ўлады да праблемы прымянення катаванняў у міліцыі. Актыўны ўдзел у арганізацыі гэтых акцый бяруць і выпускнікі адукацыйных мерапрыемстваў праграмы «Разумеем правы чалавека». Самая магутная ў свеце праваабарончая арганізацыя Amnesty International у 2012 годзе сабрала і перадала прэзідэнту Украіны больш за 25 тысяч подпісаў пад петыцыяй з заклікам прыняць неадкладныя меры для спынення катаванняў і беспакаранасці міліцыі.

# СВАБОДА АД КАТАВАННЯЎ






**Павел Сапелка**,
юрыст Праваабарончага цэнтра «Вясна»:

*«Катаванні — праблема, пра якую ніколі нельга забываць. Гэта часта прыхаваная праблема, бо і адміністрацыі месцаў пазбаўлення волі, і тыя, хто можа выкарыстоўваць катаванні і жорсткае і бесчалавечнае абыходжанне, усімі сіламі імкнуцца замаўчаць гэтыя факты».*




Артыкул 3 — самы кароткі артыкул у Еўрапейскай канвенцыі па правах чалавека. У ім усяго 11 словаў, але ён фармулюе адно з фундаментальных правоў чалавека. Яго lаканічнасць не супярэчыць глыбіні зместу. Ніводзін чыноўнік, ніводзін міліцыянер не можа ігнараваць яго палажэнні.

**«Ніхто не павінен падвяргацца катаванням або бесчалавечнаму ці зневажальнаму для годнасці абыходжанню або пакаранню».**

Артыкул 3 Еўрапейскай канвенцыі па правах чалавека




У XX стагоддзі катаванні зноў становяцца практыкай у краінах з таталітарнымі, дыктатарскімі і іншымі рэпрэсіўнымі рэжымамі (у нацысцкай Германіі, Савецкім Саюзе, Кітаі, лацінаамерыканскіх і афрыканскіх дыктатурах і нават у ЗША). Аднак іх ужыванне грунтавалася, як правіла, ужо не на законе, а на таемных загадах і інструкцыях.




**Ігар Пцічкін**
пры паступленні ў СІЗА.

Жыхар Мінска Ігар Пцічкін загінуў 4 жніўня 2013 года на Валадарцы, дзе адбываў 3 месяцы арышту за кіраванне без правоў. Да яго былі ўжытыя «меры фізічнага стрымлівання ў выглядзе фіксацыі рамянямі» на 20 гадзін да моманту смерці. Адміністрацыя ізалятара заявіла, што ён памёр ад сардэчнай хваробы, але сваякі выявілі на целе сляды пашкоджанняў. Суд Маскоўскага раёна Мінска 21 кастрычніка 2016 года прызнаў фельчара медчасткі СІЗА Аляксандра Крылова вінаватым у неналежным выкананні прафесійных абавязкаў, якое пацягнула па неасцярожнасці смерць пацыента (ч. 2 арт 162 Крымінальнага кодэкса), і асудзіў да трох гадоў пазбаўлення волі ў калоніі ва ўмовах пасялення.

Забарона катаванняў утрымліваецца ў шматлікіх пагадненнях і іншых дакументах міжнароднага права. Катаванні і жорсткае абыходжанне забаронены пры любых абставінах. Выключэнняў не існуе нават падчас надзвычайнага становішча, пагрозы тэрарыстычнага акту або ва ўмовах вайны. Не можа апраўдваць прымяненне катаванняў і загад іншай асобы.



Гематомы на целе збітага супрацоўнікамі Светлагорскага РАУС **Аляксандра Акуліча.**

Аляксандр Акуліч загінуў 26 траўня 2012 года ў ІЧУ Светлагорскага РАУС ад рук супрацоўнікаў міліцыі, якія збівалі яго, выкарыстоўвалі спецсродкі, не выклікалі своечасова хуткую дапамогу. Пасля таго, як Валянціна Акуліч прайшла ўсе судовыя інстанцыі ў Беларусі па факце гвалтоўнай смерці сына і не дамаглася ніякіх вынікаў, яна з дапамогай праваабаронцаў падрыхтавала і накіравала зварот у Камітэт па правах чалавека ААН. Зварот быў зарэгістраваны ў КПЧ 12 чэрвеня 2017 года за нумарам 2987/2017.



*Падчас катаванняў, якія Аляксей Тарасаў зазнаў у міліцыі, ён прызнаўся ў злачынстве — крадзяжы машыны. Катаваннямі яго прымусілі адмовіцца ад адваката. Нягледзячы на тое, што лекары зафіксавалі ў яго цяжкія цялесныя пашкоджанні, ні пракуратура, ні пасля суды не звярнулі на гэта ўвагі. Фізічны стан пацярпелага быў настолькі цяжкім, што ў суд яго заносілі на насілках.*

*У 2013 годзе Еўрапейскі суд па правах чалавека, у адрозненне ад нацыянальных судоў усіх інстанцый, прызнаў прымяненне катаванняў да заяўніка і парушэнне яго права на абарону.*





25 чэрвеня 2010 года з нагоды Міжнароднага дня ААН супраць катаванняў грамадскія арганізацыі Украіны праводзяць розныя акцыі ў знак пратэсту супраць катаванняў ва ўкраінскай міліцыі і дэманструюць жаданне ўкраінцаў мець сапраўды эфектыўную праваахоўную сістэму, якая б ахоўвала бяспеку, а не парушала правы чалавека.






*У справе «Саадзі супраць Італіі» (2008) заяўніку пагражала дэпартацыя ў Туніс, дзе ён быў завочна прысуджаны да 20 гадоў зняволення, паколькі падазраваўся ў міжнародным тэрарызме. Аднак Еўрапейскі суд улічыў наяўнасць факту катаванняў у гэтай краіне. Суд адзначыў, што «ў наш час усе дзяржавы стаяць перад велізарнымі цяжкасцямі ў справе абароны грамадства ад тэрарызму. Таму сёння нельга недаацэньваць небяспеку тэрарызму, а таксама тую небяспеку, якую ён уяўляе для грамадства. Тым не менш гэта не павінна ставіць пад сумнеў абсалютную прыроду артыкула 3». Адпаведна, высылка Саадзі ў Туніс магла б азначаць згоду Італіі на катаванні да падазраванага.*

**Парушэннем забароны катаванняў і жорсткага абыходжання прызнаецца экстрадыцыя людзей у краіны, дзе ім пагражае прымяненне катаванняў.**



# СВАБОДУ АД КАТАВАННЯЎ




**Павел Сапелка**,
юрыст Праваабарончага цэнтра «Вясна»:

*«Катаванні — праблема, пра якую ніколі нельга забываць. Гэта часта прыхаваная праблема, бо і адміністрацыі месцаў пазбаўлення волі, і тыя, хто можа выкарыстоўваць катаванні і жорсткае і бесчалавечнае абыходжанне, усімі сіламі імкнуцца замаўчаць гэтыя факты».*

Артыкул 3 — самы кароткі артыкул у Еўрапейскай канвенцыі па правах чалавека. У ім усяго 11 словаў, але ён фармулюе адно з фундаментальных правоў чалавека. Яго лаканічнасць не супярэчыць глыбіні зместу. Ніводзін чыноўнік, ніводзін міліцыянер не можа ігнараваць яго палажэнні.



Артыкул 1 Канвенцыі супраць катаванняў і іншых жорсткіх, бесчалавечных ці прыніжальных для годнасці відаў абыходжання і пакарання, прынятай Генеральнай Асамблеяй ААН у 1984 годзе, вызначае катаванні як «любое дзеянне, якім нейкай асобе наўмысна наносіцца моцны боль альбо пакута, фізічная або маральная, каб атрымаць ад яе або ад трэцяй асобы звесткі ці прызнанні, пакараць яе за дзеянне, якое ўчыніла яна ці трэцяя асоба або ва ўчыненьні якога яна падазраецца, а таксама запалохаць ці прымусіць яе ці трэцюю асобу, або па любой прычыне, заснаванай на дыскрымінацыі любога характару, калі такі боль альбо пакута прычыняюцца дзяржаўнай службовай асобай ці іншай асобай, якая выступае ў афіцыйнай якасці, альбо па іх падбухторванні, ці з іх ведама або маўклівай згоды».

**«Ніхто не павінен падвяргацца катаванням або бесчалавечнаму ці зневажальнаму для годнасці абыходжанню або пакаранню».**
Артыкул 3 Еўрапейскай канвенцыі па правах чалавека



Чаму свабода ад катаванняў з'яўляецца абсалютным правам і не прадугледжвае аніякіх выпадкаў абмежавання?




У ХХ стагоддзі катаванні зноў становяцца практыкай у краінах з таталітарнымі, дыктатарскімі і іншымі рэпрэсіўнымі рэжымамі (у нацысцкай Германіі, Савецкім Саюзе, Кітаі, лацінаамерыканскіх і афрыканскіх дыктатурах і нават у ЗША). Аднак іх ужыванне грунтавалася, як правіла, ужо не на законе, а на таемных загадах і інструкцыях.



Забарона катаванняў з'яўляецца прадметам пастаяннай увагі і кантролю міжнародных арганізацый. Даведайцеся больш: http://www.hrea.org/index.php?doc_id=524




**Ігар Пцічкін**
пры паступленні ў СІЗА.

Жыхар Мінска Ігар Пцічкін загінуў 4 жніўня 2013 года на Валадарцы, дзе адбываў 3 месяцы арышту за кіраванне без правоў. Да яго былі ўжытыя «меры фізічнага стрымлівання ў выглядзе фіксацыі рамянямі» на 20 гадзін да моманту смерці. Адміністрацыя ізалятара заявіла, што ён памёр ад сардэчнай хваробы, але сваякі выявілі на целе сляды пашкоджанняў. Суд Маскоўскага раёна Мінска 21 кастрычніка 2016 года прызнаў фельчара медчасткі СІЗА Аляксандра Крылова вінаватым у неналежным выкананні прафесійных абавязкаў, якое пацягнула па неасцярожнасці смерць пацыента (ч. 2 арт 162 Крымінальнага кодэкса), і асудзіў да трох гадоў пазбаўлення волі ў калоніі ва ўмовах пасялення.

Забарона катаванняў утрымліваецца ў шматлікіх пагадненнях і іншых дакументах міжнароднага права. Катаванні і жорсткае абыходжанне забаронены пры любых абставінах. Выключэнняў не існуе нават падчас надзвычайнага становішча, пагрозы тэрарыстычнага акту або ва ўмовах вайны. Не можа апраўдваць прымяненне катаванняў і загад іншай асобы.



Гематомы на целе збітага супрацоўнікамі Светлагорскага РАУС **Аляксандра Акуліча.**

Аляксандр Акуліч загінуў 26 траўня 2012 года ў ІЧУ Светлагорскага РАУС ад рук супрацоўнікаў міліцыі, якія збівалі яго, выкарыстоўвалі спецсродкі, не выклікалі своечасова хуткую дапамогу. Пасля таго, як Валянціна Акуліч прайшла ўсе судовыя інстанцыі ў Беларусі па факце гвалтоўнай смерці сына і не дамаглася ніякіх вынікаў, яна з дапамогай праваабаронцаў падрыхтавала і накіравала зварот у Камітэт па правах чалавека ААН. Зварот быў зарэгістраваны ў КПЧ 12 чэрвеня 2017 года за нумарам 2987/2017.



*Падчас катаванняў, якія Аляксей Тарасаў зазнаў у міліцыі, ён прызнаўся ў злачынстве — крадзяжы машыны. Катаваннямі яго прымусілі адмовіцца ад адваката. Нягледзячы на тое, што лекары зафіксавалі ў яго цяжкія цялесныя пашкоджанні, ні пракуратура, ні пасля суды не звярнулі на гэта ўвагі. Фізічны стан пацярпелага быў настолькі цяжкім, што ў суд яго заносілі на насілках.*

*У 2013 годзе Еўрапейскі суд па правах чалавека, у адрозненне ад нацыянальных судоў усіх інстанцый, прызнаў прымяненне катаванняў да заяўніка і парушэнне яго права на абарону.*





25 чэрвеня 2010 года з нагоды Міжнароднага дня ААН супраць катаванняў грамадскія арганізацыі Украіны праводзяць розныя акцыі ў знак пратэсту супраць катаванняў ва ўкраінскай міліцыі і дэманструюць жаданне ўкраінцаў мець сапраўды эфектыўную праваахоўную сістэму, якая б ахоўвала бяспеку, а не парушала правы чалавека.






*У справе «Саадзі супраць Італіі» (2008) заяўніку пагражала дэпартацыя ў Туніс, дзе ён быў завочна прысуджаны да 20 гадоў зняволення, паколькі падазраваўся ў міжнародным тэрарызме. Аднак Еўрапейскі суд улічыў наяўнасць факту катаванняў у гэтай краіне. Суд адзначыў, што «ў наш час усе дзяржавы стаяць перад велізарнымі цяжкасцямі ў справе абароны грамадства ад тэрарызму. Таму сёння нельга недаацэньваць небяспеку тэрарызму, а таксама тую небяспеку, якую ён уяўляе для грамадства. Тым не менш гэта не павінна ставіць пад сумнеў абсалютную прыроду артыкула 3». Адпаведна, высылка Саадзі ў Туніс магла б азначаць згоду Італіі на катаванні да падазраванага.*

**Парушэннем забароны катаванняў і жорсткага абыходжання прызнаецца экстрадыцыя людзей у краіны, дзе ім пагражае прымяненне катаванняў.**

# § 11. ПРАВА НА ЖЫЦЦЁ

Права на жыццё адкрывае большасць каталогаў фундаментальных правоў і свабод чалавека. Гэта не выпадкова — жыццё з'яўляецца адной з галоўных чалавечых каштоўнасцяў, і там, дзе гэтае права не забяспечанае належным чынам, не выпадае казаць аб захаванні астатніх правоў.

Што мы маем на ўвазе, калі гаворым аб праве на жыццё? Права на жыццё зусім не азначае, што нам гарантаваная неўміручасць. Аднак дзяржава бярэ на сябе абавязак устрымлівацца ад наўмыснага пазбаўлення жыцця і абараняць жыццё кожнага з нас ад супрацьпраўных замахаў. Дзеля гэтага ўлада павінна стварыць законы, якія забараняюць дзеянні, што нясуць пагрозу жыццю людзей, а таксама адпаведныя інстытуты, якія будуць сачыць за выкананнем гэтых законаў. А ў выпадку гібелі чалавека дзяржава павінна хутка і эфектыўна расследаваць усе акалічнасці смерці і пакараць вінаватых.

Варта заўважыць, што нават такое злачынства, як забойства чалавека, само па сабе не будзе парушэннем права на жыццё. Канстатаваць такое парушэнне мы можам толькі ў выпадку бяздзейнасці дзяржавы ў адказ на спробу або факт здзяйснення гэтага злачынства — калі дзяржава не правядзе хуткага і эфектыўнага расследавання абставінаў гібелі чалавека, выяўлення і пакарання вінаватых. Менавіта пра гэта і ішла гаворка ў рашэнні Еўрапейскага суда па справе аб выкраданні і забойстве вядомага ўкраінскага журналіста Георгія Гангадзэ. Суд прызнаў, што дзяржава парушыла права на жыццё Гангадзэ менавіта тым, што хутка і справядліва не расследавала абставіны яго смерці.

Права на жыццё не з'яўляецца абсалютным і ў пэўных абставінах можа быць абмежаванае. Напрыклад, калі чалавек учыняе дзеянні, якія пагражаюць жыццю і здароўю іншых асоб, дзеля прадухілення такой пагрозы супрацоўнікі праваахоўных органаў могуць прымяніць зброю. Але такія дзеянні прадстаўнікоў дзяржавы павінны быць строга рэгламентаваныя, і пагроза незваротных наступстваў ад дзеянняў нападніка павінна быць вельмі і вельмі абгрунтаванай. Інакш дзяржаву можна лічыць парушальнікам права на жыццё. Як, напрыклад, Вялікабрытанію — у рашэнні па справе Маргарэт Маккан, сын якой быў памылкова забіты байцамі спецпадраздзялення падчас затрымання па падазрэнні ў падрыхтоўцы тэракту.

Акрамя гэтага, права на жыццё абавязвае дзяржаву зрабіць усё для таго, каб мінімізаваць усе меркаваныя рызыкі для жыцця людзей. У адной са справаў Еўрапейскі суд прыйшоў да высновы, што Расія парушыла права на жыццё жыхароў кабардзіна-балкарскага горада Тарнауз, разбуранага апоўзнем. Згодна з рашэннем суда, парушэнне палягала ў тым, што, маючы інфармацыю аб высокай верагоднасці будучай прыроднай катастрофы, улада не прыняла ўсе неабходныя меры для таго, каб выратаваць людзей.

На ўзроўні навучальнай установы выкананнем уладай сваіх абавязацельстваў у галіне права на жыццё можа быць, напрыклад, абсталяванне памяшканняў усімі неабходнымі супрацьпажарнымі сродкамі (запаснымі выхадамі, вогнетушыцелямі, паказальнікамі і г.д.) і тлумачэнне ўсім вучням і настаўнікам правілаў дзеянняў падчас надзвычайных сітуацыяй.

# ПРАВА НА ЖЫЦЦЁ



*Жыццё — гэта найважнейшая чалавечая каштоўнасць. Там, дзе гэта права не забяспечана належным чынам, нельга казаць аб захаванні астатніх правоў.*

**Права на жыццё не азначае, што нам гарантаваная неўміручасць. Аднак дзяржава бярэ на сябе абавязак устрымлівацца ад наўмыснага пазбаўлення жыцця і абараняць жыццё кожнага з нас ад супрацьпраўных замахаў. Дзеля гэтага ўлада павінна ствараць законы, якія забароняць любыя дзеянні, што нясуць пагрозу жыццям людзей.**

**У выпадку гібелі чалавека дзяржава павінна хутка і эфектыўна высветліць усе акалічнасці смерці і пакараць вінаватых.**




*У 2005 годзе ў справе аб выкраданні і забойстве вядомага ўкраінскага журналіста Георгія Гангадзэ Еўрапейскі суд па правах чалавека прызнаў, што дзяржава парушыла права Гангадзэ на жыццё менавіта тым, што хутка і справядліва не расследавала акалічнасці яго гібелі.*

**Як гэта ні дзіўна гучыць, але права на жыццё ў пэўных абставінах можа быць абмежавана. Напрыклад, калі чалавек учыняе дзеянні, што пагражаюць жыццю і здароўю іншых людзей, супрацоўнікі праваахоўных органаў могуць ужыць зброю, калі гэта прадугледжана законам.**

**Такія дзеянні прадстаўнікоў дзяржавы павінны быць строга рэгламентаваны, а пагроза незваротных наступстваў ад дзеянняў нападніка павінна быць вельмі абгрунтаванай. Інакш дзяржаву можна лічыць парушальнікам права на жыццё.**





**Беларусь — адзіная ў Еўропе краіна, у якой дагэтуль існуе смяротнае пакаранне.**

*У справе 1995 года «Маргарэт Маккан і іншыя супраць Вялікабрытаніі» Еўрапейскім судом было прызнана парушэнне права на жыццё ў сітуацыі, калі байцы спецпадраздзялення пры затрыманні па падазрэнні ў падрыхтоўцы тэракту па памылцы забілі некалькі невінаватых людзей.*

*У адной са справаў Еўрапейскі суд прыйшоў да высновы, што Расія парушыла права на жыццё людзей кабардзіна-балкарскага горада Тарнауз, разбуранага апоўзнем. Згодна з рашэннем суда, парушэнне складалася ў тым, што, маючы інфармацыю аб высокай верагоднасці будучай прыроднай катастрофы, улада не ажыццявіла ўсе неабходныя дзеянні дзеля таго, каб выратаваць людзей.*

**Ці ўсё, што павінна забяспечыць вам права на жыццё, зроблена ў той установе, дзе вы працуеце ці вучыцеся?**








ВЯСНА праваабарончы цэнтр · Беларускі дом правоў чалавека імя Барыса Звозскава · HUMAN RIGHTS HOUSE FOUNDATION · MART · РОЗУМІЄМО ПРАВА ЛЮДИНИ www.edu.helsinki.org.ua

# ПРАВА НА ЖЫЦЦЁ

*Жыццё — гэта найважнейшая чалавечая каштоўнасць. Там, дзе гэта права не забяспечана належным чынам, нельга казаць аб захаванні астатніх правоў.*



Хто павінен забяспечыць права на жыццё?

Якім чынам яно можа быць забяспечана?

Падумайце, з якога моманту наша права на жыццё павінна забяспечвацца.



Звярніце ўвагу, што большасць міжнародных дакументаў па правах чалавека кажуць пра тое, што правы чалавека належаць кожнаму ад нараджэння.

**Права на жыццё не азначае, што нам гарантаваная неўміручасць. Аднак дзяржава бярэ на сябе абавязак устрымлівацца ад наўмыснага пазбаўлення жыцця і абараняць жыццё кожнага з нас ад супрацьпраўных замахаў. Дзеля гэтага ўлада павінна стварыць законы, якія забароняць любыя дзеянні, што нясуць пагрозу жыццям людзей.**

**У выпадку гібелі чалавека дзяржава павінна хутка і эфектыўна высветліць усе акалічнасці смерці і пакараць вінаватых.**



Якія вы ведаеце прыклады сітуацый, калі ўлада павінна забяспечыць права на жыццё (напрыклад, аказанне неадкладнай медыцынскай дапамогі)?



Што вы думаеце пра абавязкі дзяржавы па забеспячэнні права на жыццё?








*У 2005 годзе ў справе аб выкраданні і забойстве вядомага ўкраінскага журналіста Георгія Гангадзэ Еўрапейскі суд па правах чалавека прызнаў, што дзяржава парушыла права Гангадзэ на жыццё менавіта тым, што хутка і справядліва не расследавала акалічнасці яго гібелі.*

**Як гэта ні дзіўна гучыць, але права на жыццё ў пэўных абставінах можа быць абмежавана. Напрыклад, калі чалавек учыняе дзеянні, што пагражаюць жыццю і здароўю іншых людзей, супрацоўнікі праваахоўных органаў могуць ужыць зброю, калі гэта прадугледжана законам.**

**Такія дзеянні прадстаўнікоў дзяржавы павінны быць строга рэгламентаваны, а пагроза незваротных наступстваў ад дзеянняў нападніка павінна быць вельмі абгрунтаванай. Інакш дзяржаву можна лічыць парушальнікам права на жыццё.**





Сёння каля 70 краінаў свету яшчэ захоўваюць смяротную кару ў якасці пакарання за злачынствы. Зрэшты, пакаранне смерцю забаронена асобнымі пратаколамі № 6 і № 13 Еўрапейскай канвенцыі аб абароне правоў чалавека і асноўных свабодаў.






Як вы думаеце, чаму, прызнаючы смяротнае пакаранне як парушэнне права на жыццё, дзяржава ўсё ж дазваляе праваахоўным органам прымяняць зброю?



*У справе 1995 года «Маргарэт Маккан і іншыя супраць Вялікабрытаніі» Еўрапейскім судом было прызнана парушэнне права на жыццё ў сітуацыі, калі байцы спецпадраздзялення пры затрыманні па падазрэнні ў падрыхтоўцы тэракту па памылцы забілі некалькі невінаватых людзей.*



*У адной са справаў Еўрапейскі суд прыйшоў да высновы, што Расія парушыла права на жыццё людзей кабардзіна-балкарскага горада Тарнауз, разбуранага апоўзнем. Згодна з рашэннем суда, парушэнне складалася ў тым, што, маючы інфармацыю аб высокай верагоднасці будучай прыроднай катастрофы, улада не ажыццявіла ўсе неабходныя дзеянні дзеля таго, каб выратаваць людзей.*



Разгледзьце прыведзеныя прыклады справаў у Еўрапейскім судзе і параўнайце іх.

Што агульнага ў рашэннях Суда па гэтых справах?



Звярніце ўвагу, што і ў адным і ў другім выпадку, незалежна ад таго, ці наступіла смерць чалавека ў выніку дзеянняў або бяздзейнасці прадстаўнікоў дзяржавы, менавіта на дзяржаву кладзецца адказнасць за тое, што адбылося.

**Ці ўсё, што павінна забяспечыць вам права на жыццё, зроблена ў той установе, дзе вы працуеце ці вучыцеся?**











Паспрабуйце вызначыць тыя жыццёвыя сітуацыі, калі дзяржава павінна прадугледзець магчымыя пагрозы для жыцця і стварыць умовы, якія іх робяць немагчымымі.

# § 12. СМЯРОТНАЕ ПАКАРАННЕ Ў БЕЛАРУСІ

## СМЯРОТНАЕ ПАКАРАННЕ Ў БЕЛАРУСІ

**Андрэй Палуда**, каардынатар кампаніі «Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання ў Беларусі»:

**«Беларусь — адзіная краіна ў Еўропе і на постсавецкай прасторы, дзе існуе пакаранне смерцю. Калі асуджаныя да смяротнага пакарання трапляюць у “калідор смерці”, супрацоўнікі турмы ставяцца да іх так, як быццам іх ужо няма сярод жывых. Адвакатам часта адмаўляюць у спатканнях, карэспандэнцыя падвяргаецца цэнзуры або адбіраецца, каб не дазволіць сем’ям ведаць, ці жывыя іх сваякі».**

**У Рэспубліцы Беларусь да смяротнага пакарання могуць быць асуджаныя мужчыны ва ўзросце ад 18 да 65 гадоў.**

**Магчымасць судовай памылкі — адзін з важкіх аргументаў супраць смяротнага пакарання.**


**Міхаіл Гладкі.**

10 кастрычніка 2002 года Міхаіл Гладкі прыйшоў да сваёй маці, у дом, дзе яна жыла з яго братам Віктарам, пабачыў мёртвую маці і брата. Міхаіл вырашыў, што брат забіў маці, а сам спіць на ложку. Ён схапіў сякеру і ўдарыў па галаве брата, сам выклікаў міліцыю. У судзе віну прызнаў цалкам, адбыў 5 гадоў у калоніі. Сапраўднага забойцу, Эдуарда Лыкава, затрымалі ў 2011 годзе, ён прызнаўся ў шматлікіх забойствах і ў тым, што маці і брата Гладкага забіў за суткі да прыходу Міхаіла — 9 кастрычніка.

З 2014 года Міхаіл Гладкі дамагаецца аднаўлення права на пакрыццё шкоды за незаконнае асуджэнне.

**З 1971 года ў раёне Віцебска знікалі жанчыны, іх знаходзілі забітымі. Кожны раз следчыя органы знаходзілі «вінаватых» і прымушалі іх прызнацца ў «злачынствах».**


**Мікалай Цярэня** — ахвяра судовай памылкі.

**Мечыслаў Грыб**, беларускі дзяржаўны і палітычны дзеяч, заслужаны юрыст Рэспублікі Беларусь:

*«У ходзе расследавання гэтай справы высветлілі, што за злачынствы, якія маньяк Міхасевіч учыніў за 15 гадоў, незаконна асуджаныя на доўгія тэрміны зняволення 13 чалавек, а адзін з іх, Цярэня, быў расстраляны. Чалавека расстралялі ні за што. Пасля судовых памылак, якія мне давялося бачыць на свае вочы, я прыйшоў да высновы, што ніхто не павінен пазбаўляць чалавека жыцця».*





**Гары Паганяйла**, праваабаронца:

«У Беларусі працягвае дзейнічаць закон, калі цела пакаранага сваякам не выдаюць, месца пахавання не паведамляюць, спрабуюць зрабіць таямніцай і дату выканання прысуду. Камітэт ААН заявіў, што сама працэдура смяротнага пакарання ў Беларусі падпадае пад прыкметы катаванняў і бесчалавечнага стаўлення як да самога пакаранага, так і да яго сваякоў».


Мінск, СІЗА № 1 па вуліцы Валадарскага.


Мазыр, 28 снежня 2016 года — у Беларусі вынесены чарговы смяротны прысуд.



Беларусь на глобусе сярод краін, дзе існуе смяротнае пакаранне. Міжнародны кангрэс супраць смяротнага пакарання ў Осла, 2016 год.


Мінск, СІЗА № 1 па вуліцы Валадарскага, камера смяротнікаў, на турэмнай робе літары «ИМН» (исключительная мера наказания).



У 1999 годзе экс-міністр унутраных спраў Беларусі генерал **Юрый Захаранка** быў выкрадзены і стаў ахвярай пазасудовага пакарання. Юрый Захаранка планаваў адмену смяротнага пакарання ў Беларусі, пра гэта ён сказаў у 1998 годзе:

*«Смяротная кара не ў стане спыніць злачыннасць. Заходнія псіхіятры-крыміналісты, якія вывучалі гэтае пытанне, прыйшлі да высновы, што ніводзін з асуджаных перад забойствам не думаў пра магчымасць расплаты смяротнай карай. Пасля адмены вышэйшай меры ў краіне не расце колькасць цяжкіх злачынстваў. Здавалася б, танней расстраляць чалавека ды закапаць. Але такім чынам грамадства закопвае сябе. Нам неабходна павярнуцца да гуманізму і чалавечнасці».*

**Уладзіслаў Кавалёў і Дзмітрый Канавалаў былі асуджаны за арганізацыю і ўчыненне тэракту ў мінскім метро ў красавіку 2011 года. У сакавіку наступнага года былі пакараныя смерцю. Афіцыйная дата выканання прысуду — 15 сакавіка 2012 года, хаця сваякі Уладзіслава Кавалёва мяркуюць, што прысуд быў выкананы раней — 11 сакавіка.**



**З таго часу маці Уладзіслава Кавалёва змагаецца за тое, каб ёй выдалі цела сына і паведамілі дакладную дату выканання смяротнага прысуду. Яна спасылаюцца на рашэнне Камітэта па правах чалавека ААН, згодна з якім утойванне месца пахавання чалавека расцэньваецца як катаванне. Любоў Кавалёва не верыць у вінаватасць сына, лічыць крымінальнае абвінавачванне па гэтай справе сфальшаваным, судовае разбіральніцтва — несправядлівым, а прысуд — незаконным.**



**Любоў Кавалёва**, маці расстралянага Уладзіслава Кавалёва, на Міжнародным кангрэсе супраць смяротнага пакарання ў Осла, 2016 год.

ВЯСНА

НЕ забірай жыццё!

HUMAN RIGHTS HOUSE FOUNDATION

# СМЯРОТНАЕ ПАКАРАННЕ Ў БЕЛАРУСІ

**Андрэй Палуда**, каардынатар кампаніі «Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання ў Беларусі»:

**«Беларусь — адзіная краіна ў Еўропе і на постсавецкай прасторы, дзе існуе пакаранне смерцю. Калі асуджаныя да смяротнага пакарання трапляюць у “калідор смерці”, супрацоўнікі турмы ставяцца да іх так, як быццам іх ужо няма сярод жывых. Адвакатам часта адмаўляюць у спатканнях, карэспандэнцыя падвяргаецца цэнзуры або адбіраецца, каб не дазволіць сем’ям ведаць, ці жывыя іх сваякі».**

**У Рэспубліцы Беларусь да смяротнага пакарання могуць быць асуджаныя мужчыны ва ўзросце ад 18 да 65 гадоў.**
**Магчымасць судовай памылкі — адзін з важкіх аргументаў супраць смяротнага пакарання.**



**Міхаіл Гладкі.**

10 кастрычніка 2002 года Міхаіл Гладкі прыйшоў да сваёй маці, у дом, дзе яна жыла з яго братам Віктарам, пабачыў мёртвую маці і брата. Міхаіл вырашыў, што брат забіў маці, а сам спіць на ложку. Ён схапіў сякеру і ўдарыў па галаве брата, сам выклікаў міліцыю. У судзе віну прызнаў цалкам, адбыў 5 гадоў у калоніі. Сапраўднага забойцу, Эдуарда Лыкава, затрымалі ў 2011 годзе, ён прызнаўся ў шматлікіх забойствах і ў тым, што маці і брата Гладкага забіў за суткі да прыходу Міхаіла — 9 кастрычніка.

З 2014 года Міхаіл Гладкі дамагаецца аднаўлення права на пакрыццё шкоды за незаконнае асуджэнне.

**З 1971 года ў раёне Віцебска знікалі жанчыны, іх знаходзілі забітымі. Кожны раз следчыя органы знаходзілі «вінаватых» і прымушалі іх прызнацца ў «злачынствах».**



**Мікалай Цярэня** — ахвяра судовай памылкі.

**Мечыслаў Грыб**, беларускі дзяржаўны і палітычны дзеяч, заслужаны юрыст Рэспублікі Беларусь:

*«У ходзе расследавання гэтай справы высветлілі, што за злачынствы, якія маньяк Міхасевіч учыніў за 15 гадоў, незаконна асуджаныя на доўгія тэрміны зняволення 13 чалавек, а адзін з іх, Цярэня, быў расстраляны. Чалавека расстралялі ні за што. Пасля судовых памылак, якія мне давялося бачыць на свае вочы, я прыйшоў да высновы, што ніхто не павінен пазбаўляць чалавека жыцця».*





**Гары Паганяйла**, праваабаронца:

«У Беларусі працягвае дзейнічаць закон, калі цела пакаранага сваякам не выдаюць, месца пахавання не паведамляюць, спрабуюць зрабіць таямніцай і дату выканання прысуду. Камітэт ААН заявіў, што сама працэдура смяротнага пакарання ў Беларусі падпадае пад прыкметы катаванняў і бесчалавечнага стаўлення як да самога пакаранага, так і да яго сваякоў».



Мінск, СІЗА № 1 па вуліцы Валадарскага.



Мазыр, 28 снежня 2016 года — у Беларусі вынесены чарговы смяротны прысуд.




Беларусь на глобусе сярод краін, дзе існуе смяротнае пакаранне. Міжнародны кангрэс супраць смяротнага пакарання ў Осла, 2016 год.



Мінск, СІЗА № 1 па вуліцы Валадарскага, камера смяротнікаў, на турэмнай робе літары «ИМН» (исключительная мера наказания).



У 1999 годзе экс-міністр унутраных спраў Беларусі генерал **Юрый Захаранка** быў выкрадзены і стаў ахвярай пазасудовага пакарання. Юрый Захаранка планаваў адмену смяротнага пакарання ў Беларусі, пра гэта ён сказаў у 1998 годзе:

*«Смяротная кара не ў стане спыніць злачыннасць. Заходнія псіхіятры-крыміналісты, якія вывучалі гэтае пытанне, прыйшлі да высновы, што ніводзін з асуджаных перад забойствам не думаў пра магчымасць расплаты смяротнай карай. Пасля адмены вышэйшай меры ў краіне не расце колькасць цяжкіх злачынстваў. Здавалася б, танней расстраляць чалавека ды закапаць. Але такім чынам грамадства закопвае сябе. Нам неабходна павярнуцца да гуманізму і чалавечнасці».*

**Уладзіслаў Кавалёў і Дзмітрый Канавалаў былі асуджаны за арганізацыю і ўчыненне тэракту ў мінскім метро ў красавіку 2011 года. У сакавіку наступнага года былі пакараныя смерцю. Афіцыйная дата выканання прысуду — 15 сакавіка 2012 года, хаця сваякі Уладзіслава Кавалёва мяркуюць, што прысуд быў выкананы раней — 11 сакавіка.**



**З таго часу маці Уладзіслава Кавалёва змагаецца за тое, каб ёй выдалі цела сына і паведамілі дакладную дату выканання смяротнага прысуду. Яна спасылаецца на рашэнне Камітэта па правах чалавека ААН, згодна з якім утойванне месца пахавання чалавека расцэньваецца як катаванне. Любоў Кавалёва не верыць у вінаватасць сына, лічыць крымінальнае абвінавачванне па гэтай справе сфальшаваным, судовае разбіральніцтва — несправядлівым, а прысуд — незаконным.**




**Любоў Кавалёва**, маці расстралянага Уладзіслава Кавалёва, на Міжнародным кангрэсе супраць смяротнага пакарання ў Осла, 2016 год.

ВЯСНА праваабарончы цэнтр · Беларускі дом правоў чалавека імя Барыса Звозскава · HUMAN RIGHTS HOUSE FOUNDATION · РОЗУМІЄМО ПРАВА ЛЮДИНИ www.edu.helsinki.org.ua

# § 13. ПРАВААБАРОНЦЫ СУПРАЦЬ СМЯРОТНАГА ПАКАРАННЯ Ў БЕЛАРУСІ

## ПРАВААБАРОНЦЫ СУПРАЦЬ СМЯРОТНАГА ПАКАРАННЯ Ў БЕЛАРУСІ



**Святлана Алексіевіч**, пісьменніца, лаўрэат Нобелеўскай прэміі:

«Я была ў Афганістане і бачыла, як забіваюць людзей, як забіраюць чалавечае жыццё… І я заўсёды думала, як людзі жывуць адзін на адзін з той думкай, што яны могуць забіць іншага чалавека, зрабіць справу Бога, бо ні ў кога з нас няма на гэта права. Гэта старое, дапатопнае вырашэнне чалавечых праблемаў: забіць іншага, таму што ён з табой не згодны, таму што ён не такі, як ты, або ён учыніў штосьці страшнае. Я думаю, што наш свет так і застанецца светам людзей, якія забівалі сабе падобных. Я, вядома, далучаюся да тых, хто хоча наблізіць іншы час, калі ў іншага чалавека нават не ўзнікне думкі, як сёння ў нас не ўзнікае думкі з'есці іншага чалавека, бо людажэрства знікла з чалавечага жыцця, так і не ўзнікне думкі забіць іншага чалавека».



**Ганна Хітрык**, акторка, спявачка, аўтарка песень:

«Я ўвогуле не ведаю, што можа змусіць мяне сказаць, што я за тое, каб кагосьці не стала, кагосьці жывога. Мне здаецца, калі ты за смяротную кару, значыць, ты і за вайну. Я разумею, што чалавек, якога прыгаворваюць да такога пакарання, зрабіў шмат чагосьці нядобрага. На маю думку, помста — гэта ўвогуле кепска. Магчыма, чалавек павінен сядзець і доўга-доўга думаць над тым, што ён зрабіў. Дзяржава не павінна забіваць людзей. Дзяржава — гэта людзі, якіх мы абралі, на якіх мы спадзяемся, якім мы давяраем. І калі людзі, якім мы давяраем, будуць забойцамі, то якія ж яны людзі і якія ж мы людзі, калі абралі іх!»

**Кампанія «Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання ў Беларусі»** — праваабарончая кампанія за адмену смяротнага пакарання ў Беларусі. Заснаваная Праваабарончым цэнтрам «Вясна» і Беларускім Хельсінкскім камітэтам у 2009 годзе.

**Стынг (Sting)**, вядомы ва ўсім свеце музыка, падтрымаў намаганні праваабаронцаў у барацьбе за адмену смяротнага пакарання ў Беларусі і падпісаў петыцыю за адмену смяротнага пакарання ў Беларусі.

«Прывітанне! Мяне завуць Стынг, і я супраць смяротнага пакарання ва ўсіх выпадках — таму што я веру ў чалавечую годнасць. Толькі адна краіна ў Еўропе прымяняе смяротнае пакаранне — Беларусь. Час гэта змяніць. Няхай ваш голас пачуюць, падпішыце петыцыю супраць смяротнага пакарання ў Беларусі, і давайце спынім гэта — раз і назаўсёды».



Тыдзень супраць смяротнага пакарання, кастрычнік 2017 года. У вёсцы Стаўры Аршанскага раёна адбываецца дыскусія «Масавыя рэпрэсіі і смяротнае пакаранне» і прэзентацыя фільма «Гісторыя смяротнага пакарання ў Беларусі».

*Плакат Тыдня.*

Тыдзень супраць смяротнага пакарання, адбываецца з 5 па 10 кастрычніка, пачынаючы з 2013 года, прымеркаваны да 10 кастрычніка — Сусветнага дня супраць смяротнага пакарання. Падчас Тыдня супраць смяротнага пакарання ў Мінску і рэгіёнах Беларусі праходзяць пікеты, лекцыі, дыскусіі, канцэрты, прагляды фільмаў па тэме смяротнага пакарання ў свеце і ў Беларусі.

«Гарады за жыццё» — акцыя 30 лістапада, праходзіць у Беларусі з 2011 года. Гэта Міжнародная акцыя супраць смяротнага пакарання, якую ініцыявала ў Рыме каталіцкая Супольнасць Святога Эгідзія, адбываецца ў свеце штогод з 2002 года. Дата 30 лістапада абраная, бо ў гэты дзень у 1786 годзе ў Таскане ўпершыню ў гісторыі Еўропы было адмененае смяротнае пакаранне.

Вольга Грунова, маці расстралянага ў 2014 годзе Аляксандра Грунова, атрымала па пошце турэмную робу сына і абутак, у якім ён знаходзіўся ў камеры смяротнікаў. Усё гэта было даслана пасылкай «да запатрабавання». На куртцы напісаны белай фарбай літары «ИМН» (исключительная мера наказания).

***Андрэй Палуда** і актывістка кампаніі **Паліна Сцепаненка** каля турэмнай робы Аляксандра Грунова, 2014 год.*

V Сусветны кангрэс супраць смяротнага пакарання, Мадрыд, 12–15 чэрвеня 2013 года.

Дакументальная кніга «Смяротнае пакаранне ў Беларусі» выйшла на беларускай і англійскай мовах у 2015 і 2016 гадах.

*На вокладцы — турэмная роба Грунова.*

VI Сусветны кангрэс супраць смяротнага пакарання, Осла, 21–23 чэрвеня 2016 года. 22 чэрвеня Праваабарончы цэнтр «Вясна», Міжнародная федэрацыя за правы чалавека (FIDH) і Нарвежскі Хельсінкскі камітэт зладзілі дыскусію па праблеме смяротнага пакарання ў Беларусі, а таксама прэзентацыю англамоўнай версіі кнігі «Смяротнае пакаранне ў Беларусі».

Супольны даклад Праваабарончага цэнтра «Вясна» і Міжнароднай федэрацыі за правы чалавека (FIDH) «Смяротнае пакаранне ў Беларусі: забойства на (не)законных падставах».

**У рамках кампаніі знятыя дакуметальныя фільмы «Прычына смерці — прочырк» (2010), «Убыл по приговору» (2012), «Шэсць аргументаў супраць смяротнага пакарання» (2012–2015), «Гісторыя смяротнага пакарання ў Беларусі» (2017), рэжысёр Віктар Трацякоў.**

*Кадр з фільма «Убыл по приговору»: актывісты кампаніі ў Берліне ў былога начальніка СІЗА № 1, аўтара кнігі «Расстрэльная каманда» Алега Алкаева.*

**Анімацыйныя фільмы «Палёт», «Чарга», «Выканаўца», «Аловак і гумка», створаныя групай валанцёраў у межах кампаніі.**

Плакат мастака Алега Аблажэя з серыі «Шэсць аргументаў супраць смяротнага пакарання» (2014).

*Кадр з мульфільма «Выканаўца» (2013).*

«Выканаўца» (рэжысёр Данііл Жугжда) паказвае людзей, якія жывуць побач з намі і пры гэтым выконваюць смяротныя прысуды.

Рок-праект «Апошні золак».

*Комікс «Мама, гэта я…» (2017).*

**Фестываль «РОК за ЖЫЦЦЁ». Мінск, 2016 год. Мінск і Брэст, 2017 год.**

ВЯСНА · НЕ забірай жыццё! Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання ў Беларусі · HUMAN RIGHTS HOUSE FOUNDATION



# ПРАВААБАРОНЦЫ СУПРАЦЬ СМЯРОТНАГА ПАКАРАННЯ Ў БЕЛАРУСІ

**Святлана Алексіевіч**, пісьменніца, лаўрэат Нобелеўскай прэміі:

«Я была ў Афганістане і бачыла, як забіваюць людзей, як забіраюць чалавечае жыццё… І я заўсёды думала, як людзі жывуць адзін на адзін з той думкай, што яны могуць забіць іншага чалавека, зрабіць справу Бога, бо ні ў кога з нас няма на гэта права. Гэта старое, дапатопнае вырашэнне чалавечых праблемаў: забіць іншага, таму што ён з табой не згодны, таму што ён не такі, як ты, або ён учыніў штосьці страшнае. Я думаю, што наш свет так і застанецца светам людзей, якія забівалі сабе падобных. Я, вядома, далучаюся да тых, хто хоча наблізіць іншы час, калі ў іншага чалавека нават не ўзнікне думкі, як сёння ў нас не ўзнікае думкі з'есці іншага чалавека, бо людажэрства знікла з чалавечага жыцця, так і не ўзнікне думкі забіць іншага чалавека».



**Ганна Хітрык**, акторка, спявачка, аўтарка песень:

«Я ўвогуле не ведаю, што можа змусіць мяне сказаць, што я за тое, каб кагосьці не стала, кагосьці жывога. Мне здаецца, калі ты за смяротную кару, значыць, ты і за вайну. Я разумею, што чалавек, якога прыгаворваюць да такога пакарання, зрабіў шмат чагосьці нядобрага. На маю думку, помста — гэта ўвогуле кепска. Магчыма, чалавек павінен сядзець і доўга-доўга думаць над тым, што ён зрабіў. Дзяржава не павінна забіваць людзей. Дзяржава — гэта людзі, якіх мы абралі, на якіх мы спадзяемся, якім мы давяраем. І калі людзі, якім мы давяраем, будуць забойцамі, то якія ж яны людзі і якія ж мы людзі, калі абралі іх!»

**Кампанія «Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання ў Беларусі»** — праваабарончая кампанія за адмену смяротнага пакарання ў Беларусі. Заснаваная Праваабарончым цэнтрам «Вясна» і Беларускім Хельсінкскім камітэтам у 2009 годзе.



**Стынг (Sting)**, вядомы ва ўсім свеце музыка, падтрымаў намаганні праваабаронцаў у барацьбе за адмену смяротнага пакарання ў Беларусі і падпісаў петыцыю за адмену смяротнага пакарання ў Беларусі.

«Прывітанне! Мяне завуць Стынг, і я супраць смяротнага пакарання ва ўсіх выпадках — таму што я веру ў чалавечую годнасць. Толькі адна краіна ў Еўропе прымяняе смяротнае пакаранне — Беларусь. Час гэта змяніць. Няхай ваш голас пачуюць, падпішыце петыцыю супраць смяротнага пакарання ў Беларусі, і давайце спынім гэта — раз і назаўсёды».

Тыдзень супраць смяротнага пакарання, кастрычнік 2017 года. У вёсцы Стаўры Аршанскага раёна адбываецца дыскусія «Масавыя рэпрэсіі і смяротнае пакаранне» і прэзентацыя фільма «Гісторыя смяротнага пакарання ў Беларусі».




*Плакат Тыдня.*

Тыдзень супраць смяротнага пакарання, адбываецца з 5 па 10 кастрычніка, пачынаючы з 2013 года, прымеркаваны да 10 кастрычніка — Сусветнага дня супраць смяротнага пакарання. Падчас Тыдня супраць смяротнага пакарання ў Мінску і рэгіёнах Беларусі праходзяць пікеты, лекцыі, дыскусіі, канцэрты, прагляды фільмаў па тэме смяротнага пакарання ў свеце і ў Беларусі.

«Гарады за жыццё» — акцыя 30 лістапада, праходзіць у Беларусі з 2011 года. Гэта Міжнародная акцыя супраць смяротнага пакарання, якую ініцыявала ў Рыме каталіцкая Супольнасць Святога Эгідзія, адбываецца ў свеце штогод з 2002 года. Дата 30 лістапада абраная, бо ў гэты дзень у 1786 годзе ў Таскане ўпершыню ў гісторыі Еўропы было адмененае смяротнае пакаранне.



Вольга Грунова, маці расстралянага ў 2014 годзе Аляксандра Грунова, атрымала па пошце турэмную робу сына і абутак, у якім ён знаходзіўся ў камеры смяротнікаў. Усё гэта было даслана пасылкай «да запатрабавання». На куртцы напісаны белай фарбай літары «ИМН» (исключительная мера наказания).



***Андрэй Палуда** і актывістка кампаніі **Паліна Сцепаненка** каля турэмнай робы Аляксандра Грунова, 2014 год.*



V Сусветны кангрэс супраць смяротнага пакарання, Мадрыд, 12–15 чэрвеня 2013 года.



Дакументальная кніга «Смяротнае пакаранне ў Беларусі» выйшла на беларускай і англійскай мовах у 2015 і 2016 гадах.




*На вокладцы — турэмная роба Грунова.*

ВЯСНА праваабарончы цэнтр · Беларускі дом правоў чалавека імя Барыса Звозскава · Human Rights House Foundation · Розуміємо права людини www.edu.helsinki.org.ua



VI Сусветны кангрэс супраць смяротнага пакарання,
Осла, 21–23 чэрвеня 2016 года.
22 чэрвеня Праваабарончы цэнтр «Вясна», Міжнародная федэрацыя за правы чалавека (FIDH) і Нарвежскі Хельсінкскі камітэт зладзілі дыскусію па праблеме смяротнага пакарання ў Беларусі, а таксама прэзентацыю англамоўнай версіі кнігі «Смяротнае пакаранне ў Беларусі».






Супольны даклад Праваабарончага цэнтра «Вясна» і Міжнароднай федэрацыі за правы чалавека (FIDH) «Смяротнае пакаранне ў Беларусі: забойства на (не)законных падставах».



**У рамках кампаніі зняты дакуметальныя фільмы «Прычына смерці — прочырк» (2010), «Убыл по приговору» (2012), «Шэсць аргументаў супраць смяротнага пакарання» (2012–2015), «Гісторыя смяротнага пакарання ў Беларусі» (2017), рэжысёр Віктар Трацякоў.**

*Кадр з фільма «Убыл по приговору»: актывісты кампаніі ў Берліне ў былога начальніка СІЗА № 1, аўтара кнігі «Расстрэльная каманда» Алега Алкаева.*



Плакат мастака Алега Аблажэя з серыі «Шэсць аргументаў супраць смяротнага пакарання» (2014).

**Анімацыйныя фільмы «Палёт», «Чарга», «Выканаўца», «Аловак і гумка», створаныя групай валанцёраў у межах кампаніі.**



*Кадр з мульфільма «Выканаўца» (2013).*

«Выканаўца» (рэжысёр Данііл Жугжда) паказвае людзей, якія жывуць побач з намі і пры гэтым выконваюць смяротныя прысуды.




Рок-праект «Апошні золак».



*Комікс «Мама, гэта я…» (2017).*

**Фестываль «РОК за ЖЫЦЦЁ». Мінск, 2016 год. Мінск і Брэст, 2017 год.**



# § 14. ВЯРШЭНСТВА ПРАВА

## Вяршэнства права. Прававая дзяржава. Дэмакратыя.

Існуе некалькі важных канцэпцый, якія не звязаныя з правамі чалавека непасрэдна, але з'яўляюцца своеасаблівым «пажыўным асяроддзем», наяўнасць якога дазваляе найбольш поўна рэалізаваць правы і свабоды на практыцы. Сярод такіх канцэпцый найважнейшымі для нас з'яўляюцца дэмакратыя, прававая дзяржава і вяршэнства права.

Відавочна, што мы не зможам рэалізаваць свае правы і свабоды ў грамадстве, дзе прадстаўнікам улады дазволена рабіць усё, што ім захочацца. Прававая дзяржава і вяршэнства права і з'яўляюцца тымі прынцыпамі, якія закліканыя мінімізаваць самавольства дзяржаўнай улады.

Вельмі простае і дакладнае вызначэнне прававой дзяржавы даў польскі праваабаронца Марэк Навіцкі. На яго думку, прававая дзяржава — гэта дзяржава, дзе існуюць выразныя, зразумелыя для ўсіх правілы гульні, якія выконваюцца ўсімі. Гэта дзяржава, дзе кожны і кожная могуць з вялікай доляй верагоднасці прадбачыць наступствы сваіх учынкаў. Гэтакімі ж прадказальнымі ў прававой дзяржаве павінны быць і дзеянні ўсіх суб'ектаў уладных паўнамоцтваў.

Дзеля дасягнення гэтых мэтаў улада ў прававой дзяржаве падзеленая на заканадаўчую, выканаўчую і судовую — гэта робіцца дзеля недапушчэння ўзурпацыі ўлады адной асобай, органам або сацыяльнай групай. Яшчэ адной важнай прыкметай прававой дзяржавы з'яўляецца наяўнасць грамадскай дамовы – канстытуцыі, а таксама ўпаўнаважанага і незалежнага органа, які назірае за выкананнем палажэнняў канстытуцыі ўсімі галінамі ўлады і за адпаведнасцю дзеючых законаў канстытуцыйным нормам. Такім органам у большасці дэмакратычных краін з'яўляецца Канстытуцыйны Суд.

Надзвычай важна, каб людзі ў дзяржаве мелі магчымасць уплываць на працэс распрацоўкі і прыняцця гэтых правілаў гульні, каб існуючыя правілы былі зразумелыя, а ўлада прыкладала неабходныя намаганні для таго, каб данесці і растлумачыць іх сэнс кожнаму чалавеку.

Прававая дзяржава прадугледжвае ўзаемную адказнасць чалавека і ўлады. Чалавек бярэ на сябе абавязацельствы выконваць законы, але і дзяржава абавязваецца якасна прадастаўляць кожнаму з нас усе неабходныя «кіраўніцкія паслугі» і ствараць умовы для рэалізацыі гарантаваных кожнаму чалавеку правоў і свабодаў. А ўсе спрэчкі паміж людзьмі, а таксама паміж чалавекам і дзяржаўнай уладай у прававой дзяржаве вырашае незалежны арбітр — суд.

Такім чынам, прававая дзяржава азначае, што ўсе мы гуляем паводле правілаў, і гуляем сумленна. Калі хто-небудзь з гульцоў пастаянна парушае правілы і не хоча прызнаваць сваіх парушэнняў, гульня губляе сэнс. А гэта значыць, што для захавання гульні патрэбны ўзаемны кантроль — дзяржава павінна сачыць за тым, каб людзі не парушалі вызначаных правіл, але яшчэ важней, каб грамадства пільна сачыла за дзеяннямі ўлады і рэагавала ў кожным выпадку, калі прадстаўнікі ўлады парушаюць закон і перавышаюць прадастаўленыя ім паўнамоцтвы. Для ажыццяўлення гэтага кантролю ў прававой дзяржаве ствараюцца адпаведныя інстытуты і працэдуры.

Кажучы пра прынцып вяршэнства права, мы маем на ўвазе тое, што адносіны паміж людзьмі і адносіны паміж чалавекам і дзяржавай рэгламентуюцца выключна сістэмай права — канстытуцыяй і законамі. І ніводзін чыноўнік, ніводзін дзяржаўны орган, акрамя вышэйшага заканадаўчага (у нашай краіне такую функцыю выконвае Нацыянальны сход Рэспублікі Беларусь), не можа адмяняць або адвольна ўносіць змены ў гэтыя афіцыйна вызначаныя правілы.

Прынцып вяршэнства закона ўстанаўлівае іерархію норм права і кажа пра тое, што ніводзін падзаконны акт (загад, распараджэнне, інструкцыя і да т.п.) не можа супярэчыць прававым актам больш высокага парадку — канстытуцыі і законам, прынятым парламентам.

Увасабленне гэтых канцэпцый само па сабе яшчэ не з'яўляецца гарантыяй выканання правоў чалавека. Бо гітлераўскую Германію з пэўным абагульненнем можна назваць прававой дзяржавай, дзе дзейнічалі выразныя прававыя нормы і самавольства чыноўнікаў было зведзенае да мінімуму. Але на падставе прынятых у гэтай краіне законаў было закатавана і забіта некалькі мільёнаў чалавек. Таму пасля Другой сусветнай вайны канцэпцыя пра-

вавой дзяржавы была дапоўненая яшчэ адным важным складнікам — неабходнасцю выканання правоў чалавека з боку дзяржаўнай улады. Убачыўшы зверствы нацыстаў, чалавецтва прыйшло да высноваў, што недастаткова проста наяўнасці законаў, якія рэгулююць узаемаадносіны людзей і ўлады. Гэтыя законы павінны яшчэ і быць гуманнымі ды абараняць той мінімальны пералік агульнапрызнаных каштоўнасцяў і патрэбаў людзей, якія мы цяпер называем правамі чалавека.

І напрыканцы, мабыць, варта сказаць яшчэ некалькі словаў пра дэмакратыю — канцэпцыю, якая таксама апасродкавана, але даволі шчыльна звязаная з канцэпцыяй правоў чалавека. Гаворачы аб дэмакратыі, мы маем на ўвазе грамадства, дзе ўладу ў інтарэсах народа ажыццяўляюць яго прадстаўнікі, абраныя паводле вызначаных працэдураў. Лічыцца, што такі дзяржаўны лад дае кожнаму і з нас больш магчымасцяў браць удзел у кіраванні агульнымі рэсурсамі, уплываць на прыняцце рашэнняў, ад якіх залежаць нашыя сучаснасць і будучыня.

Гісторыя паказвае нам, што ўлада большасці таксама можа быць бесчалавечна жорсткай. Рашэннем большасці быў адпраўлены на смерць грэцкі філосаф Сакрат, менавіта большасць прывяла да ўлады ў Германіі Адольфа Гітлера. Такім чынам, дэмакратыя сама па сабе таксама яшчэ не з'яўляецца гарантыяй захавання правоў чалавека. Але, з іншага боку, цяжка прывесці прыклады аўтарытарных, таталітарных ці тэакратычных дзяржаваў, дзе б узровень выканання правоў чалавека быў бы вышэйшы за дэмакратычныя краіны. З існуючых сёння формаў праўлення менавіта дэмакратыя дае нам найбольш магчымасцяў для рэалізацыі і абароны сваіх правоў і свабодаў.

Сучаснае ўяўленне пра дэмакратыю таксама зведала істотныя змены. Сёння, кажучы пра дэмакратыю, мы ўжо не гаворым толькі аб прыняцці рашэнняў большасцю галасоў. Мы разумеем, што, гэтак жа, як і любая іншая ўлада, улада большасці павінна быць абмежаваная. І такімі межамі, якія ў дэмакратычным грамадстве не дазволена перасякаць ўладзе, і ёсць правы чалавека.

# ВЯРШЭНСТВА ПРАВА І ПРАВАВАЯ ДЗЯРЖАВА



**Барыс Звозскаў** (1949–2012), беларускі праваабаронца, першы прэзідэнт Беларускага дома правоў чалавека ў Вільні:

«Важна, каб нашы прадстаўнікі судовых і праваахоўных органаў, адвакатуры разумелі сутнасць правоў чалавека».





Тое, што нехта мае ўладу, не азначае, што ён можа рабіць з намі ўсё, што захоча. Усюды ёсць правілы, якія кажуць пра тое, што можна, а што нельга рабіць кожнаму з нас. Для тых, хто мае ўладу, таксама існуюць такія правілы.



**У прававой дзяржаве рашэнне пра тое, ці выконваюцца правілы (законы), выносіць незалежны суд. І калі правілы сапраўды зразумелыя, а суд сапраўды незалежны, мы можам упэўнена сказаць, якім будзе яго рашэнне.**





Нацысцкая Германія была дзяржавай, у якой існавалі дакладныя правілы — законы, якія строга выконваліся.

Паводле законаў, якія дзейнічалі ў той час, чалавека можна было забіць толькі за тое, што ён належаў да, на думку нацыстаў, «непаўнавартаснай» нацыі.



**«Ніколі не забывайце: усё, што рабіў Гітлер у Германіі, было законным…»**

Марцін Лютэр Кінг

Тое, што нацысты дзейнічалі паводле тагачасных законаў, было іх асноўным аргументам на Нюрнбергскім працэсе 1945–1946 гг.





***Менавіта справядлівасць з'яўляецца адной з асноваў права і вырашальным фактарам у вызначэнні яго як рэгулятара грамадскіх стасункаў. Ніякі закон не можа парушаць нашы правы і свабоды.***




Прагнучы не дазволіць больш жахаў Другой сусветнай вайны, 10 снежня 1948 года Генеральная асамблея ААН абвясціла Усеагульную дэкларацыю правоў чалавека, у якой былі запісаны асноўныя правілы для дзяржаваў. Гэтыя правілы назвалі правамі чалавека.

У дэмакратычным грамадстве межамі, якія не дазволена парушаць уладзе, з'яўляюцца ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА.





# ВЯРШЭНСТВА ПРАВА






Якую ролю ў нашым жыцці адыгрывае для нас ступень разумення законаў і правілаў?

Чаму важна, каб правілы былі аднолькавымі для ўсіх?

Назавіце агульначалавечыя каштоўнасці, якія, на вашу думку, павінны ляжаць у аснове такіх правіл.



Тое, што нехта мае ўладу, не азначае, што ён можа рабіць з намі ўсё, што захоча. Усюды ёсць правілы, якія кажуць пра тое, што можна, а што нельга рабіць кожнаму з нас. Для тых, хто мае ўладу, таксама існуюць такія правілы.



Растлумачце, як вы разумееце словы пра тое, што ўлада павінна выконваць нашы правы, незалежна ад таго, ведаем мы пра іх ці не.

Падумайце, што павінна рабіць улада, каб мы ведалі свае правы.

Назавіце крыніцы інфармацыі, з якіх мы можам даведацца аб сваіх правах.



**У прававой дзяржаве рашэнне пра тое, ці выконваюцца правілы (законы), выносіць незалежны суд. І калі правілы сапраўды зразумелыя, а суд сапраўды незалежны, мы можам упэўнена сказаць, якім будзе яго рашэнне.**





Як вы можаце растлумачыць сэнс фатаграфій?

Як вы разумееце паняцце «незалежны суд»? Якім чынам гэта дасягаецца?

Якія гістарычныя прыклады рашэнняў незалежнага і падуладнага судоў вы можаце прывесці?

Чым павінен кіравацца суд пры прыняцці рашэнняў?

Як вы думаеце, у чым розніца паміж паняццямі «вяршэнства закона» і «вяршэнства права»?



Нацысцкая Германія была дзяржавай, у якой існавалі дакладныя правілы — законы, якія строга выконваліся.

Паводле законаў, якія дзейнічалі ў той час, чалавека можна было забіць толькі за тое, што ён належаў да, на думку нацыстаў, «непаўнавартаснай» нацыі.



«Ніколі не забывайце: усё, што рабіў Гітлер у Германіі, было законным…»

Марцін Лютэр Кінг

Тое, што нацысты дзейнічалі паводле тагачасных законаў, было іх асноўным аргументам на Нюрнбергскім працэсе 1945–1946 гг.





У чым, на вашу думку, заключаюцца стратэгічна важныя для чалавецтва рашэнні Нюрнбергскага трыбунала?

Якім чынам гэтае рашэнне паўплывала на далейшую гісторыю?

Як вы разумееце паняцце «злачынства супраць чалавечнасці»?



Злачынства супраць чалавечнасці (злачынства супраць міру і бяспекі чалавецтва, англ. *crime against humanity*) — від злачынства, якія вылучаецца ў сучасным міжнародным праве. Таксама ўжываецца тэрмін «злачынства супраць чалавецтва». Змест гэтага паняцця ў тым, што злачынства настолькі сур'ёзнае, што яго ахвярамі з'яўляюцца не толькі непасрэдна пацярпелыя, але і ўсё чалавецтва ў цэлым.



***Менавіта справядлівасць з'яўляецца адной з асноваў права і вырашальным фактарам у вызначэнні яго як рэгулятара грамадскіх стасункаў. Ніякі закон не можа парушаць нашы правы і свабоды.***







Пракаментуйце меркаванне пра тое, што вяршэнства права не тоесна вяршэнству закона, а закон можа быць несправядлівым.

Што, на вашу думку, робіць закон справядлівым?

Што вы ведаеце аб працы ААН у сферы правоў чалавека? Якія органы, інстытуты або працэдуры ААН па абароне правоў чалавека вы ведаеце?

Прагнучы не дазволіць больш жахаў Другой сусветнай вайны, 10 снежня 1948 года Генеральная асамблея ААН абвясціла Усеагульную дэкларацыю правоў чалавека, у якой былі запісаны асноўныя правілы для дзяржаваў. Гэтыя правілы назвалі правамі чалавека.

У дэмакратычным грамадстве межамі, якія не дазволена парушаць уладзе, з'яўляюцца ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА.



# § 15. ПРЫВАТНАСЦЬ

Права на павагу прыватнага і сямейнага жыцця — або, як яго часта называюць, права на прыватнасць — мае вельмі шмат аспектаў. Гэта нядзіўна, бо асабістае жыццё чалавека з'яўляецца надзвычай шматгранным, і кожная ягоная праява мае патрэбу ў абароне ад умяшанняў. Сёння стандарты права на прыватнасць ахопліваюць і жыллё, і камунікацыі, асабістыя рэчы і цела чалавека, а таксама адносіны паміж партнёрамі і ўзаемаадносіны дзяцей і бацькоў. Але ўсю гэтую разнастайнасць, паводле трапнага выразу амерыканскага суддзі Томаса Кулея, можна звесці да «права на тое, каб цябе пакінулі ў спакоі».

Першай вехай на шляху станаўлення права на прыватнасць была недатыкальнасць жылля чалавека, якая была замацаваная ў англійскім праве яшчэ ў XVII стагоддзі. У справаздачы брытанскага парламента 1763 года мы можам знайсці такія выдатныя словы: «Самы бедны чалавек можа абвясціць непадпарадкаванне ўладзе кароны, знаходзячыся ў сценах уласнай хаціны. Яна можа быць разваліной з дахам, што ўздрыгвае ад ветру і скразнякоў, у яе можа ўварвацца бура і дождж, але кароль Англіі ў яе ўварвацца не можа. Уся яго сіла заканчваецца ля парога старога жылля». У перыяд буржуазных рэвалюцый гэтае права было гарантаванае канстытуцыямі шэрагу еўрапейскіх краін і папраўкамі да канстытуцыі ЗША. А пасля Другой сусветнай вайны права на прыватнасць было замацаванае ў большасці асноўных міжнародных пагадненняў у галіне правоў чалавека. Сёння, паводле стандартаў права на прыватнасць, кожны чалавек можа разлічваць на абарону ад уварвання не толькі ў жыллё, якім ён валодае на правах уласнасці, але і ў памяшканні, якія ён займае часова, напрыклад нумар у гатэлі або купэ цягніка. Акрамя гэтага, парушэннем недатыкальнасці жылля лічацца і такія дзеянні ўладаў, у выніку якіх істотна пагаршаецца якасць жыцця людзей. Напрыклад, у 2011 годзе Еўрапейскі суд па правах чалавека прыняў рашэнне па справе Наталлі Грымоўскай супраць Украіны. Заяўніца скардзілася на пагаршэнне жыллёвых умоў і стану здароўя праз тое, што мясцовыя ўлады дазволілі рух грузавога транспарту па непрыдатнай для гэтага дарозе, якая праходзіла каля яе дома. Ціхая гарадская вуліца раптам ператварылася ў міждзяржаўную аўтастраду. Наступствам гэтага зрабіліся пыл, смог, смурод і паступовае разбурэнне шматкватэрнага дома. Суд выявіў парушэнне права на прыватнасць і абавязаў Украіну выплаціць заяўніцы 10 000 еўра ў якасці кампенсацыі за нанесеную маральную шкоду.

З часам уяўленне аб межах свабоды асабістага і сямейнага жыцця істотна пашырылася. З тых часоў як у 1890 годзе вядомыя амерыканскія праваназнаўцы Самюэль Уорэн і Луіс Брэндэйс апублікавалі артыкул «Права на прыватнасць», юрысты не перастаюць спрачацца аб тым, што яно азначае. Прагрэс і змяненне класавай структуры грамадства прынеслі разуменне таго, што прыватнасць не абмяжоўваецца недатыкальнасцю жылля. Юрысты кажуць пра тое, што права на прыватнасць заклікана забяспечваць чалавеку як мінімум тры рэчы: таямніцу, ананімнасць і магчымасць адасобіцца.

Яшчэ адным важным аспектам права на прыватнасць з'яўляецца забарона збіраць, захоўваць і распаўсюджваць інфармацыю пра нас без нашай на тое згоды. Гэта азначае, што ніхто не мае права распаўсюджваць тую інфармацыю пра нас, якую мы не хочам рабіць публічнай: нашы адносіны з іншымі людзьмі, стан нашага здароўя, фотаздымкі і асабістыя выказванні, банкаўская інфармацыя або прафесійныя таямніцы. Упершыню ўвага да гэтага аспекту права на прыватнасць была прыцягнутая на пачатку XX стагоддзя — у 1902 годзе амерыканская кампанія Rochester Folding-Box Company выпусціла некалькі тысяч рэкламных улётак, на якіх была фатаграфія дзяўчыны — міс Робертсан. Дзяўчына не давала згоды на выкарыстанне гэтага здымку і, каб абараніць сябе, была вымушаная звярнуцца ў суд. Суд прызнаў парушэнне, і ў выніку ў штаце Нью-Ёрк быў прыняты закон, які пастанаўляў, што «любая асоба, фірма ці карпарацыя, якія ў рэкламных або камерцыйных мэтах выкарыстоўваюць імя або асобу якога-небудзь жывога на цяперашні момант чалавека без яго згоды, учыняюць злачынства». Іншы прыклад — справа «Z супраць Фінляндыі», дзе заяўніца скардзілася на тое, што падчас судовага следства была разгалошаная інфармацыя аб яе ВІЧ-пазітыўным статусе. Распаўсюд у прэсе медыцынскага дыягназу значна ўскладніў жыццё гэтай жанчыны. Еўрапейскі суд пастанавіў, што, паколькі падобныя даныя аб стане здароўя чалавека маюць вельмі далікатны і асабісты характар, любыя дзеянні дзяржавы, накіраваныя на іх разгалошванне без згоды пацыента, з'яўляюцца парушэннем артыкула 8 Еўрапейскай канвенцыі па правах чалавека.

Аднак варта адзначыць, што не ўсе людзі аднолькава абароненыя гэтым правам ад пільнай увагі грамадства. Калі чалавек з'яўляецца публічным палітыкам, членам урада або дэпутатам парламента ці займае дзяржаўную пасаду, ён валодае меншым «інфармацыйным імунітэтам», чым большасць з нас, і прэса мае права распаўсюджваць больш асабістай інфармацыі пра такіх публічных людзей. Адказ на пытанне «чаму так?» вельмі просты: калі ад рашэнняў і ўчынкаў асобы залежыць лёс многіх людзей, грамадства мае права больш ведаць пра такога чалавека. Публічныя асобы вымушаныя прымаць крытыку

з боку грамадства. Так, у 1991 годзе Еўрапейскі суд не знайшоў парушэння права на прыватнасць вядомага аўстрыйскага палітыка, спадара Грабхера-Меера, передвыбарчыя заявы якога рэзка крытыкаваў журналіст, спадар Абершлік. У сваім артыкуле ён нават назваў палітыка ідыётам. Еўрапейскі суд у сваім рашэнні адзначыў, што «ступень дапушчальнай крытыкі ў дачыненні да палітыка з'яўляецца шырэйшай, чым у дачыненні да прыватнай асобы... Першы павінен праяўляць вялікую ступень цярпімасці, асабліва калі ён сам робіць публічныя заявы, здольныя выклікаць крытыку».

Акрамя гэтага, мы маем права атрымліваць інфармацыю, якую збіраюць пра нас упаўнаважаныя дзяржаўныя органы.

Права на прыватнасць абараняе і фізічную цэласнасць чалавека. Гэта азначае, што ніхто не мае права прычыняць нам цялесныя пашкоджанні, а абавязкам дзяржавы з'яўляецца заканадаўча забараніць такія дзеянні і стварыць дзейсныя механізмы расследавання і пакарання для тых, хто парушае гэтую забарону. Гэта азначае і тое, што ні над адным чалавекам без ягонай згоды не могуць праводзіцца медыцынскія маніпуляцыі або эксперыменты з ягоным целам. Гэтая забарона распаўсюджваецца на медыцынскія агляды, аналізы і аператыўнае ўмяшальніцтва, акрамя выпадкаў, калі гаворка ідзе пра пагрозу жыццю або непапраўную шкоду здароўю чалавека, пры ўмове, што атрымаць згоду чалавека няма магчымасці.

У 1998 годзе Еўрапейскі суд разгледзеў скаргу Макгінлі і Ігана супраць Злучанага Каралеўства, якія сцвярджалі, што падчас службы ў брытанскай арміі яны зрабіліся аб'ектам эксперыментаў па ўздзеянні радыяцыі на арганізм чалавека. Суд прызнаў такое ўмяшанне неправамерным і выявіў парушэнне права на прыватнасць абодвух заяўнікаў.

Пранікненне ў жыллё або ўмяшанне ў карэспандэнцыю (праслухоўванне тэлефонных размоваў, чытанне лістоў, электронных і смс-паведамленняў) з мэтай раскрыцця крымінальных злачынстваў могуць быць прызнаныя легітымным абмежаваннем права на прыватнасць. Але дзяржава павінна мець сур'ёзныя і абгрунтаваныя падставы для такога ўмяшання ў асабістае жыццё чалавека. Яно павінна быць законным і строга рэгламентаваным.

Еўрапейскі суд па правах чалавека прызнаў парушэнні ў справе спадара Круслена, які быў асуджаны за махлярства. Доказам у судзе быў прызнаны запіс тэлефоннай размовы Круслена. Праслухоўванне яго размоваў было санкцыянаванае суддзёй, але не было прадугледжанае законамі Францыі. Еўрапейскі суд у сваім рашэнні адзначыў у тым ліку наступнае: «Праслухоўванне і іншыя формы перахопу тэлефонных размоваў уяўляюць сабой сур'ёзнае ўмяшальніцтва ў асабістае жыццё і карэспандэнцыю і таму павінны быць заснаваныя на законе, які ў гэтай частцы павінен быць асабліва дакладным. Патрэбныя выразныя і падрабязна распрацаваныя правілы правядзення падобных аператыўных мерапрыемстваў, тым больш што адпаведная тэхналогія пастаянна развіваецца і ўскладняецца».

Праваахоўныя органы ва ўсе часы і ва ўсіх краінах былі схільныя злоўжываць сваімі паўнамоцтвамі, і таму дзеля папярэджання парушэнняў, у тым ліку права на прыватнасць, грамадства павінна пастаянна і пільна сачыць за дзеяннямі міліцыі, пракуратуры і службы бяспекі.

Права на павагу сямейнага жыцця абараняе адносіны паміж партнёрамі (найперш у шлюбе). Дзяржава не можа ўмешвацца ва ўзаемаадносіны паміж людзьмі, перашкаджаць наладжваць і падтрымліваць асабістыя адносіны.

Таксама ў кантэксце права на прыватнасць абароне падлягаюць ўзаемаадносіны дзяцей і іх біялагічных бацькоў. Дзяржава павінна рабіць усё неабходнае дзеля таго, каб захаваць такія адносіны, і можа ўмяшацца ў іх толькі ў выпадках, калі яны нясуць рэальную небяспеку.

Еўрапейскі суд па правах чалавека прызнаў парушэнне права на прыватнасць у справе “Савіны супраць Украіны”, дзе невідушчыя муж і жонка скардзіліся на тое, што сацыяльныя службы адабралі і змясцілі ў інтэрнаты чатырох іх малалетніх дзяцей. Прадстаўнікі дзяржавы заяўлялі, што дзейнічалі ў інтарэсах дзяцей, патрэбы якіх не маглі ў поўнай ступені забяспечыць невідушчыя бацькі. Аднак Еўрапейскі суд прызнаў такую меру непрапарцыйным умяшаннем у сямейнае жыццё, звярнуўшы ўвагу на тое, што дзяржава не прадаставіла належнай падтрымкі гэтай сям'і і, адпаведна, не выканала сваіх абавязкаў па захаванні адносінаў дзяцей і іх бацькоў.

Права на прыватнасць абараняе такія аспекты самаідэнтыфікацыі чалавека, як імя і гендар (сацыяльны пол). Яшчэ ў 1992 годзе Еўрапейскі суд прызнаў парушэннем адмову французскіх уладаў унесці змены ў пасведчанне аб нараджэнні спадарыні Б, якая пры нараджэнні была зарэгістраваная як дзіця мужчынскага полу, а ў сталым узросце зрабіла аперацыю па карэкцыі полу.

# ПРЫВАТНАСЦЬ





**Алан Ф. Уэсцін**, юрыст і палітолаг, аўтар кнігі «Прыватнасць і свабода», апублікаваний у 1967 годзе:

«Я вызначаю прыватнасць як імкненне людзей свабодна выбіраць, пры якіх умовах і да якіх межаў яны будуць выстаўляць напаказ сябе, свае перакананні і дзеянні».




Ці ведаеце вы, хто і як выкарыстоўвае вашы фатаграфіі, размешчаныя ў альбомах на Фэйсбуку, у «Аднакласніках» або «УКантакце»?

Ці ўпэўненыя вы, што вашы лісты і смс з прызнаннямі ў каханні чытаюць толькі тыя, каму яны адрасаваныя?

Ці задумваліся вы аб тым, што значыць, калі чалавек кажа: «Гэта мая прыватная справа!»?

Ці можа хто-небудзь атрымаць доступ да інфармацыі аб тым, якія ў вас даўгі або медыцынскі дыягназ?

STOP!



**«Права на прыватнасць — гэта права на тое, каб цябе пакінулі ў спакоі».**

Суддзя **Томас Кулей**, ЗША. XIX ст.



Канфідэнцыяльнасць — гэта крыніца і апора індывідуальнасці чалавека. У шырокім сэнсе яна азначае магчымасць чалавека свабодна выбіраць, пры якіх абставінах і ў якой меры раскрываць сябе і сваё стаўленне да іншых.





У юрыдычнай практыцы права на прыватнасць заклікана забяспечваць чалавеку як мінімум тры рэчы: **таямніцу, ананімнасць і магчымасць быць на самоце**.





*У справе «Z супраць Фінляндыі» 1997 года ВІЧ-інфікаваная заяўніца, чый медыцынскі дыягназ быў выдадзены дзяржаўнымі служачымі, выйграла справу супраць сваёй дзяржавы ў Еўрапейскім судзе па правах чалавека. Суд пастанавіў, што, паколькі даныя аб ВІЧ-інфекцыі чалавека маюць вельмі далікатны і асабісты характар, любыя дзеянні дзяржавы, накіраваныя на распаўсюджванне або выдаванне такіх даных без згоды пацыента, з'яўляюцца парушэннем Еўрапейскай канвенцыі па правах чалавека.*

**Зараз да сферы абароны права на прыватнасць адносяць таксама абарону ад несанкцыянаваных медыцынскіх маніпуляцый або эксперыментаў.**



***Нярэдка ўлада, сцвярджаючы, што гэта робіцца дзеля забеспячэння правапарадку і бяспекі, умешваецца ў прыватнае жыццё.***





*У 1998 годзе звычайную вуліцу, на якой жыла Наталля Грымкоўская, далучылі да аўтамагістралі міжнароднага значэння і пусцілі па ёй грузавы транспарт.*

*Санстанцыя, якая вывучыла экалагічную сітуацыю на вуліцы, пастанавіла, што на працягу гадзіны там праходзіла амаль 130 грузавых машын.*

*Еўрапейскі суд па правах чалавека прызнаў, што кумулятыўны шум, вібрацыі, забруджванне паветра і глебы мелі негатыўны ўплыў на сямейнае жыццё істца, і прызнаў гэта парушэннем права на прыватнае і сямейнае жыццё.*






Міс Робертсан, чые фота без яе згоды былі надрукаваныя шматтысячным накладам на паштоўках, у 1902 годзе выйграла суд супраць амерыканскай кампаніі Rochester Folding-Box Company.

У выніку ў штаце Нью-Ёрк выйшаў закон, які прадугледжваў, што «любая асоба, фірма або карпарацыя, якія ў рэкламных або камерцыйных мэтах выкарыстоўваюць імя або выяву любога жывога на дадзены момант чалавека без яго згоды, учыняюць злачынства».



# ПРАВА НА ПРЫВАТНАСЦЬ



**Алан Ф. Уэсцін**, юрыст і палітолаг, аўтар кнігі «Прыватнасць і свабода», апублікаванай у 1967 годзе:

«Я вызначаю прыватнасць як імкненне людзей свабодна выбіраць, пры якіх умовах і да якіх межаў яны будуць выстаўляць напаказ сябе, свае перакананні і дзеянні».






Дзе, на вашу думку, могуць быць усталяваны камеры назірання? Хто іх можа ўсталёўваць?

Ці павінна быць паведамленне пра відэаназіранне там, дзе яно вядзецца?

Дзе павінны захоўвацца відэазапісы назіранняў? Хто мае дазвол на іх прагляд?

Як звязаны пытанні відэаназірання з правам на прыватнасць?

У якіх выпадках, на вашу думку, усталяванне камер назірання з'яўляецца правамерным абмежаваннем права на прыватнасць?



У апошні час «жыццё» ў сацыяльных сетках прапануе розныя актыўнасці — можна размяшчаць асабістыя фота, відэаролікі, уласныя меркаванні... У публічную прастору трапляе розная інфармацыя, якая карыстальнікамі можа ўспрымацца як прыватная. Аднак часта самі карыстальнікі не задумваюцца над гэтым.

Ці ведаеце вы, хто і як выкарыстоўвае вашы фатаграфіі, размешчаныя ў альбомах на Фэйсбуку, у «Аднакласніках» або «УКантакце»?

Ці ўпэўненыя вы, што вашы лісты і смс з прызнаннямі ў каханні чытаюць толькі тыя, каму яны адрасаваныя?

Ці задумваліся вы аб тым, што значыць, калі чалавек кажа: «Гэта мая прыватная справа!»?

Ці можа хто-небудзь атрымаць доступ да інфармацыі аб тым, якія ў вас даўгі або медыцынскі дыягназ?

Прачытайце пагадненні карыстальніка ў сацыяльных сетак і паспрабуйце вызначыць, наколькі яны абараняюць прыватную інфармацыю.

Якую інфармацыю карыстальнікі, у адпаведнасці з дамовамі, самі згаджаюцца размяшчаць у публічнай прасторы?

STOP!



**«Права на прыватнасць — гэта права на тое, каб цябе пакінулі ў спакоі».**

Суддзя **Томас Кулей**, ЗША. XIX ст.





Як вы можаце пракаментаваць прыведзенае выслоўе?

Падбярыце да выказвання суддзі Томаса Кулея фатаграфіі, прадстаўленыя па тэме «Прыватнасць», і растлумачце ваш выбар.

Канфідэнцыяльнасць — гэта крыніца і апора індывідуальнасці чалавека. У шырокім сэнсе яна азначае магчымасць чалавека свабодна выбіраць, пры якіх абставінах і ў якой меры раскрываць сябе і сваё стаўленне да іншых.





У юрыдычнай практыцы права на прыватнасць заклікана забяспечваць чалавеку як мінімум тры рэчы: **таямніцу, ананімнасць і магчымасць быць на самоце**.





*У справе «Z супраць Фінляндыі» 1997 года ВІЧ-інфікаваная заяўніца, чый медыцынскі дыягназ быў выдадзены дзяржаўнымі служачымі, выйграла справу супраць сваёй дзяржавы ў Еўрапейскім судзе па правах чалавека. Суд пастанавіў, што, паколькі даныя аб ВІЧ-інфекцыі чалавека маюць вельмі далікатны і асабісты характар, любыя дзеянні дзяржавы, накіраваныя на распаўсюджванне або выдаванне такіх даных без згоды пацыента, з'яўляюцца парушэннем Еўрапейскай канвенцыі па правах чалавека.*



Азнаёмцеся з прыведзеным выпадкам. Ці з'яўляецца злачынствам выкарыстанне для публікацый у газетах, улётках, часопісах фотаздымкаў палітыкаў, дзяржаўных чыноўнікаў? Растлумачце ваш адказ.

**Зараз да сферы абароны права на прыватнасць адносяць таксама абарону ад несанкцыянаваных медыцынскіх маніпуляцый або эксперыментаў.**



***Нярэдка ўлада, сцвярджаючы, што гэта робіцца дзеля забеспячэння правапарадку і бяспекі, умешваецца ў прыватнае жыццё.***





*У 1998 годзе звычайную вуліцу, на якой жыла Наталля Грымкоўская, далучылі да аўтамагістралі міжнароднага значэння і пусцілі па ёй грузавы транспарт.*

*Санстанцыя, якая вывучыла экалагічную сітуацыю на вуліцы, пастанавіла, што на працягу гадзіны там праходзіла амаль 130 грузавых машын.*

*Еўрапейскі суд па правах чалавека прызнаў, што кумулятыўны шум, вібрацыі, забруджванне паветра і глебы мелі негатыўны ўплыў на сямейнае жыццёісціцы, і прызнаў гэта парушэннем права на прыватнае і сямейнае жыццё.*



Назавіце магчымыя прычыны такога рашэння Еўрапейскага суда.






Міс Робертсан, чые фота без яе згоды былі надрукаваныя шматтысячным накладам на паштоўках, у 1902 годзе выйграла суд супраць амерыканскай кампаніі Rochester Folding-Box Company.

У выніку ў штаце Нью-Ёрк выйшаў закон, які прадугледжваў, што «любая асоба, фірма або карпарацыя, якія ў рэкламных або камерцыйных мэтах выкарыстоўваюць імя або выяву любога жывога на дадзены момант чалавека без яго згоды, учыняюць злачынства».



Назавіце магчымыя прычыны такога рашэння суда.

# § 16. СВАБОДА СУМЛЕННЯ І ВЕРАВЫЗНАННЯ

Свабода думкі, сумлення і рэлігіі, ці, як часта называюць яе, свабода веравызнання, было адным з першых правоў, адстойванне якога аб'яднала многіх людзей у еўрапейскіх краінах. Драматычная гісторыя станаўлення гэтай свабоды мае карані глыбока ў сярэднявеччы і цесна звязаная са станаўленнем усёй канцэпцыі правоў чалавека. У сярэднія вякі ў Еўропе ўлада каталіцкай царквы была амаль што бязмежнай, нават еўрапейскія манархі не маглі кіраваць без падтрымкі Папы Рымскага.

Каталіцкія дагматы адыгрывалі вялікую ролю ў паўсядзённым жыцці еўрапейцаў, любое іншадумства строга каралася інквізіцыяй. Але ўжо ў XIV стагоддзі з'явіліся першыя парасткі супраціву ўлады каталіцкай царкве: спачатку прафесар Оксфардскага ўніверсітэта Джон Уікліф абвясціў неабходнасць знішчэння сістэмы папскага кіравання і зрабіў Біблію даступнай для многіх англічанаў — на роднай для іх мове. Менавіта погляды Уікліфа і яго паслядоўніка — чэшскага пастара Яна Гуса заклалі аснову для будучай Рэфармацыі — абвешчанага нямецкім прафесарам багаслоўя Марцінам Лютэрам масавага рэлігійнага і грамадска-палітычнага руху, у выніку якога ўзніклі і зацвердзіліся шматлікія новыя хрысціянскія канфесіі, якія не прымалі аўтарытэт каталіцкай царквы.

Супрацьстаянне паслядоўнікаў розных пратэстанцкіх плыняў каталікам прыняло формы крывавых войнаў, працягвалася больш за сто гадоў, прывяло да ўзнікнення на тэрыторыі Еўропы шэрагу нацыянальных дзяржаваў і прыняцця важных міждзяржаўных пагадненняў, якімі людзям гарантавалася свабода веравызнання. Пазней англійскім Білем аб правах 1689 года за асобай было прызнана права мець сваё ўласнае меркаванне і перакананні. У Францыі прынцып свабоды сумлення быў абвешчаны ў Дэкларацыі правоў чалавека і грамадзяніна 1789 года: «Ніхто не можа пераследвацца за свае перакананні, нават рэлігійныя, пры ўмове, што іх абнародаванне не пагражае грамадскаму парадку». На працягу XVIII і XIX стагоддзяў паняцце свабоды сумлення эвалюцыянавала ад патрабавання прызнання права вызнаваць любую рэлігію да права адмаўляць яе, быць атэістам.

Сёння свабоду думкі, сумлення і рэлігіі мы разумеем як права кожнага чалавека самастойна выбіраць і вызнаваць любую рэлігію або не вызнаваць аніякай. Іншымі словамі, ніхто не можа прымушаць нас падзяляць тыя ці іншыя погляды. Свой светапогляд мы фарміруем самі, і ніхто не мае права навязваць нам свае перакананні. На шчасце, проста не існуе сродкаў, якія прымушалі б чалавека мяняць свой светапогляд насуперак ягонай волі. Менавіта таму некаторыя тэарэтыкі права адносяць першы складнік гэтай свабоды — свабоду думкі — да абсалютных (неабмежаваных) правоў чалавека.

Але не заўсёды дастаткова проста верыць у нешта. Людзі, якія вызнаюць пэўную рэлігію, патрабуюць і пэўных умоваў для адпраўлення абрадаў. І гэта таксама з'яўляецца важным складнікам свабоды веравызнання: дзяржава не можа забараняць вернікам будаваць такія культавыя збудаванні, якія яны лічаць патрэбнымі, насіць такое адзенне і сімвалы, якія адпавядаюць іх дагматам, а таксама павінна даць ім магчымасць збірацца для калектыўнага здзяйснення рэлігійных цырымоній і абараніць ад магчымых праяваў агрэсіі. Свабода думкі, сумлення і рэлігіі патрабуе ад дзяржаваў нейтральнасці і забараняе ім умешвацца ва ўнутраныя справы рэлігійных абшчын. З-за невыканання гэтага прынцыпу Еўрапейскі суд па правах чалавека прызнаў парушэнні ў справе Хасана і Чаўша з боку ўлады Балгарыі, якая сваім рашэннем змяніла кіраўніцтва і статут мусульманскай абшчыны.

Спавядаючы тую ці іншую рэлігію, чалавек таксама мае права прапагандаваць свае погляды і спрабаваць пераканаць іншых людзей у іх ісціннасці. Забарона на распаўсюд сваіх рэлігійных поглядаў спосабамі, якія не перашкаджаюць іншым рэалізоўваць свае правы, хутчэй за ўсё, будзе прызнаная парушэннем свабоды веравызнання, як гэта канстатаваў Еўрапейскі суд па справе «Какінакіс супраць Грэцыі»: заяўнік з ліку сведак Іеговы быў арыштаваны за спробу пераканаць жанчыну прыняць яго веру. Але па іншай справе — «Калач супраць Турцыі» — суд не знайшоў парушэнняў гэтага права ў дзеяннях дзяржавы, якая вызваліла вайскоўца, які, насуперак абмежаванням, што накладвала на яго вайсковая служба, распаўсюджваючы свае рэлігійныя погляды, заклікаў да змены дзяржаўнага ладу.

Таксама свабода думкі, сумлення і рэлігіі

вызначае роўнасць усіх вернікаў і няверуючых перад законам і іх роўныя магчымасці ў рэалізацыі сваіх правоў. Гэта не значыць, што ўсе дзяржавы павінны быць свецкімі, але нават у краінах з тэакратычным ладам не можа быць такой рэлігіі, паслядоўнікам якой даваліся б перавагі за кошт памяншэння аб'ёму правоў прадстаўнікоў іншых веравызнанняў. Так, напрыклад, Еўрапейскі суд прызнаў парушэнне гэтага права ў справе «Манусакіс супраць Грэцыі», дзе ўладай было заканадаўча замацавана несправядлівае патрабаванне да ўсіх рэлігійных арганізацый узгадняць сваю дзейнасць з дамінуючай у краіне праваслаўнай царквой.

У заканадаўстве Беларусі прынцып рэлігійнага плюралізму адлюстраваны так: «Царква ў Беларусі аддзеленая ад дзяржавы. Усе рэлігіі, веравызнанні і рэлігійныя арганізацыі роўныя перад законам. Наданне любых пераваг або абмежаванняў адной рэлігіі, веравызнанню або рэлігійнай арганізацыі адносна іншых не дапускаецца. Дзяржаўная сістэма адукацыі ў Беларусі аддзеленая ад царквы, мае свецкі характар. Доступ да розных відаў і ўзроўняў адукацыі прадастаўляецца грамадзянам незалежна ад іх стаўлення да рэлігіі». Але, на жаль, гэтыя прынцыпы падзяляюцца не ўсімі і не ўсюды — у свеце да гэтага часу ёсць краіны, дзе духавенства дамінуючай рэлігіі прэтэндуе на непадзельную ўладу над прыватным жыццём і думкамі людзей і дзе змена сваіх рэлігійных перакананняў караецца смерцю.

Свабода веравызнання не з'яўляецца абсалютным правам і можа быць абмежаваная законным і прапарцыйным спосабам дзеля абароны каштоўнасцяў, прынятых у дэмакратычным грамадстве. Не будзе прызнаная парушэннем свабоды веравызнання забарона дзейнасці рэлігійных арганізацый, якія заклікаюць да гвалту, падрываюць асновы дэмакратычнага грамадства ці іншым чынам ствараюць перашкоды для рэалізацыі правоў іншых людзей.

ВЯСНА праваабарончы цэнтр · Беларускі дом правоў чалавека імя Барыса Звозскава · HUMAN RIGHTS HOUSE FOUNDATION · MART · РОЗУМІЄМО ПРАВА ЛЮДИНИ www.edu.helsinki.org.ua

# СВАБОДА СУМЛЕННЯ І ВЕРАВЫЗНАННЯ





**Дзіна Шаўцова**, юрыст, каардынатар міжнароднай адукацыйнай праграмы Сеткі дамоў правоў чалавека, удзельнік экспертна-прававога таварыства «Ініцыятыва FORB»:

«Міжнародныя стандарты не прадугледжваюць абавязковай рэгістрацыі рэлігійных арганізацый, але па беларускіх законах незарэгістраваная рэлігійная дзейнасць цягне за сабой крымінальную адказнасць».



Згодна з традыцыяй, каталік і пратэстант не маглі быць пахаваныя на адных магілках.



**У Францыі прынцып свабоды сумлення быў абвешчаны ў Дэкларацыі правоў чалавека і грамадзяніна 1789 года: «Ніхто не можа пераследавацца за свае перакананні, нават рэлігійныя, пры ўмове, што іх абнародаванне не пагражае грамадскаму парадку».**



**Свабода сумлення і рэлігіі была абвешчана ў арт. 18 Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека (1948).**



**Свабода сумлення прадугледжвае:**

- права выбіраць і вызнаваць любую рэлігію або не вызнаваць ніякай;
- роўнасць усіх вернікаў і няверуючых перад законам;
- роўныя магчымасці для вернікаў і няверуючых у карыстанні палітычнымі і грамадзянскімі правамі.





У справе «Бускарыні і іншыя супраць Сан-Марына» паўстала пытанне пра традыцыйную форму прысягі новаабраных парламентарыяў гэтай невялікай еўрапейскай рэспублікі.

Суд з гэтай нагоды пастанавіў: «Патрабаванне, каб заяўнікі прымалі прысягу на Біблії, з'яўляецца раўнацэнным патрабаванню, каб абраныя народныя прадстаўнікі пакляліся на вернасць адной рэлігіі, а гэта не сумяшчальна з артыкулам 9 Канвенцыі».

**У адпаведнасці з Законам «Аб свабодзе сумлення і рэлігійных арганізацыях» царква і рэлігійныя арганізацыі ў Беларусі аддзелены ад дзяржавы. Дзяржаўная сістэма адукацыі ў краіне аддзелена ад царквы і рэлігійных арганізацый, мае свецкі характар. Доступ да розных відаў і ўзроўняў адукацыі прадастаўляецца грамадзянам незалежна ад іх адносінаў да рэлігіі.**



*16 верасня 2017 года праваслаўныя і вернікі іншых канфесій з усёй Беларусі прыехалі ў вёску Сынковічы, каб адзначыць 610-годдзе славутай Сынковіцкай царквы.*



*Руіны касцёла Найсвяцейшай Дзевы Марыі XVII ст. у Смальянах, Аршанскага раёна.*



***«Аль-Кітаб», альбо проста Кітаб*** *(ад арабскага kitab 'кніга') — кніга, напісаная на беларускай мове арабскім пісьмом. Кітабы ствараліся з XVI ст. татарамі, што пасяліліся ў Беларусі ў XIV–XV стст.*



*У 2017 годзе ў Віцебску ўпершыню за 100 гадоў адчынілі новую сінагогу.*



*1 лістапада 2017 года, Дзень Усіх Святых у Глыбокім.*

**Не будзе прызнаная парушэннем свабоды веравызнання забарона дзейнасці рэлігійных арганізацый, якія заклікаюць да гвалту, падрываюць асновы дэмакратыі, ствараюць перашкоды для рэалізацыі правоў іншых, якія супярэчаць маральным нормам дэмакратычнага грамадства і агульначалавечым каштоўнасцям.**



ВЯСНА праваабарончы цэнтр · Беларускі дом правоў чалавека імя Барыса Звозскава · HUMAN RIGHTS HOUSE FOUNDATION · MART · РОЗУМІЄМО ПРАВА ЛЮДИНИ www.edu.helsinki.org.ua

# СВАБОДУ СУМЛЕННЯ



**Дзіна Шаўцова**, юрыст, каардынатар міжнароднай адукацыйнай праграмы Сеткі дамоў правоў чалавека, удзельнік экспертна-прававога таварыства «Ініцыятыва FORB»:

«Міжнародныя стандарты не прадугледжваюць абавязковай рэгістрацыі рэлігійных арганізацый, але па беларускіх законах незарэгістраваная рэлігійная дзейнасць цягне за сабой крымінальную адказнасць».



Згодна з традыцыяй, каталік і пратэстант не маглі быць пахаванымі на адных могілках.




**У Францыі прынцып свабоды сумлення быў абвешчаны ў Дэкларацыі правоў чалавека і грамадзяніна 1789 года: «Ніхто не можа праследавацца за свае перакананні, нават рэлігійныя, пры ўмове, што іх абнародаванне не пагражае грамадскаму парадку».**




**Свабода сумлення і рэлігіі была абвешчана ў арт. 18 Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека (1948).**



**Свабода сумлення прадугледжвае:**

- права выбіраць і вызнаваць любую рэлігію або не вызнаваць ніякай;
- роўнасць усіх вернікаў і няверуючых перад законам;
- роўныя магчымасці для вернікаў і няверуючых у карыстанні палітычнымі і грамадзянскімі правамі.





Знайдзіце палажэнне аб свабодзе сумлення і веравызнання ў Канстытуцыі Беларусі.



У справе «Бускарыні і іншыя супраць Сан-Марына» паўстала пытанне пра традыцыйную форму прысягі новаабраных парламентарыяў гэтай невялікай еўрапейскай рэспубліцы.

Суд з гэтай нагоды пастанавіў: «Патрабаванне, каб заяўнікі прымалі прысягу на Бібліі, з'яўляецца раўнацэнным патрабаванню, каб абраныя народныя прадстаўнікі пакляліся на вернасць адной рэлігіі, а гэта не сумяшчальна з артыкулам 9 Канвенцыі».

**У адпаведнасці з Законам «Аб свабодзе сумлення і рэлігійных арганізацыях» царква і рэлігійныя арганізацыі ў Беларусі аддзелены ад дзяржавы. Дзяржаўная сістэма адукацыі ў краіне аддзелена ад царквы і рэлігійных арганізацый, мае свецкі характар. Доступ да розных відаў і ўзроўняў адукацыі прадастаўляецца грамадзянам незалежна ад іх адносінаў да рэлігіі.**



*16 верасня 2017 года праваслаўныя і вернікі іншых канфесій з усёй Беларусі прыехалі ў вёску Сынковічы, каб адзначыць 610-годдзе славутай Сынковіцкай царквы.*



*Руіны касцёла Найсвяцейшай Дзевы Марыі XVII ст. у Смальянах, Аршанскага раёна.*



***«Аль-Кітаб», альбо проста Кітаб** (ад арабскага kitab 'кніга') — кніга, напісаная на беларускай мове арабскім пісьмом. Кітабы ствараліся з XVI ст. татарамі, што пасяліліся ў Беларусі ў XIV–XV стст.*



*У 2017 годзе ў Віцебску ўпершыню за 100 гадоў адчынілі новую сінагогу.*



*1 лістапада 2017 года, Дзень Усіх Святых у Глыбокім.*

**Не будзе прызнаная парушэннем свабоды веравызнання забарона дзейнасці рэлігійных арганізацый, якія заклікаюць да гвалту, падрываюць асновы дэмакратыі, ствараюць перашкоды для рэалізацыі правоў іншых, якія супярэчаць маральным нормам дэмакратычнага грамадства і агульначалавечым каштоўнасцям.**

# § 17. СВАБОДА ВЫКАЗВАННЯ МЕРКАВАННЯЎ

Такім чынам, чалавек мае права на ўласныя погляды і перакананні. Але чалавек з'яўляецца сацыяльнай істотай, і зносіны з іншымі людзьмі — вельмі важная патрэба кожнага і кожнай з нас. І не вельмі шмат сэнсу ў тым, каб мець перакананні, але не мець магчымасці іх выказваць. Свабода выказвання меркаванняў абараняе менавіта гэтую патрэбу — патрэбу кожнага чалавека дзяліцца з іншымі сваімі думкамі, эмоцыямі, стаўленнем да людзей і падзеяў.

Важнасць гэтай свабоды цяжка пераацаніць. Акрамя таго, што яна сама па сабе — важная каштоўнасць, свабода выказвання меркаванняў з'яўляецца таксама і працэсуальным правам: не маючы яе, мы не зможам рэалізаваць большасць з астатніх сваіх правоў і свабодаў. Еўрапейскі суд па правах чалавека ў шэрагу рашэнняў называе свабоду выказвання меркаванняў адной з нясучых апор дэмакратычнага грамадства, найважнейшай умовай яго прагрэсу і развіцця кожнага чалавека. Гэтае права дае людзям магчымасць браць удзел у дэмакратычных працэсах, уплываць на рашэнні ўлады, фарміраваць камфортнае сацыяльнае асяроддзе. Менавіта таму аўтарытарныя дыктатарскія рэжымы маюць вельмі мала шанцаў укараніцца ў краінах, дзе традыцыйна паважаецца і абараняецца свабода выказвання меркаванняў. А краіны, у якіх свабода выказвання меркаванняў выконваецца, развіваюцца больш дынамічна, з'яўляюцца больш стабільнымі і эфектыўнымі за тыя, дзе ўлада не заахвочвае людзей свабодна думаць і казаць.

Асноўныя міжнародныя дакументы па правах чалавека тлумачаць свабоду выказвання меркаванняў як права кожнага чалавека прытрымлівацца ўласных поглядаў і свабодна збіраць, захоўваць і распаўсюджваць інфармацыю, незалежна ад межаў. Часта гэтае права называюць свабодай слова. Гістарычна станаўленне гэтага права сапраўды пачыналася з гарантый для слоўнага выказвання сваіх меркаванняў. Але сёння мы маем на ўвазе нешта значна шырэйшае, чым проста права гаварыць або пісаць. Гаворка ідзе пра магчымасць любым спосабам даводзіць да іншых свае думкі, ідэі і перакананні — для гэтага мы можам спяваць, маляваць, ставіць спектаклі і здымаць кіно, праводзіць навуковыя даследаванні і дыскусіі, выбіраць сабе стыль адзення, ладзіць акцыі, мітынгі, перформансы і рабіць шмат што іншае.

Свабода выказвання меркаванняў — гэта права на крытыку. І, перш за ўсё, на крытыку ўлады і публічных асобаў, дзеянні якіх уплываюць на жыццё грамадства. Гэтым правам абараняецца выказванне не толькі такіх думак, якія станоўча ўспрымаюцца грамадствам, але ці не ў першую чаргу такіх, якія шакіруюць, бянтэжаць і нават абражаюць дзяржаву або пэўную частку грамадства. Гэта таксама неаднаразова падкрэсліваў у сваіх рашэннях Еўрапейскі суд. Напрыклад, у справе «Лінгенс супраць Аўстрыі», дзе журналіст скардзіўся на тое, што яго прысудзілі да выплаты штрафу за артыкул з крытыкай на адрас аўстрыйскага канцлера Бруна Крайскага, якога аўтар абвінавачваў у сімпатыях да палітыкаў з нацысцкім мінулым. Еўрапейскі суд адзначыў, што палітычныя дзеячы і чыноўнікі павінны праяўляць вялікую ступень цярпімасці да пільнай увагі журналістаў і ўсяго грамадства да кожнага з іх словаў і дзеянняў.

Безумоўна, кожны чалавек мае права на прыватнасць і можа патрабаваць ад дзяржавы абароны ад умяшанняў ў яго асабістае жыццё. Але такая абарона будзе меншая ў тых, ад чыіх дзеянняў і рашэнняў залежыць лёс многіх людзей. Гаворка ідзе пра так званых публічных людзей — палітыкаў, службовых асобаў, чыноўнікаў, лідараў думак. Еўрапейскі суд у кожным выпадку, калі мае месца так званая канкурэнцыя правоў, спрабуе вызначыць, што было важнейшым — права асобы схаваць пэўную інфармацыю альбо грамадскі інтарэс — неабходнасць для грамадства ведаць гэтую інфармацыю. У сваім рашэнні па справе прынцэсы Фон Гановер супраць Германіі, дзе заяўніца скардзілася на абнародаванне ў прэсе фактаў ейнага прыватнага жыцця, Еўрапейскі суд прызнаў, што, паколькі прынцэса не была ні палітыкам, ні чыноўнікам, у журналістаў не было падставаў умешвацца ў ейнае асабістае жыццё. Суд пастанавіў, што санкцыі супраць СМІ ў гэтым выпадку былі не парушэннем свабоды слова, а яе праваўмерным абмежаваннем. Трэба памятаць: калі мы крытыкуем кагосьці, агучваем свой пункт гледжання, заўсёды ёсць грань, якую нельга пераходзіць. Там, дзе сканчаецца публічнасць, пачынаюцца абмежаванні.

Акрамя зместу інфармацыі, свабода выказвання меркаванняў абараняе таксама і ейную форму. Так, напрыклад, у справе «Ерсілд супраць Даніі» Еўрапейскі суд па правах чалавека прызнаў неправамерным патрабаванне ўлады дыктаваць журналісту фармат і стыль падрыхтоўкі матэрыялу. Абараняецца і права журналістаў не раскрываць крыніцы атрымання інфармацыі. Прыкладам такога стандарту з'яўляецца справа «Гудвін супраць Злучанага Каралеўства», дзе заяўнік скардзіўся на несправядлівае патрабаванне ўлады назваць людзей, якія перадалі яму для публікацыі грамадска важную інфармацыю.

Абароне падлягае не толькі права распаўсюджваць тую ці іншую інфармацыю, але і права грамадства атрымліваць такую інфармацыю, асабліва ў выпадках, калі яна істотна ўплывае на лёсы людзей. Так вызначыў Еўрапейскі суд па справе «Газета Sunday Times супраць Злучанага Каралеўства». Газету абвінавачвалі ў спробе ціснуць на суд па справе камерцыйнай карпарацыі шляхам распаўсюду інфармацыі пра шкоду для здароўя медыцынскага прэпарата, які выпрабляла прадпрыемства. Еўрапейскі суд вырашыў, што ў дадзеным выпадку неабходнасць шырокай грамадскасці ведаць пра небяспеку прадукцыі карпарацыі была значна вышэйшая за магчымую пагрозу аўтарытэту правасуддзя, якая так і не была даказаная брытанскімі ўладамі.

Апроч «пасіўнага доступу да інфармацыі» (атрыманне яе праз СМІ і Інтэрнэт), абараняецца і «актыўны доступ» — кожны чалавек можа афіцыйна звярнуцца ў органы ўлады і атрымаць любую інфармацыю, якая не з'яўляецца канфідэнцыяльнай або сакрэтнай. У справе «Венгерскае аб'яднанне грамадзянскіх свабодаў супраць Венгрыі», якому ўлады адмовілі ў прадастаўленні афіцыйнай інфармацыі аб дзяржаўных праграмах у сферы абарачэння наркатычных сродкаў, суд адзначыў, што Еўрапейская канвенцыя забараняе ўладзе беспадстаўна абмяжоўваць доступ да афіцыйнай інфармацыі. Такая дзяржаўная манаполія на інфармацыю, на думку суда, з'яўляецца праявай цэнзуры.

Свабода выказвання меркаванняў, як і большасць правоў чалавека, не з'яўляецца абсалютным правам. Дзяржава можа абмяжоўваць гэтае права дзеля абароны каштоўнасцяў дэмакратычнага грамадства: дзяржаўнай бяспекі, тэрытарыяльнай цэласнасці або грамадскага спакою, забеспячэння аўтарытэту і бесстароннасці правасуддзя, дзеля прадухілення выдавання інфармацыі, атрыманай канфідэнцыйна, прадухілення беспарадкаў і злачыннасці, дзеля абароны рэпутацыі або правоў іншых асоб, абароны здароўя і маральнасці. Гэты пералік з'яўляецца вычарпальным, і любыя іншыя падставы ўмяшання не будуць прызнаныя прымальнымі. Акрамя гэтага, магчымасць і парадак такога ўмяшання павінны быць прадугледжаныя дзеючым заканадаўствам краіны. Абмежаванне свабоды выказвання меркаванняў дапушчальнае толькі ў выпадку наяўнасці «надзённай грамадскай патрэбы», калі іншым спосабам немагчыма абараніць правы іншых людзей, якія могуць быць парушаныя ў выніку публікацыі пэўнай інфармацыі. Да таго ж умяшальніцтва ў гэтае права павінна быць прапарцыйным, — не быць большым, чым патрабуецца дзеля дасягнення мэтаў гэтага ўмяшання. Занадта жорсткая рэакцыя на выказванне думак, а таксама меры, якія маюць так званы ахаладжальны эфект, адпужваюць грамадства ад спроб выказваць сваё меркаванне і часцей за ўсё прызнаюцца Еўрапейскім судом і Камітэтам па правах чалавека ААН парушэннем свабоды выказвання меркаванняў.

Свабода выказвання меркаванняў можа быць абмежаваная і ў мэтах абароны грамадскай маралі, як пастанавіў Еўрапейскі суд, напрыклад, у справе «Інстытут Ота Прэмінгера супраць Аўстрыі», дзе ўладамі Цироля быў забаронены публічны паказ фільма, што абражаў рэлігійныя пачуцці каталіцкай большасці. Суд прызнаў такое рашэнне правамерным абмежаваннем свабоды выказвання меркаванняў, неабходным дзеля падтрымання рэлігійнага міру і абароны вернікаў ад неабгрунтаваных нападак. Але зноў-такі ў кожным падобным выпадку суд старанна ўзважвае, наколькі вялікі грамадскі інтарэс да абнародавання той ці іншай інфармацыі.

Свабода выказвання меркаванняў цесна звязаная з іншым правам — свабодай мірных сходаў, якія фактычна з'яўляюцца калектыўнай формай выказвання думак. Але пра гэтае права гаворка пойдзе ўжо ў іншай частцы.

# СВАБОДА ВЫКАЗВАННЯ МЕРКАВАННЯ



*Павел Мажэйка, грамадскі і культурны дзеяч, журналіст:*

«Мой свет мае чатыры бакі. У ім ёсць розныя людзі, розныя памкненні і погляды, розныя страхі і радасці, розныя мовы. Адной мовы не можа быць у маім свеце — гэта мовы нянавісці. Усіх нас аб'ядноўвае шанаванне закона, як моцна ні было б гэтае слова дыскрэдытаванае ў Беларусі. І я цаню, што ў крытычныя моманты гэтыя людзі бароняць свой свет, а не мяняюць яго на каўбасу».





Кіраўнікі баяцца слова больш, чым зброі.

Гісторыя ведае шмат прыкладаў пераследу людзей, якія думалі інакш, чым цары, дыктатары, і не баяліся пра гэта казаць і пісаць.

За гэта каралі на вогнішчы аўтараў і спальвалі іх кнігі.






Гарадзенская газета «Пагоня» была закрыта па рашэнні суддзі Вышэйшага Гаспадарчага Суда Рэспублікі Беларусь Валерыя Жандарава 12 лістапада 2001 года. Газета выходзіла амаль 10 гадоў. Журналіст «Пагоні» Павел Мажэйка і рэдактар Мікола Маркевіч асуджаныя за «паклёп на прэзідэнта Рэспублікі Беларусь». Павел Мажэйка — на два гады абмежавання волі, галоўны рэдактар Мікалай Маркевіч — на два з паловай гады абмежавання волі.

*Артыкул 10 Еўрапейскай канвенцыі па правах чалавека кажа: «Кожны мае права на свабоду выказвання меркавання. Гэта права ўключае свабоду прытрымлівацца свайго меркавання, атрымліваць і распаўсюджваць інфармацыю і ідэі без умяшальніцтва органаў дзяржаўнай улады і незалежна ад межаў...»*

**Выяўляць свае погляды можна па-рознаму: казаць, пісаць, танчыць, маляваць, маўчаць...**



У 1999 годзе мастак Алесь Пушкін асуджаны на два гады пазбаўлення волі ўмоўна за акцыю-перформанс у цэнтры Мінска. 21 ліпеня 1999 года мастак прыкаціў да рэзідэнцыі прэзідэнта пафарбаваную ў чырвоны колер тачку гною, дзе ляжалі дэнамінаваныя грошы, партрэт прэзідэнта і былі ўторкнутыя вілы. Пры затрыманні Алесь Пушкін не назваў сваё імя, прадставіўся «чалавекам з народу», але праз некалькі гадзін супрацоўнікі міліцыі самі апазналі мастака.






Свабода слова ўключае магчымасць крытыкаваць. Еўрапейскі суд па правах чалавека неаднаразова адзначаў, што свабода слова абараняе ў першую чаргу такія выказванні, якія могуць выклікаць крытыку ці непрыманне з боку грамадства.

Палітыкаў можна крытыкаваць больш, чым звычайных людзей, паколькі палітыкі — публічныя асобы і добраахвотна выбралі такі лад жыцця. Аднак там, дзе сканчаецца публічнае жыццё, пачынаюцца абмежаванні.

*Паэт Славамір Адамовіч на выставе «Не дазволена цэнзурай».*

**10 снежня 2001 года праваабаронцы разам з мастакамі арганізавалі ў Мінску выставу «Не дазволена цэнзурай», на якой дэманстраваліся творы літаратуры і мастацтва, забароненыя ўладамі.**

*Запрашэнне на выставу, аўтар Алесь Пушкін.*

Калі мы публічна крытыкуем кагосьці, агучваем свой пункт гледжання, то заўсёды ёсць мяжа, якую нельга пераступаць.

Свабоду слова можна абмежаваць, але толькі ў адпаведнасці з законам.

ВЯСНА праваабарончы цэнтр
Беларускі дом правоў чалавека імя Барыса Звозскава
HUMAN RIGHTS HOUSE FOUNDATION
РОЗУМІЄМО ПРАВА ЛЮДИНИ www.edu.helsinki.org.ua

**Усяго толькі пытанні і разважанні пра …**

# СВАБОДУ ВЫКАЗВАННЯ МЕРКАВАННЯЎ



*Павел Мажэйка, грамадскі і культурны дзеяч, журналіст:*

«Мой свет мае чатыры бакі. У ім ёсць розныя людзі, розныя памкненні і погляды, розныя страхі і радасці, розныя мовы. Адной мовы не можа быць у маім свеце — гэта мовы нянавісці. Усіх нас аб’ядноўвае шанаванне закона, як моцна ні было б гэтае слова дыскрэдытаванае ў Беларусі. І я цаню, што ў крытычныя моманты гэтыя людзі бароняць свой свет, а не мяняюць яго на каўбасу».





Кіраўнікі баяцца слова больш, чым зброі.

Гісторыя ведае шмат прыкладаў пераследу людзей, якія думалі інакш, чым цары, дыктатары, і не баяліся пра гэта казаць і пісаць.

За гэта каралі на вогнішчы аўтараў і спальвалі іх кнігі.






Гарадзенская газета «Пагоня» была закрыта па рашэнні суддзі Вышэйшага Гаспадарчага Суда Рэспублікі Беларусь Валерыя Жандарава 12 лістапада 2001 года. Газета выходзіла амаль 10 гадоў. Журналіст «Пагоні» Павел Мажэйка і рэдактар Мікола Маркевіч асуджаныя за «паклёп на прэзідэнта Рэспублікі Беларусь». Павел Мажэйка — на два гады абмежавання волі, галоўны рэдактар Мікалай Маркевіч — на два з паловай гады абмежавання волі.



Як вы думаеце, чаму прыведзеныя фатаграфіі аб’яднаны ў адзін шэраг?

*Артыкул 10 Еўрапейскай канвенцыі па правах чалавека кажа: «Кожны мае права на свабоду выказвання меркавання. Гэта права ўключае свабоду прытрымлівацца свайго меркавання, атрымліваць і распаўсюджваць інфармацыю і ідэі без умяшальніцтва органаў дзяржаўнай улады і незалежна ад межаў...»*



Падумайце, як звязаны свабода думкі і свабода выказвання з дэмакратыяй.

Прадметам дыскусіі могуць быць таксама пытанні: ці дапушчальныя жарты і анекдоты пра людзей ва ўладзе, палітыкаў? Ці дапушчальная крытыка рашэнняў парламента і ўрада ў СМІ?

## Выяўляць свае погляды можна па-рознаму: казаць, пісаць, танчыць, маляваць, маўчаць...



У 1999 годзе мастак Алесь Пушкін асуджаны на два гады пазбаўлення волі ўмоўна за акцыю-перформанс у цэнтры Мінска. 21 ліпеня 1999 года мастак прыкаціў да рэзідэнцыі прэзідэнта пафарбаваную ў чырвоны колер тачку гною, дзе ляжалі дэнамінаваныя грошы, партрэт прэзідэнта і былі ўторкнутыя вілы. Пры затрыманні Алесь Пушкін не назваў сваё імя, прадставіўся «чалавекам з народу», але праз некалькі гадзін супрацоўнікі міліцыі самі апазналі мастака.






Свабода слова ўключае магчымасць крытыкаваць. Еўрапейскі суд па правах чалавека неаднаразова адзначаў, што свабода слова абараняе ў першую чаргу такія выказванні, якія могуць выклікаць крытыку ці непрыманне з боку грамадства.

Палітыкаў можна крытыкаваць больш, чым звычайных людзей, паколькі палітыкі — публічныя асобы і добраахвотна выбралі такі лад жыцця. Аднак там, дзе сканчаецца публічнае жыццё, пачынаюцца абмежаванні.



*Паэт Славамір Адамовіч на выставе «Не дазволена цэнзурай».*

**10 снежня 2001 года праваабаронцы разам з мастакамі арганізавалі ў Мінску выставу «Не дазволена цэнзурай», на якой дэманстраваліся творы літаратуры і мастацтва, забароненыя ўладамі.**




*Запрашэнне на выставу, аўтар Алесь Пушкін.*

Калі мы публічна крытыкуем кагосьці, агучваем свой пункт гледжання, то заўсёды ёсць мяжа, якую нельга пераступаць.

Свабоду слова можна абмежаваць, але толькі ў адпаведнасці з законам.






Што вы думаеце пра гэтыя фатаграфіі?
А як самі прадстаўнікі субкультур успрымаюць тых, хто да іх не адносіцца?
Чаму людзі часта хочуць адрознівацца ад іншых?
Што было б, калі б такой магчымасці ў людзей не было?

# § 18. СВАБОДА І АСАБІСТАЯ НЕДАТЫКАЛЬНАСЦЬ

Гэтак жа як і жыццё, асабістая свабода з'яўляецца адной з галоўных каштоўнасцяў чалавека. Губляючы свабоду, чалавек губляе і магчымасць у поўнай ступені рэалізоўваць свой патэнцыял. Менавіта таму патрэба быць свабодным і не зазнаваць адвольныя арышты павінна быць забяспечаная кожнаму чалавеку.

Забарону на беспадстаўнае абмежаванне волі мы можам сустрэць у першых гістарычных дакументах, якія гарантавалі людзям абарону іх правоў з боку дзяржавы. Пра гэта гаварылася і ў Вялікай хартыі вольнасцяў, выдадзенай каралём Англіі ў 1213 годзе, і ў Дэкларацыі незалежнасці ЗША, прынятай у 1776 годзе, і ў Дэкларацыі правоў чалавека і грамадзяніна, абвешчанай у Францыі ў 1789 годзе, і, вядома, ва ўсіх пазнейшых міжнародных дагаворах па правах чалавека.

Не будзем падманвацца назвай — права на свабоду і асабістую недатыкальнасць не азначае, што ніхто не мае права датыкацца да нас без нашага дазволу. Гаворка ідзе найперш пра тое, што дзяржава павінна паважаць свабоду асобы і не можа беспадстаўна арыштаваць аднаго з нас. Чалавека нельга ўтрымліваць пад вартай, калі няма абгрунтаванага падазрэння ва ўчыненні сур'ёзнага злачынства. Але і ў гэтым выпадку абмежаваць свабоду чалавека можна толькі на падставе закона паводле рашэння суда, які, разгледзеўшы абставіны, можа вызначыць грамадскую небяспеку знаходжання такога чалавека на свабодзе. Еўрапейскі суд па правах чалавека прызнаў Турцыю парушальніцай гэтага права ў выпадку, калі вайскоўцамі падчас антытэрарыстычнай аперацыі быў без падставаў і без захавання законнай працэдуры арыштаваны і вывезены ў невядомым накірунку спадар Юзейір Курт. Паводле рашэння суда, Турцыя не стрымала сваіх абавязацельстваў і не засцерагла спадара Курта ад самавольства сваіх прадстаўнікоў.

Такім чынам, для абмежавання свабоды чалавека дзяржава павінна мець сур'ёзныя падставы. Кожны затрыманы павінен быць неадкладна праінфармаваны аб прычынах свайго арышту. Таксама кожны затрыманы мае права неадкладна паўстаць перад незалежным судом, які вызначыць правамернасць яго арышту, або быць вызваленым з-пад варты да адпаведнага рашэння суда. Калі гэта не выканана, Еўрапейскі суд можа ўстанавіць парушэнне свабоды і асабістай недатыкальнасці, як ён зрабіў гэта, напрыклад, па справе Петэра Фромельта, якога паліцыя Ліхтэнштэйна арыштавала па падазрэнні ў махлярстве, але падчас яго затрымання праваахоўнікі дапусцілі шэраг працэдурных парушэнняў.

Акрамя гэтага, працягласць утрымання пад вартай не павінна перавышаць разумных межаў. Калі віна чалавека не даказаная, дзяржава не можа ўтрымліваць яго ў папярэднім зняволенні бясконца доўга — улада абавязаная правесці расследаванне справы ў самыя кароткія тэрміны і альбо высунуць чалавеку абвінавачванні ў судзе, альбо вызваліць яго, закрыўшы справу. Так, напрыклад, Еўрапейскі суд па правах чалавека прызнаў Францыю вінаватай у парушэнні права на свабоду і асабістую недатыкальнасць Фелікса Тамазі, якога больш за год утрымлівалі ў следчым ізалятары па падазрэнні ў здзяйсненні цяжкіх злачынстваў. Парушэнне палягала менавіта ў тым, што дзяржава вяла следства па справе спадара Тамазі неабгрунтавана доўга і ён працяглы час быў пазбаўлены волі без выстаўлення абвінавачванняў.

Акрамя гэтага, любы чалавек, чыё ўтрыманне пад вартай было незаконным, можа патрабаваць кампенсацыю ад урада краіны, якая дапусціла такое парушэнне.

# СВАБОДА І АСАБІСТАЯ НЕДАТЫКАЛЬНАСЦЬ





**Алесь Бяляцкі**, старшыня Праваабарончага цэнтра «Вясна»:

«А як гэта — жыць, як свабодны чалавек? Антон Чэхаў спрабуе разабрацца ў межах чалавечай свабоды і несвабоды. У апавяданні “Палата № 6” герой разважае: “У арышцце і ў турме, калі паглядзець на справу шырэй, па-сутнасці, няма нічога страшнага — было б сумленне спакойнае”. А затым Чэхаў запірае свайго героя ў хату, дзе ўтрымліваюць вар’ятаў. І філасофстваванне доктара, ад якога некалі залежаў лёс запёртых у хаце людзей і які зараз сам апынуўся там, сутыкнулася з жахлівай рэчаіснасцю. Аказваецца, што і простае, тупое, але бестэрміновае зняволенне чалавечай асобы, знешняя няволя — гэта не меншы, а можа і большы жах, чым унутраная несвабода. Вось і я прыслухоўваюся да сябе — і не ведаю, што гэта такое — свабодны чалавек. Свабода як паветра: калі дыхаеш ім — не адчуваеш ягонага смаку. А вось калі яго не хапае ці з’яўляецца смурод газу і дыму — тады згадваеш усёй істотай, якое яно бывае чыстае і салодкае. Ці дастаткова мне будзе пакінуць гэтыя краты, сцены і дрот, каб стаць свабодным?»

*21 траўня 2014 года, Бабруйск. Эсэ «Лісты салідарнасці»*







Затрыманне Алеся Бяляцкага і Валянціна Стэфановіча на Дзень Волі на плошчы Свабоды ў Мінску, 25 сакавіка 2004 года.






Сярод многіх тысяч зваротаў, якія штогод паступаюць у Еўрапейскі суд па правах чалавека, найбольшая колькасць — гэта скаргі на парушэнне арт. 6 (права на справядлівы суд) і арт. 5 (права на свабоду і асабістую недатыкальнасць) Еўрапейскай канвенцыі аб абароне правоў чалавека і асноўных свабодаў.

**Асабістая свабода, як і жыццё, з'яўляецца адной з галоўных каштоўнасцяў чалавека. Губляючы свабоду, чалавек губляе і магчымасць у поўнай меры рэалізоўваць свой патэнцыял. Менавіта таму патрэба быць свабодным і не падвяргацца адвольным арыштам павінна быць забяспечана кожнаму чалавеку.**






*25 сакавіка 2017 года, затрыманне назіральнікаў.*



**Таццяна Палхоўская** — псіхолаг, на акцыі 25 сакавіка 2017 года павінна была выступаць як назіральнік, але яе ў ліку іншых затрымалі ў Праваабарончым цэнтры «Вясна». Таццяна ўспамінае, як у калідоры рэзка пачуўся грукат і валтузня, а потым праз некалькі секунд — над галовамі крыкі: «Всем лежать! Лицом в пол! Руки над головой!» Амапавец прабег па людзях, а потым, ускочыўшы на стол, загадаў не рухацца. *«Нас прымушалі падымаць галаву, называючы сябе на камеру. Вельмі прыніжальна»*. Усіх затрыманых выводзілі да аўтобуса, як небяспечных злачынцаў. *«Прывезлі на месца і завялі ў спартовую залу, доўга нечага ці некага чакалі. Ніхто з намі не размаўляў, не называў ні сябе, ні прычыну затрымання, ні куды вязуць і на што маем права»*. У РУУСе затрыманых зноў даглядалі. Хлопцам і дзяўчатам загадвалі здымаць абутак, рамяні, часткова вопратку. А потым некаторых пачалі выводзіць у калідор. *«Калі я выйшла са спартовай залы, адразу не зразумела куды. Толькі за варотамі стала ясна, што нас ужо адпусцілі. Для мяне затрыманне скончылася, можна сказаць, паспяхова: не білі, не судзілі, не трымалі ў халодных ды душных засценках. Але вяртацца ў жыццё “пасля” аказалася няпроста»*.

Калі вы арыштаваныя, вы маеце права ведаць, за што.

Працягласць утрымання пад вартай таксама не павінна перавышаць разумных межаў. Калі віна чалавека не даказана, дзяржава не можа ўтрымліваць яго ў папярэднім зняволенні бясконца доўга — улада абавязана правесці расследаванне справы ў самыя кароткія тэрміны і або вылучыць чалавеку абвінавачванні ў судзе, або вызваліць яго, спыніўшы справу.



Барыс Гаважук быў арыштаваны па падазрэнні ўчынення цяжкага злачынства і знаходзіўся пад вартай да суда ў перыяд з 3 лістапада 1999 года да 26 чэрвеня 2001 года. Разглядаючы яго скаргу ў 2010 годзе, Еўрапейскі суд па правах чалавека паказаў, што такое працяглае ўтрыманне пад вартай не адпавядала патрабаванням законнасці, і прызнаў парушэнне з боку Украіны яго права на свабоду і асабістую недатыкальнасць.



ВЯСНА праваабарончы цэнтр · Беларускі дом правоў чалавека імя Барыса Звозскава · HUMAN RIGHTS HOUSE FOUNDATION · MART · всеукраїнська освітня програма РОЗУМІЄМО ПРАВА ЛЮДИНИ www.edu.helsinki.org.ua

# СВАБОДУ І АСАБІСТУЮ НЕДАТЫКАЛЬНАСЦЬ



Прааналізуйце прыведзенае выказванне.

Вы можаце напісаць эсэ на адну з тэм: «Рэалізаваць свой патэнцыял можна толькі ва ўмовах свабоды», «Несвабода забівае маё Я», «За што я цаню свабоду».



**Алесь Бяляцкі**, старшыня Праваабарончага цэнтра «Вясна»:

«А як гэта — жыць, як свабодны чалавек? Антон Чэхаў спрабуе разабрацца ў межах чалавечай свабоды і несвабоды. У апавяданні "Палата № 6" герой разважае: "У арышцце і ў турме, калі паглядзець на справу шырэй, па-сутнасці, няма нічога страшнага — было б сумленне спакойнае". А затым Чэхаў запірае свайго героя ў хату, дзе ўтрымліваюць вар'ятаў. І філасофстванне доктара, ад якога некалі залежаў лёс запёртых у хаце людзей і які зараз сам апынуўся там, сутыкнулася з жахлівай рэчаіснасцю. Аказваецца, што і простае, тупое, але бестэрміновае зняволенне чалавечай асобы, знешняя няволя — гэта не меншы, а можа і большы жах, чым унутраная несвабода. Вось і я прыслухоўваюся да сябе — і не ведаю, што гэта такое — свабодны чалавек. Свабода як паветра: калі дыхаеш ім — не адчуваеш ягонага смаку. А вось калі яго не хапае ці з'яўляецца смурод газу і дыму — тады згадваеш усёй істотай, якое яно бывае чыстае і салодкае. Ці дастаткова мне будзе пакінуць гэтыя краты, сцены і дрот, каб стаць свабодным?»

*21 траўня 2014 года, Бабруйск. Эсэ «Лісты салідарнасці»*





Затрыманне Алеся Бяляцкага і Валянціна Стэфановіча на Дзень Волі на плошчы Свабоды ў Мінску, 25 сакавіка 2004 года.






Сярод многіх тысяч зваротаў, якія штогод паступаюць у Еўрапейскі суд па правах чалавека, найбольшая колькасць — гэта скаргі на парушэнне арт. 6 (права на справядлівы суд) і арт. 5 (права на свабоду і асабістую недатыкальнасць) Еўрапейскай канвенцыі аб абароне правоў чалавека і асноўных свабодаў.



**Асабістая свабода, як і жыццё, з'яўляецца адной з галоўных каштоўнасцяў чалавека. Губляючы свабоду, чалавек губляе і магчымасць у поўнай меры рэалізоўваць свой патэнцыял. Менавіта таму патрэба быць свабодным і не падвяргацца адвольным арыштам павінна быць забяспечана кожнаму чалавеку.**



Як вы лічыце — якія думкі ў кожнага з выяўленых на фота?

Якія магчымы далейшы ход падзей?

Калі дзеянні праваахоўных органаў у падобных сітуацыях з'яўляюцца правамернымі, а калі — не?



25 сакавіка 2017 года,
затрыманне назіральнікаў.



**Таццяна Палхоўская** — псіхолаг, на акцыі 25 сакавіка 2017 года павінна была выступаць як назіральнік, але яе ў ліку іншых затрымалі ў Праваабарончым цэнтры «Вясна». Таццяна ўспамінае, як у калідоры рэзка пачуўся грукат і валтузня, а потым праз некалькі секунд — над галовамі крыкі: «Всем лежать! Лицом в пол! Руки над головой!» Амапавец прабег па людзях, а потым, ускочыўшы на стол, загадаў не рухацца. *«Нас прымушалі падымаць галаву, называючы сябе на камеру. Вельмі прыніжальна».* Усіх затрыманых выводзілі да аўтобуса, як небяспечных злачынцаў. *«Прывезлі на месца і завялі ў спартовую залу, доўга нечага ці некага чакалі. Ніхто з намі не размаўляў, не называў ні сябе, ні прычыну затрымання, ні куды вязуць і на што маем правa».* У РУУСе затрыманых зноў даглядалі. Хлопцам і дзяўчатам загадвалі здымаць абутак, рамяні, часткова вопратку. А потым некаторых пачалі выводзіць у калідор. *«Калі я выйшла са спартовай залы, адразу не зразумела куды. Толькі за варотамі стала ясна, што нас ужо адпусцілі. Для мяне затрыманне скончылася, можна сказаць, паспяхова: не білі, не судзілі, не трымалі ў халодных ды душных засценках. Але вяртацца ў жыццё "пасля" аказалася няпроста».*

Калі вы арыштаваныя, вы маеце права ведаць, за што.

Працягласць утрымання пад вартай таксама не павінна перавышаць разумных межаў. Калі віна чалавека не даказана, дзяржава не можа ўтрымліваць яго ў папярэднім зняволенні бясконца доўга — улада абавязана правесці расследаванне справы ў самыя кароткія тэрміны і або вылучыць чалавеку абвінавачванні ў судзе, або вызваліць яго, спыніўшы справу.



Барыс Гаважук быў арыштаваны па падазрэнні ўчыненні цяжкага злачынства і знаходзіўся пад вартай да суда ў перыяд з 3 лістапада 1999 года да 26 чэрвеня 2001 года. Разглядаючы яго скаргу ў 2010 годзе, Еўрапейскі суд па правах чалавека паказаў, што такое працяглае ўтрыманне пад вартай не адпавядала патрабаванням законнасці, і прызнаў парушэнне з боку Украіны яго права на свабоду і асабістую недатыкальнасць.



Што агульнага і ў чым розніца ў прыведзеных справах Еўрапейскага суда па правах чалавека?

Палічыце, які быў тэрмін утрымання пад вартай Барыса Гаважука. Ці лічыце вы такі тэрмін «слушным»? Абгрунтуйце ваш адказ.

Вы можаце падрабязней азнаёміцца з рашэннямі Еўрапейскага суда па правах чалавека па гэтых справах.

# § 19. СВАБОДА МІРНЫХ СХОДАЎ І АСАЦЫЯЦЫЙ

Усе найважнейшыя міжнародныя дакументы ў галіне правоў чалавека гарантуюць нам права збірацца дзеля таго, каб калектыўна выказваць свае думкі, і права ўтвараць аб'яднанні з іншымі людзьмі. У тэксце Еўрапейскай канвенцыі па абароне правоў чалавека і асноўных свабод гэта запісана так: «Кожны мае права на свабоду мірных сходаў і на свабоду аб'яднання з іншымі асобамі».

Гэты артыкул складаецца з дзвюх частак. І хоць у абедзвюх гаворка ідзе пра калектыўныя выказванні меркаванняў і сумесныя дзеянні дзеля іх адстойвання, кожная частка абараняе даволі розныя формы такой дзейнасці. Таму разбяром кожную з іх паасобку.

Такім чынам, першая частка артыкула 11 Еўрапейскай канвенцыі абараняе права кожнага і кожнай з нас арганізоўваць мірныя сходы ці браць у іх удзел. Што мы разумеем пад «сходам»? У адным са сваіх дакументаў Арганізацыя па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе тлумачыць сход як «наўмысную і часовую прысутнасць у пэўным месцы групы людзей, якія маюць намер выказаць свае агульныя інтарэсы». Іх форма і месца правядзення могуць быць рознымі: гэта можа быць і статычны мітынг, і шэсце. Яны могуць праводзіцца і на дзяржаўнай, і на прыватнай тэрыторыі, і пад адкрытым небам, і ў памяшканні. Досыць часта права на свабоду сходаў выкарыстоўваецца як апошняя магчымасць звярнуцца да ўладаў, паколькі адсутнічаюць іншыя сродкі данясення свайго пункту гледжання да асобаў, якія прымаюць рашэнні.

Сходы з ужываннем гвалту не абараняюцца гэтым правам. Гэта не азначае, што ўдзельнікі сходу павінны быць «белымі і пухнатымі» ды ўсім падабацца, — абвешчаныя лозунгі могуць бянтэжыць, шакіраваць і нават абражаць пэўную частку грамадства, самі сходы могуць выклікаць часовыя нязручнасці і ствараць перашкоды дзеянням іншых асобаў, але ў любым выпадку мэта сходу і намеры арганізатараў павінны быць мірнымі, а ўдзельнікі павінны ўстрымлівацца ад гвалтоўных дзеянняў.

Права на мірныя сходы па сваёй прыродзе з'яўляецца свабодай. Гэта азначае, што для таго, каб яно было выканана, уладам перш за ўсё трэба не перашкаджаць людзям праводзіць сходы. Але яно накладвае на ўладу яшчэ і абавязак зрабіць усё неабходнае дзеля таго, каб папярэдзіць усё, што можа перашкодзіць правядзенню такіх сходаў. Паўнамоцныя органы дзяржавы павінны паклапаціцца пра бяспеку як для ўдзельнікаў сходу, так і для іншых людзей, якія не бяруць у ім удзел. Для дзяржавы гэтая задача можа быць не такой і простай, і ўлада нярэдка замест гэтага выбірае забарону сходаў. Але ў многіх выпадках такая забарона прызнаецца Еўрапейскім судом неабгрунтаванай і парушаючай свабоду сходаў. Гэтак жа, як было выяўлена ў справе спадара Букты і яго калег, якім улады Венгрыі забаранілі правядзенне мітынгу, спасылаючыся на тое, што на працягу аднаго дня ад атрымання паведамлення аб правядзенні сходу яны не маглі падрыхтавацца да яго.

Для правядзення мірных сходаў у большасці дэмакратычных краінаў не патрабуецца дазвол ад органаў улады. Арганізатарам сходу дастаткова апавясціць органы мясцовага самакіравання пра час і месца правядзення сходу. Органы ўлады ва Украіне не маюць паўнамоцтваў забараняць правядзенне сходаў. Гэта можа зрабіць толькі суд выключна ў выпадках, калі сход стварае рэальную пагрозу каштоўнасцям дэмакратычнага грамадства. Наяўнасць такой пагрозы павінна быць несумненнай, і дзяржава павінна даказаць гэта ў судзе. Забароненыя дыскрымінацыйныя абмежаванні гэтага права: нельга забараняць правядзенне мірных сходаў прадстаўнікам этнічных, сацыяльных або любых іншых меншасцяў. Парушаючым свабоду сходаў была прызнаная Еўрапейскім судом забарона ўрада Масквы на правядзенне гей-прайду (дэманстрацыі прадстаўнікоў сексуальных меншасцяў) па справе Мікалая Аляксеева супраць Расійскай Федэрацыі. Расійскія ўлады спасылалася на традыцыйнае для расійскага грамадства непрыманне ЛГБТ-супольнасці і апраўдвалі забарону спробай папярэдзіць напады на дэманстрацыю геяў і лесбіянак. Але суд убачыў у такіх дзеяннях дыскрымінацыю і пастанавіў, што забарона шэсця была неправамернай.

Абараняецца таксама і права на правядзенне контрзбораў. У выпадках, калі ў адным месцы адначасова праводзяцца сходы, удзельнікі якіх хочуць выказаць супрацьлеглыя погляды, дзяржава павінна зрабіць усё, каб

прадухіліць сутыкненне і забяспечыць абодвум бакам магчымасць правесці сход. Калі ўлада не зможа абараніць дэманстрантаў або контрдэманстрантаў ад праяваў узаемнай агрэсіі, то з вялікай доляй верагоднасці можна будзе канстатаваць парушэнні свабоды мірных сходаў. Так было і ў справе «ОМО Іліндэн», дзе ўлады Балгарыі не зрабілі нічога для таго, каб абараніць дэманстрантаў ад іх праціўнікаў.

Свабода мірных сходаў абараняе нашае права як удзельнічаць у сходах, так і ўстрымлівацца ад удзелу ў іх. Таму прымус браць удзел у той ці іншай дэманстрацыі або мітынгу таксама будзе парушэннем гэтага права.

Непаўналетнія могуць прэтэндаваць на абарону гэтага права гэтак жа, як і дарослыя людзі. Таму такой жа неправамернай і дыскрымінацыйнай можа быць прызнаная забарона вучням або студэнтам арганізоўваць мітынгі, дэманстрацыі ці перформансы, у тым ліку і на тэрыторыі навучальных установ.

Гаворачы аб асацыяцыях, мы таксама маем на ўвазе сумесную дзейнасць людзей дзеля дасягнення пэўнай мэты, але гэтая дзейнасць носіць крыху іншы характар — яна значна больш працяглая, чым у выпадку мірных сходаў, больш фармалізаваная і адрозніваецца наяўнасцю арганізацыйнай структуры (органаў кіравання і зацверджаных працэдур прыняцця рашэнняў). Гэта могуць быць палітычныя партыі, грамадскія арганізацыі, прафесійныя або творчыя саюзы. На ўзроўні школы ці ВНУ гэта можа быць любая арганізацыя самакіравання або суполка вучняў, створаная дзеля дасягнення агульных інтарэсаў.

Для рэалізацыі свабоды асацыяцыяў дзяржава павінна стварыць умовы, якія максімальна спросцяць працэдуру рэгістрацыі для жадаючых аб'яднацца ў тую ці іншую арганізацыю. Акрамя гэтага, дзяржаве забаронена ўмешвацца ў дзейнасць арганізацый, спрабаваць уплываць на абранне кіруючых органаў і вызначэнне працэдур самакіравання. Дзяржава не можа дыктаваць арганізацыям, чым і якім чынам яны павінны займацца — мэты і метады дзейнасці выбіраюць выключна самі людзі, якія стварылі аб'яднанне. Таксама надзвычай сур'ёзнымі і грунтоўнымі павінны быць падставы для забароны дзейнасці ўжо існуючага аб'яднання грамадзянаў. Цікавае рашэнне прыняў Еўрапейскі суд па правах чалавека па справе «Сацыялістычная партыя супраць Турцыі». Дзейнасць партыі была прыпыненая з-за таго, што адзін з яе кіраўнікоў у сваім выступе заявіў пра неабходнасць змены канстытуцыйнага ладу рэвалюцыйным шляхам. Еўрапейскі суд адзначыў, што дзейнасць буйной арганізацыі нельга спыняць з-за выказванняў аднаго з яе членаў, хай і з ліку кіраўнікоў. Акрамя гэтага, суд звярнуў увагу на тое, што заявы прадстаўнікоў партыі яшчэ нельга трактаваць як дзеянні па звяржэнні канстытуцыйнага ладу, і таму забарона дзейнасці партыі на падставе такой гіпатэтычнай пагрозы з'яўляецца неправамернай. Аднак варта адзначыць, што, як правіла, еўрапейскае заканадаўства дапускае забарону дзейнасці арганізацый, якія распальваюць нацыянальную і рэлігійную варожасць ці пагражаюць грамадскай бяспецы. Хаця і тут часта бываюць сур'ёзныя дыскусіі.

І гэтак жа, як і ў выпадку мірных сходаў, мы маем права самі ствараць асацыяцыі, выбіраць арганізацыю, у якую хочам увайсці, а таксама ўстрымлівацца ад удзелу ў працы арганізацый, мэты і прынцыпы якіх мы не падзяляем. З гэтага пункту гледжання парушэннем свабоды асацыяцыяў будуць як стварэнне перашкодаў для заснавання арганізацый або стварэнне перашкодаў для ўступлення асобы ў асацыяцыю, так і прымус людзей уступаць у тую ці іншую арганізацыю ці партыю. Так, напрыклад, брытанцы Янг, Джэймс і Уэбстэр звярнуліся ў Еўрапейскі суд з пазовам супраць сваёй дзяржавы, дзе яны вымушаныя былі ўступіць у прафсаюз. Яны не лічылі, што прафсаюз абараняе і прадстаўляе іх інтарэсы, і таму не жадалі быць ягонымі членамі. Суд пагадзіўся з заяўнікамі.

# МІРНЫЯ СХОДЫ І АСАЦЫЯЦЫІ



**Наста Лойка**, каардынатар валанцёрскай службы Праваабарончага цэнтра «Вясна»:

«Усе правы аднолькава важныя, але некаторыя даюць нам магчымасць у тым ліку і адстойваць іншыя. Таму мне заўжды асабліва важнымі падаваліся такія, як права на мірныя сходы і асацыяцыі. Узровень рэалізацыі гэтых правоў заўжды выступае лакмусавай паперкай для любога грамадства, наколькі яно спрыяльнае для правоў чалавека. Шкада, што мала хто ведае, наколькі складана правесці дазволеную акцыю ў Беларусі альбо зарэгістраваць грамадскае аб'яднанне па любой тэме».






**Зміцер Салаўёў**, Праваабарончы цэнтр «Вясна»:

*«Мірны сход — выдатны інструмент для адстойвання іншых правоў. І калі ўлады абмяжоўваюць права на мірныя сходы, то абмяжоўваюць права бараніць і свабоду слова, і права на здаровае навакольнае асяроддзе ды іншыя правы. Мірны сход — магчымасць ужывую сустрэцца з аднадумцамі, паглядзець ім у вочы, адчуць падтрымку».*

«Кожны чалавек мае права на свабоду мірных сходаў і асацыяцый», — гаворыцца ў артыкуле 20 Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека. Гэта права замацавана ў найважнейшых міжнародных дакументах, якія тычацца грамадзянскіх і палітычных правоў. Грамадзяне не могуць браць удзел у вырашэнні грамадскіх праблем і абараняць правы чалавека без магчымасці збірацца разам, ствараць аб'яднанні для абароны правоў і прасоўвання агульных інтарэсаў, свабодна выказваць розныя меркаванні і пазіцыі.



**Досыць часта права на свабоду сходаў і асацыяцый выкарыстоўваецца як апошняя магчымасць звярнуцца да ўлады, калі адсутнічаюць іншыя сродкі данясення сваёй пазіцыі ці патрабаванняў.**



*Рэгістрацыя судом незалежнага прафсаюза «Салідарнасць» у 1980 годзе — менавіта з гэтага моманту пачаўся незваротны рух Польшчы да дэмакратычных стандартаў Еўропы.*

*Ніхто не можа быць вымушаны ўдзельнічаць у мірных сходах, уступаць у асацыяцыі або аб'яднанні.*

Свабода мірных сходаў і асацыяцый азначае забарону адвольнага ўмяшання дзяржавы ў гэтую сферу. Усе дапушчальныя абмежаванні павінны быць замацаваны законам. Часам ад дзяржавы патрабуецца абараніць удзельнікаў публічных сходаў. Асабліва гэта актуальна для правядзення дэманстрацый або шэсцяў.














**Сучасныя дэмакратычныя дзяржавы па-рознаму трактуюць правамернасць абмежаванняў свабоды сходаў і асацыяцый. Як правіла, еўрапейскае заканадаўства дапускае забарону дзейнасці арганізацый і выступленняў, якія распальваюць нацыянальную і рэлігійную варожасць, пагражаюць грамадскай бяспецы. Зрэшты, і тут часта бываюць сур'ёзныя дыскусіі.**



*У справе «Аляксееў супраць Расіі» ў 2011 годзе Еўрапейскі суд паставіў кропку, прызнаўшы парушэнне права заяўніка на мірныя сходы, адзначыўшы: «Дэмакратыя не азначае толькі тое, што погляды большасці павінны дамінаваць... Любыя мерапрыемствы, звязаныя з умяшальніцтвам у свабоду сходаў і выказвання поглядаў... якімі б шакавальнымі або непрымальнымі яны ні здаваліся ўладам, наносяць шкоду дэмакратыі і часта нават небяспечныя для яе».*

# СВАБОДУ МІРНЫХ СХОДАЎ І АСАЦЫЯЦЫЙ



**Наста Лойка**, каардынатар валанцёрскай службы Праваабарончага цэнтра «Вясна»:



«Усе правы аднолькава важныя, але некаторыя даюць нам магчымасць у тым ліку і адстойваць іншыя. Таму мне заўжды асабліва важнымі падаваліся такія, як правы на мірныя сходы і асацыяцыі. Узровень рэалізацыі гэтых правоў заўжды выступае лакмусавай паперкай для любога грамадства, наколькі яно спрыяльнае для правоў чалавека. Шкада, што мала хто ведае, наколькі складана правесці дазволеную акцыю ў Беларусі альбо зарэгістраваць грамадскае аб’яднанне па любой тэме».




**Зміцер Салаўёў,**
Праваабарончы цэнтр «Вясна»:

*«Мірны сход — выдатны інструмент для адстойвання іншых правоў. І калі ўлады абмяжоўваюць права на мірныя сходы, то абмяжоўваюць права бараніць і свабоду слова, і права на здаровае навакольнае асяроддзе ды іншыя правы. Мірны сход — магчымасць ужывую сустрэцца з аднадумцамі, паглядзець ім у вочы, адчуць падтрымку».*

«Кожны чалавек мае права на свабоду мірных сходаў і асацыяцый», — гаворыцца ў артыкуле 20 Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека. Гэта права замацавана ў найважнейшых міжнародных дакументах, якія тычацца грамадзянскіх і палітычных правоў. Грамадзяне не могуць браць удзел у вырашэнні грамадскіх праблем і абараняць правы чалавека без магчымасці збірацца разам, ствараць аб’яднанні для абароны правоў і прасоўвання агульных інтарэсаў, свабодна выказваць розныя меркаванні і пазіцыі.



Што вы думаеце пра ролю і месца міліцыі ў магчымасці грамадзян рэалізаваць свае права на мірныя сходы?



**Досыць часта права на свабоду сходаў і асацыяцый выкарыстоўваецца як апошняя магчымасць звярнуцца да ўлады, калі адсутнічаюць іншыя сродкі данясення сваёй пазіцыі ці патрабаванняў.**



*Рэгістрацыя судом незалежнага прафсаюза «Салідарнасць» у 1980 годзе — менавіта з гэтага моманту пачаўся незваротны рух Польшчы да дэмакратычных стандартаў Еўропы.*



Што вы ведаеце пра Леха Валенсу і падзеі ў Польшчы ў пачатку 80-х гадоў?

Што вам вядома пра Вацлава Гаўла і «аксамітную рэвалюцыю» ў Чэхаславакіі ў 1989 годзе?

Якую ролю, на вашу думку, свабода мірных сходаў адыгрывае ў вырашэнні крызісных момантаў гісторыі краіны?

*Ніхто не можа быць вымушаны ўдзельнічаць у мірных сходах, уступаць у асацыяцыі або аб’яднанні.*

Свабода мірных сходаў і асацыяцый азначае забарону адвольнага ўмяшання дзяржавы ў гэтую сферу.
Усе дапушчальныя абмежаванні павінны быць замацаваны законам. Часам ад дзяржавы патрабуецца абараніць удзельнікаў публічных сходаў. Асабліва гэта актуальна для правядзення дэманстрацый або шэсцяў.















**Сучасныя дэмакратычныя дзяржавы па-рознаму трактуюць правамернасць абмежаванняў свабоды сходаў і асацыяцый. Як правіла, еўрапейскае заканадаўства дапускае забарону дзейнасці арганізацый і выступленняў, якія распальваюць нацыянальную і рэлігійную варожасць, пагражаюць грамадскай бяспецы. Зрэшты, і тут часта бываюць сур’ёзныя дыскусіі.**



*У справе «Аляксееў супраць Расіі» ў 2011 годзе Еўрапейскі суд паставіў кропку, прызнаўшы парушэнне права заяўніка на мірныя сходы, адзначыўшы: «Дэмакратыя не азначае толькі тое, што погляды большасці павінны дамінаваць... Любыя мерапрыемствы, звязаныя з умяшальніцтвам у свабоду сходаў і выказвання поглядаў... якімі б шакавальнымі або непрымальнымі яны ні здаваліся ўладам, наносяць шкоду дэмакратыі і часта нават небяспечныя для яе».*

# § 20. ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА І АБАВЯЗКІ

Нярэдка, асабліва ад настаўнікаў, даводзіцца чуць пра неабходнасць менш казаць дзецям пра іх правы і часцей нагадваць пра абавязкі. Многія нават кажуць, што спачатку дзіця трэба навучыць добрасумленна выконваць свае абавязкі, і толькі потым, маўляў, можна расказваць пра магчымасць рэалізацыі ім сваіх правоў. Але ці сапраўды так шчыльна звязаныя паміж сабой паняцці «абавязкі» і «правы чалавека»? Што такое абавязкі ў кантэксце правоў чалавека?

Ні ў адной міжнароднай дамове мы не знойдзем пераліку абавязкаў чалавека. Абавязкі згадваюцца ў канстытуцыях большасці дэмакратычных краінаў, але і там гаворка ідзе толькі пра абавязкі грамадзяніна, якія не распаўсюджваюцца на замежнікаў і асобаў без грамадзянства. Як бы дзіўна гэта ні гучала, але абавязкаў чалавека проста не існуе. Нашы правы нараджаюцца разам з намі — дзіця, якому ўсяго некалькі хвілінаў ад роду, ужо мае такі самы комплекс правоў і свабодаў, што і кожны ці кожная з нас. А вось ці мае нованароджанае дзіця абавязкі? Вядома, не. Чалавек бярэ іх на сябе, толькі ўступаючы ў тыя ці іншыя формы сацыяльнага ўзаемадзеяння. Мы пагаджаемся выконваць абавязкі вучня, калі пачынаем наведваць школу, бяром на сябе прафесійныя абавязкі, паступаючы на працу, пагаджаемся выконваць канстытуцыйныя абавязкі, набываючы грамадзянства той ці іншай краіны. Такім чынам, абавязкі з'яўляюцца прадуктам сацыяльнага ўзаемадзеяння (дамовы або прымусу), а правы чалавека — неад'емнай часткай чалавечай прыроды.

Непасрэднай узаемасувязі паміж імі не існуе, і сцвярджэнне аб тым, што мы можам прэтэндаваць на рэалізацыю сваіх правоў толькі ў выпадку, калі добрасумленна выконваем абавязкі, нам дасталася ў спадчыну ад савецкіх часоў і з'яўляецца глыбока памылковым. З яго лагічна вынікала тое, што ў выпадку, калі чалавек не плаціць падаткі або адмаўляецца абараняць радзіму, ён можа быць пазбаўлены шэрагу фундаментальных правоў, такіх як права свабодна выказваць свае погляды ці свабода ад катаванняў ці права не быць адданым у рабства. І як бы абсурдна гэта ні гучала, у сучасным свеце ўсё яшчэ існуюць краіны, дзе пануюць такія ўяўленні.

І хоць аб'ём правоў чалавека не залежыць ад выканання ім рознага кшталту абавязкаў, усё гэта ў любым выпадку не азначае ўсёдазволенасці. Сучасная канцэпцыя правоў чалавека — вельмі крохкая канструкцыя, закладам існавання якой з'яўляецца ўзаемная адказнасць і павага да правоў кожнага і кожнай. Пра важнасць такой узаемнай павагі гаворыцца і ў тэксце Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека: «Кожны чалавек мае абавязкі перад грамадствам, у якім толькі і магчыма свабоднае і поўнае развіццё яго асобы»

Але, безумоўна, у сучаснай канцэпцыі правоў чалавека знойдзецца годнае месца і для паняцця «абавязкі» — рэалізацыя ўсяго комплексу правоў чалавека з'яўляецца прамым абавязкам дзяржавы.

# ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА І АБАВЯЗКІ



Ці маюць узаемасувязь гэтыя паняцці?



Калі правы чалавека гарантуюць кожнаму чалавеку яго асабістую свабоду, выключаюць любую дыскрымінацыю ў адносінах да яго і ўмяшанне ў яго аўтаномію, то **для дзяржавы правы чалавека — гэта абавязкі.**



**Правы чалавека вызначаюць межы, у якіх можа дзейнічаць дзяржаўны орган пры выкананні сваіх паўнамоцтваў.**

**Правы чалавека — гэта абавязальніцтвы дзяржавы перад чалавекам па іх забеспячэнні і захаванні.**



*«Кожная дзяржава нясе асноўную адказнасць і абавязак абараняць, заахвочваць і ажыццяўляць усе правы чалавека і асноўныя свабоды, у прыватнасці шляхам прыняцця такіх сродкаў, якія могуць спатрэбіцца для стварэння ўсіх неабходных умоваў у сацыяльнай, эканамічнай і палітычнай, а таксама ў іншых галінах і прававых гарантый, неабходных для забеспячэння таго, каб усе асобы пад яе юрысдыкцыяй, індывідуальна і сумесна з іншымі, мелі магчымасць карыстацца ўсімі гэтымі правамі і свабодамі на практыцы».*

Дэкларацыя аб праве і адказнасці асобных асобаў, груп і органаў грамадства заахвочваць і абараняць агульнапрызнаныя правы чалавека і асноўныя свабоды (Рэзалюцыя 53/144 Генеральнай Асамблеі ААН ад 9 снежня 1998 г., артыкул 2)




*Існуе абсурдны выраз: «Спачатку ты маеш абавязкі, а ўжо потым — правы». Гэта азначае, што калі я — грамадзянін і не выплаціў падаткі, то мяне можна аддаць у рабства?*

**Прымусовая праца ў Беларусі мае сістэматычны характар. 29 верасня 2016 года падчас збору школьнікамі бульбы (пад лозунгам «Памажы сабраць ураджай») адбылася трагедыя. Загінула 13-гадовая Вікторыя Папчэня — трапіла пад колы грузавіка, які рухаўся заднім ходам. Васьмікласніцы за працу на полі гаспадаркі «Усход-агра» абяцалі вядро бульбы.**





**Леанід Судаленка**, праваабаронца:

*«Ці будуць у Беларусі і далей "выхоўваць" школьнікаў прымусовай працай або гэтаму вар'яцтву будзе пакладзены канец? Любыя працы дзяцей ва ўзросце да 14 гадоў у краіне забароненыя Працоўным кодэксам. Акрамя таго, прыцягненне навучэнцаў да сельгаспадарчых працаў падчас заняткаў з'яўляецца парушэннем артыкула 89 Кодэкса аб адукацыі Рэспублікі Беларусь. Як бачым, гэтых забаронаў было недастаткова, каб пазбегнуць трагедыі».*





*Дакументы, якія раскрываюць механізм прыцягнення школьнікаў да прымусовай працы ў Маладзечанскім раёне, дзе адбылася трагедыя на полі.*

Істотнае адрозненне паміж паняццямі «правы чалавека» і «абавязкі» ў тым, што калі правы чалавека кожны мае ад нараджэння (гэта не залежыць нават ад мяне), то абавязкі мы маем, уступаючы ў пэўную сацыяльную ролю. Як грамадзянін, я маю грамадзянскія абавязкі, вызначаныя Канстытуцыяй маёй краіны. Калі я пераступаю парог навучальнай установы, вучуся ў ёй — я маю абавязкі вучня або студэнта. Ёсць абавязкі бацькоў і дзяцей, мужа і жонкі і многія іншыя. Існуюць юрыдычныя і маральныя абавязкі. І яны важныя. Аднак гэта зусім іншая катэгорыя.




Аб'ём правоў чалавека не залежыць ад выканання ім рознага кшталту абавязкаў.



# ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА І АБАВЯЗКІ

**Ці маюць узаемасувязь гэтыя паняцці?**

Калі правы чалавека гарантуюць кожнаму чалавеку яго асабістую свабоду, выключаюць любую дыскрымінацыю ў адносінах да яго і ўмяшанне ў яго аўтаномію, то **для дзяржавы правы чалавека — гэта абавязкі.**

**Правы чалавека вызначаюць межы, у якіх можа дзейнічаць дзяржаўны орган пры выкананні сваіх паўнамоцтваў.**

**Правы чалавека — гэта абавязальніцтвы дзяржавы перад чалавекам па іх забеспячэнні і захаванні.**



Як дзяржава забяспечвае правы чалавека?

Што значыць думка аб абавязку дзяржавы выконваць правы чалавека?



*«Кожная дзяржава нясе асноўную адказнасць і абавязак абараняць, заахвочваць і ажыццяўляць усе правы чалавека і асноўныя свабоды, у прыватнасці шляхам прыняцця такіх сродкаў, якія могуць спатрэбіцца для стварэння ўсіх неабходных умоваў у сацыяльнай, эканамічнай і палітычнай, а таксама ў іншых галінах і прававых гарантый, неабходных для забеспячэння таго, каб усе асобы пад яе юрысдыкцыяй, індывідуальна і сумесна з іншымі, мелі магчымасць карыстацца ўсімі гэтымі правамі і свабодамі на практыцы».*

Дэкларацыя аб праве і адказнасці асобных асобаў, груп і органаў грамадства заахвочваць і абараняць агульнапрызнаныя правы чалавека і асноўныя свабоды (Рэзалюцыя 53/144 Генеральнай Асамблеі ААН ад 9 снежня 1998 г., артыкул 2)



Дэкларацыя Генеральнай Асамблеі ААН прадугледжвае абавязак дзяржавы заахвочваць захаванне і ажыццяўленне правоў чалавека. Пра што можа ісці гаворка?

Якую ролю захаванне правоў чалавека ў дзяржаве адыгрывае ў дасягненні міру?

Што азначае захаванне правоў чалавека ў яго імкненні да шчасця?




*Існуе абсурдны выраз: «Спачатку ты маеш абавязкі, а ўжо потым — правы». Гэта азначае, што калі я — грамадзянін і не выплаціў падаткі, то мяне можна аддаць у рабства?*



Як вы разумееце такое выказванне?

Што могуць азначаць карыкатура і фота?

**Прымусовая праца ў Беларусі мае сістэматычны характар. 29 верасня 2016 года падчас збору школьнікамі бульбы (пад лозунгам «Памажы сабраць ураджай») адбылася трагедыя. Загінула 13-гадовая Вікторыя Папчэня — трапіла пад колы грузавіка, які рухаўся заднім ходам. Васьмікласніцы за працу на полі гаспадаркі «Усход-агра» абяцалі вядро бульбы.**





**Леанід Судаленка**, праваабаронца:

*«Ці будуць у Беларусі і далей "выхоўваць" школьнікаў прымусовай працай або гэтаму вар'яцтву будзе пакладзены канец? Любыя працы дзяцей ва ўзросце да 14 гадоў у краіне забароненыя Працоўным кодэксам. Акрамя таго, прыцягненне навучэнцаў да сельгаспадарчых працаў падчас заняткаў з'яўляецца парушэннем артыкула 89 Кодэкса аб адукацыі Рэспублікі Беларусь. Як бачым, гэтых забаронаў было недастаткова, каб пазбегнуць трагедыі».*





*Дакументы, якія раскрываюць механізм прыцягнення школьнікаў да прымусовай працы ў Маладзечанскім раёне, дзе адбылася трагедыя на полі.*

Істотнае адрозненне паміж паняццямі «правы чалавека» і «абавязкі» ў тым, што калі правы чалавека кожны мае ад нараджэння (гэта не залежыць нават ад мяне), то абавязкі мы маем, уступаючы ў пэўную сацыяльную ролю. Як грамадзянін, я маю грамадзянскія абавязкі, вызначаныя Канстытуцыяй маёй краіны. Калі я пераступаю парог навучальнай установы, вучуся ў ёй — я маю абавязкі вучня або студэнта. Ёсць абавязкі бацькоў і дзяцей, мужа і жонкі і многія іншыя. Існуюць юрыдычныя і маральныя абавязкі. І яны важныя. Аднак гэта зусім іншая катэгорыя.




Аб'ём правоў чалавека не залежыць ад выканання ім рознага кшталту абавязкаў.



Чаму правы чалавека не звязаны з грамадзянскімі або іншымі абавязкамі?
Калі і ў сувязі з чым у нас узнікаюць абавязкі?
Што можа азначаць графіці на фота?

# § 21. ТАЛЕРАНТНАСЦЬ

## ТАЛЕРАНТНАСЦЬ



«Як паэтка і чытачка, я адчуваю стваральную ўласцівасць мовы, якая можа нараджаць дагэтуль непамысныя сусветы. Як перакладчыца, я ведаю, што мова ўмее ствараць масты паміж культурамі і людзьмі, робячы незразумелае зразумелым, а далёкае — блізкім. Але як унікальны чалавек бачу, што часам мову зараджаюць нянавісцю, як кулямёт, кулямёт страху, і, акапаўшыся ў траншэі "ўсярэдненасці", скіроўваюць яго на непадобных сабе. Непадобных, бо не тым багам моляцца, бо не тых людзей любяць, бо не ад тых бацькоў нарадзіліся — прыдумаць адрознасць можна якую заўгодна, бо мы ж усе ўнікальныя, мы ўсе непадобныя. Кулямёт страху ў любы момант можа быць скіраваны і на нас».



***Юлія Цімафеева**, паэтка, перакладчыца, рэдактарка часопіса «ПрайдзіСвет»*



*Летняя школа талерантнасці на возеры Сялява.*

**«Талерантнасць — каштоўнасць і сацыяльная норма грамадзянскай супольнасці, якая выяўляецца ў праве ўсіх індывідаў грамадзянскай супольнасці быць featured рознымі, у забеспячэнні ўстойлівай гармоніі паміж рознымі канфесіямі, палітычнымі, этнічнымі ды іншымі сацыяльнымі групамі, павазе да разнастайнасці розных сусветных культур, цывілізацый і народаў, гатоўнасці да разумення і супрацоўніцтва з людзьмі, якія адрозніваюцца па знешнасці, мове, перакананнях, звычаях і веравызнаннях».**

*Дэкларацыя прынцыпаў талерантнасці ЮНЕСКА, 1995 год*

### Грамадства, у якім адсутнічае талерантнасць, нараджае таталітарную ўладу і знішчае свабоду.



*Трасцянец — лагер смерці на тэрыторыі Беларусі.*



*Абутак расстраляных «ворагаў народа» ва ўрочышчы Хайсы пад Віцебскам.*

У XX стагоддзі ў фашыстоўскай Германіі ды на акупаваных тэрыторыях у часы Другой сусветнай вайны ў адпаведнасці з прынцыпамі «расавай гігіены» асноўным аб'ектам пераследу сталі габрэі: яны былі пазбаўленыя грамадзянскіх правоў, афіцыйная прапаганда распальвала сярод этнічных немцаў пачуццё нянавісці. Пазней фашысты арганізавалі «канвеер смерці» ў лагерах смерці, дзе планамерна знішчалі габрэяў, народ рома, псіхічна хворых, інвалідаў, гомасексуалаў ды іншых, каго лічылі «непаўнавартаснымі».

У СССР існавала класавая і сацыяльная нянавісць, «ворагаў народа» знішчалі.



*Молат разбівае на кавалкі свастыку — помнік нарвежскім антыфашыстам, Осла.*



*Вулічная выстава «Фотаздымкі, знойдзеныя на руінах гета», Вільня, Літва.*

Міжнародны дзень талерантнасці (International Day for Tolerance) штогод адзначаецца 16 лістапада.




*Дзень талерантнасці.*



*Карта талерантнасці Беларусі.*



Этнічны склад Рэспублікі Беларусь уключае больш за 130 нацыянальнасцяў. Захад краіны традыцыйна каталіцкі, Усход — праваслаўны. Акрамя таго, побач з хрысціянамі на тэрыторыі Беларусі стагоддзямі жылі іўдзэі ды мусульмане. Адрозненняў больш чым дастаткова, але пры ўсёй неаднастайнасці грамадства жыхароў краіны аб'ядноўвае перакананне, што беларусы — народ талерантны. Гэта перакананне падтрымлівае афіцыйная ідэалогія. Пра тое, што яно глыбока ўкаранілася ў грамадстве, кажуць дадзеныя сацыялагічных даследаванняў. Але дадзеныя сацыялагічных апытанняў сведчаць толькі пра тое, што людзі ў Беларусі вераць, што яны талерантныя, а не пра тое, што яны такімі сапраўды з'яўляюцца. («Даследаванне сацыяльных межаў у беларускім грамадстве», праведзенае міжнароднай сеткай арганізацый GPPAC — Глабальнае партнёрства па прадухіленні ўзброеных канфліктаў.)

**Масмедыя здольныя прыкметна ўплываць на ўзровень сацыяльнай напружанасці. У залежнасці ад інфармацыйнай палітыкі і падрыхтоўкі супрацоўнікаў медыя могуць альбо абвастраць сацыяльныя канфлікты, альбо дапамагаць у іх вырашэнні.**

### Што такое талерантная журналістыка?

Гэта такая журналістыка, якая клапоціцца пра нашу агульную будучыню. Гэта значыць, імкнецца не прыводзіць да эскалацыі канфліктаў, не правакаваць агрэсію, будаваць такую карціну свету, дзе існуюць не толькі гвалтоўныя сродкі вырашэння канфліктаў, але і мірныя. Талерантная журналістыка падтрымлівае каштоўнасць разнастайнасці, розніцы ў меркаваннях і пазіцыях.


ОБЛАСТНАЯ ОБЩЕСТВЕННО-ПОЛИТИЧЕСКАЯ ГАЗЕТА

ВЕЧЕРНИЙ МОГИЛЕВ

ВПЕРВЫЕ В ИСТОРИИ БЕЛАРУСИ ПОД СТРАЖУ ВЗЯЛИ ТРАНССЕКСУАЛА

*«Вячэрні Магілёў».*



«Паводле адной з гіпотэз, менавіта мова фарміруе наша мысленне, а як следства — і паводзіны. Калі мы выключаем мову варожасці з нашага жыцця, мы на крок бліжэй да прыняцця і разумення кожнага чалавека ў сваёй унікальнасці і шматграннасці. Гэта ўсвядомлены крок ад стыгматызацыі, навешвання ярлыкоў і дыскрымінацыі да талерантнасці і роўнасці. Мову фарміруе кожны з нас, тым самым робячы выбар, у якім грамадстве жыць у будучым».

**Алег Ражкоў,** каардынатар ініцыятывы «Журналісты за талерантнасць»

**Стэрэатыпы**

«Ромы крадуць, бо яны ромы», «жанчыны не ідуць на кіруючыя пасады, бо яны ад прыроды не схільныя да лідарства». «Яны паводзяць сябе так, таму што яны — гэта яны» — вось агульная формула простых тлумачэнняў. Яна стварае толькі ілюзію тлумачэння. Але простых тлумачэнняў няма.





*Осла, гей-прайд, 2016 год.*

**Асцярожна: новыя стэрэатыпы**

Як толькі пра гомасексуалаў, а таксама пра асексуалаў, бісексуалаў, пансексуалаў загаварылі ў медыя, сталі фарміравацца новыя стэрэатыпныя вобразы. Геі — найлепшыя сябры дзяўчат і абавязкова творчыя натуры, лесбіянкі — суровыя дамы з кароткай стрыжкай і біцэпсамі, як у дэсантніка. Геі-сантэхнікі і лесбіянкі ў сукенках ад Шанэль у такія вобразы не ўпісваюцца, а значыць, рызыкуюць быць падвергнутыя дыскрымінацыі двойчы: як «няправільныя» людзі і як «няправільныя» геі і лесбіянкі. Акрамя таго, любыя стэрэатыпы ствараюць ілюзію, што мы можам нешта сказаць пра характар, густ, лад жыцця чалавека толькі таму, што нам вядомая яго ці яе арыентацыя або гендарная ідэнтычнасць. А гэта збядняе наша ўяўленне пра разнастайнасць свету.

ВЯСНА праваабарончы цэнтр · Беларускі дом правоў чалавека імя Барыса Звозскава · Human Rights House Foundation · HART · Розуміємо права людини www.edu.helsinki.org.ua

# ТАЛЕРАНТНАСЦЬ





Летняя школа талерантнасці на возеры Сялява.

«Як паэтка і чытачка, я адчуваю стваральную ўласцівасць мовы, якая можа нараджаць дагэтуль непамысныя сусветы. Як перакладчыца, я ведаю, што мова ўмее ствараць масты паміж культурамі і людзьмі, робячы незразумелае зразумелым, а далёкае — блізкім. Але як унікальны чалавек бачу, што часам мову заражаюць нянавісцю, як кулямёт, кулямёт страху, і, акапаўшыся ў траншэі "ўсярэдненасці", скіроўваюць яго на непадобных сабе. Непадобных, бо не тым багам моляцца, бо не тых людзей любяць, бо не ад тых бацькоў нарадзіліся — прыдумаць адрознасць можна якую заўгодна, бо мы ж усе ўнікальныя, мы ўсе непадобныя. Кулямёт страху ў любы момант можа быць скіраваны і на нас».



***Юлія Цімафеева**, паэтка, перакладчыца, рэдактарка часопіса «ПрайдзіСвет»*

**«Талерантнасць — каштоўнасць і сацыяльная норма грамадзянскай супольнасці, якая выяўляецца ў праве ўсіх індывідаў грамадзянскай супольнасці быць рознымі, у забеспячэнні ўстойлівай гармоніі паміж рознымі канфесіямі, палітычнымі, этнічнымі ды іншымі сацыяльнымі групамі, павазе да разнастайнасці розных сусветных культур, цывілізацый і народаў, гатоўнасці да разумення і супрацоўніцтва з людзьмі, якія адрозніваюцца па знешнасці, мове, перакананнях, звычаях і веравызнаннях».**

*Дэкларацыя прынцыпаў талерантнасці ЮНЕСКА, 1995 год*

## Грамадства, у якім адсутнічае талерантнасць, нараджае таталітарную ўладу і знішчае свабоду.





*Трасцянец — лагер смерці на тэрыторыі Беларусі.*



*Абутак расстраляных «ворагаў народа» ва ўрочышчы Хайсы пад Віцебскам.*

У XX стагоддзі ў фашыстоўскай Германіі ды на акупаваных тэрыторыях у часы Другой сусветнай вайны ў адпаведнасці з прынцыпамі «расавай гігіены» асноўным аб'ектам пераследу сталі габрэі: яны былі пазбаўленыя грамадзянскіх правоў, афіцыйная прапаганда распальвала сярод этнічных немцаў пачуццё нянавісці. Пазней фашысты арганізавалі «канвеер смерці» ў лагерах смерці, дзе планамерна знішчалі габрэяў, народ рома, псіхічна хворых, інвалідаў, гомасексуалаў ды іншых, каго лічылі «непаўнавартаснымі».

У СССР існавала класавая і сацыяльная нянавісць, «ворагаў народа» знішчалі.



*Молат разбівае на кавалкі свастыку — помнік нарвежскім антыфашыстам, Осла.*



*Вулічная выстава «Фотаздымкі, знойдзеныя на руінах гета», Вільня, Літва.*

Міжнародны дзень талерантнасці (International Day for Tolerance) штогод адзначаецца 16 лістапада.





*Дзень талерантнасці.*





*Карта талерантнасці Беларусі.*



Этнічны склад Рэспублікі Беларусь уключае больш за 130 нацыянальнасцяў. Захад краіны традыцыйна каталіцкі, Усход — праваслаўны. Акрамя таго, побач з хрысціянамі на тэрыторыі Беларусі стагоддзямі жылі іўдзі ды мусульмане. Адрозненняў больш чым дастаткова, але пры ўсёй неаднастайнасці грамадства жыхароў краіны аб'ядноўвае перакананне, што беларусы — народ талерантны. Гэта перакананне падтрымлівае афіцыйная ідэалогія. Пра тое, што яно глыбока ўкаранілася ў грамадстве, кажуць дадзеныя сацыялагічных даследаванняў. Але дадзеныя сацыялагічных апытанняў сведчаць толькі пра тое, што людзі ў Беларусі вераць, што яны талерантныя, а не пра тое, што яны такімі сапраўды з'яўляюцца. («Даследаванне сацыяльных межаў у беларускім грамадстве», праведзенае міжнароднай сеткай арганізацый GPPAC — Глабальнае партнёрства па прадухіленні ўзброеных канфліктаў.)

**Масмедыя здольныя прыкметна ўплываць на ўзровень сацыяльнай напружанасці. У залежнасці ад інфармацыйнай палітыкі і падрыхтоўкі супрацоўнікаў медыя могуць альбо абвастраць сацыяльныя канфлікты, альбо дапамагаць у іх вырашэнні.**

## Што такое талерантная журналістыка?

Гэта такая журналістыка, якая клапоціцца пра нашу агульную будучыню. Гэта значыць, імкнецца не прыводзіць да эскалацыі канфліктаў, не правакаваць агрэсію, будаваць такую карціну свету, дзе існуюць не толькі гвалтоўныя сродкі вырашэння канфліктаў, але і мірныя. Талерантная журналістыка падтрымлівае каштоўнасць разнастайнасці, розніцы ў меркаваннях і пазіцыях.



«Паводле адной з гіпотэз, менавіта мова фарміруе наша мысленне, а як следства — і паводзіны. Калі мы выключаем мову варожасці з нашага жыцця, мы на крок бліжэй да прыняцця і разумення кожнага чалавека ў сваёй унікальнасці і шматграннасці. Гэта ўсвядомлены крок ад стыгматызацыі, навешвання ярлыкоў і дыскрымінацыі да талерантнасці і роўнасці. Мову фарміруе кожны з нас, тым самым робячы выбар, у якім грамадстве жыць у будучым».

**Алег Ражкоў,** каардынатар ініцыятывы «Журналісты за талерантнасць»


ОБЛАСТНАЯ ОБЩЕСТВЕННО-ПОЛИТИЧЕСКАЯ ГАЗЕТА
ВЕЧЕРНИЙ МОГИЛЕВ
ВПЕРВЫЕ В ИСТОРИИ БЕЛАРУСИ ПОД СТРАЖУ ВЗЯЛИ ТРАНССЕКСУАЛА

*«Вячэрні Магілёў».*




### Стэрэатыпы

«Ромы крадуць, бо яны ромы», «жанчыны не ідуць на кіруючыя пасады, бо яны ад прыроды не схільныя да лідарства». «Яны паводзяць сябе так, таму што яны — гэта яны» — вось агульная формула простых тлумачэнняў. Яна стварае толькі ілюзію тлумачэння. Але простых тлумачэнняў няма.



### Асцярожна: новыя стэрэатыпы




*Осла, гей-прайд, 2016 год.*

Як толькі пра гомасексуалаў, а таксама пра асексуалаў, бісексуалаў, пансексуалаў загаварылі ў медыя, сталі фарміравацца новыя стэрэатыпныя вобразы. Геі — найлепшыя сябры дзяўчат і абавязкова творчыя натуры, лесбіянкі — суровыя дамы з кароткай стрыжкай і біцэпсамі, як у дэсантніка. Геі-сантэхнікі і лесбіянкі ў сукенках ад Шанэль у такія вобразы не ўпісваюцца, а значыць, рызыкуюць быць падвергнутыя дыскрымінацыі двойчы: як «няправільныя» людзі і як «няправільныя» геі і лесбіянкі. Акрамя таго, любыя стэрэатыпы ствараюць ілюзію, што мы можам нешта сказаць пра характар, густ, лад жыцця чалавека толькі таму, што нам вядомая яго ці яе арыентацыя або гендарная ідэнтычнасць. А гэта збядняе наша ўяўленне пра разнастайнасць свету.

# ПРАВЫ ЛЮДЗЕЙ З ІНВАЛІДНАСЦЮ





*Валеры Кішчук з братам і АМАП. Мінск, 1997 год.*

**«Мы павінны рабіць усё, каб кожны чалавек з інваліднасцю мог самастойна кіраваць сваім жыццём, што, на жаль, пакуль у нашым грамадстве атрымліваецца далёка не ўва ўсіх. Частка гэтай праблемы — існаванне дзяржаўнай сістэмы дапамогі, якая ўключае ў сябе інтэрнаты. Мы лічым усю гэтую сістэму неперспектыўнай і будзем прыкладаць усе намаганні, каб ад інтэрнатнай сістэмы перайсці да дапамогі ў мясцовых супольнасцях».**

**Сяргей Драздоўскі**, кіраўнік Офіса па правах людзей з інваліднасцю



«Я ўслухоўваюся ў гукі, інтанацыі, раней я дабіваўся нейкага сэнсу праз тое, што напісана. А цяпер мне многае кажуць інтанацыі».

*2009 год, інтэрв'ю на Радыё Свабода*

**Сяржук Вітушка** (1965–2012) — грамадскі дзеяч, у 80-я — старшыня моладзевага аб'яднання «Талака», аўтар казак для дарослых і дзяцей.



Сяржук Вітушка, страціўшы зрок, прымаў удзел у працы Школ па правах чалавека для моладзі, праводзіў экскурсіі па Вільні, пісаў казкі ды вершы.

У 2011 годзе ў Мінску выйшла яго кніга **«Дзінь-дзілінь: пара гуляць у казкі!»**. Выданне кнігі — вынік салідарнасці чытачоў, якія супольна сабралі неабходныя грошы. Рэдактары, ілюстратары, карэктары рыхтавалі кнігу да друку па-сяброўску, без аплаты. «Дзінь-дзілінь» увайшла ў залатую дзясятку кніг 2011 года па версіі Радыё Свабода і заняла першае месца ў намінацыі «Дзіцячая літаратура».





*Сяржук Вітушка праводзіць экскурсію для навучэнцаў Школы па правах чалавека для моладзі. Кадр з фільма Віктара Корзуна* **«Мы адкрылі для сябе Беларусь»**.

**5 траўня — Міжнародны дзень салідарнасці людзей з інваліднасцю ў адстойванні раўнаправўя і супраць дыскрымінацыі. У 1992 годзе 5 траўня людзі з інваліднасцю з 17 краінаў правялі першы агульнаеўрапейскі дзень барацьбы за роўныя правы і супраць дыскрымінацыі. У гэты дзень праходзяць круглыя сталы і шырокія грамадскія абмеркаванні праблемаў інваліднасці, шэсці.**





У траўні 2007 года 60 інвалідаў-вазочнікаў з Беларусі праехалі 7 кіламетраў па Мінску, каб перадаць петыцыю Лукашэнку. Вазочнікі не змаглі скарыстацца падземнымі пераходамі і метро, руху таксама перашкаджалі высокія бардзюры. Удзельнікі акцыі вымушаны былі спыніць рух транспарту, каб перамяшчацца па праезнай частцы.

*Акцыя ў траўні 2007 года.*






*Акцыя 5 траўня 2012 года.*

«Падчас Дзед Мароз можа выглядаць дужа незвычайна па беларускіх мерках… Нефармальна. Напрыклад, сесці ў інвалідны вазок і… трапіць не на сталічны парад Дзедаў Марозаў, а ў абдымкі праваахоўнікаў. Снягуркі і Марозы на інвалідных вазках хацелі прыняць удзел у святочным навагоднім шэсці, але не выйшла. Бо “не палажана". У міліцыі распавялі потым, што рашэнне не пускаць было прынятае органамі выканаўчай улады, а яны проста выканалі загад зверху — зябяспечылі парадак і стабільнасць. ОК. У Мінгарвыканкаме запэўнілі: Дзед Мароз на інвалідным вазку — гэта небяспечна перш за ўсё для яго самога. Таму і не пусцілі. Бяспека грамадзянаў перш за ўсё! 24 снежня 2016 года вазочнікі, а таксама студэнты тэатральнай лабараторыі “Форцінбрас” пры Беларускім Свабодным тэатры на пару хвілін перакрылі праспект Пераможцаў. І ўжо 25 снежня яны ж зладзілі іншую акцыю — прайшлі па праспекце Незалежнасці з завязанымі вачыма, нагадваючы пра праблемы невідушчых у Беларусі».

***Дар'я Ліс**, Беларускае Радыё Рацыя*



*Акцыя Дзедаў Марозаў на інвалідных вазках. Мінск, снежань 2016 года.*









**На пачатку кастрычніка 2016 года Беларусь ратыфікавала Канвенцыю па правах людзей з інваліднасцю. Значную ролю ў адвакацыі далучэння краіны да Канвенцыі адыгралі грамадскія арганізацыі, сярод якіх — Офіс па правах людзей з інваліднасцю.**

## ЭТЫКЕТ ІНВАЛІДНАСЦІ

**Этыкет інваліднасці дапамагае пераадольваць бар'еры, што часта ўзнікаюць пры зносінах з людзьмі, якія маюць разнастайныя абмежаванні, у розных сітуацыях: на працы, у побыце, у транспарце, у сферы паслуг.**

**АСНОЎНЫЯ ПРАВІЛЫ:**

- Вы не павінны адчуваць сябе няёмка, размаўляючы з чалавекам з тымі ці іншымі парушэннямі. І калі вы не ўпэўненыя, як узаемадзейнічаць з чалавекам, у якога ёсць інваліднасць, проста спытайце!

- Прапаноўвайце дапамогу толькі ў тым выпадку, калі чалавек прыкметна мае патрэбу ў ёй. Чалавек з інваліднасцю хутчэй за ўсё паведаміць, калі яму патрэбная дапамога. І калі яму сапраўды трэба дапамагчы, спытайце як, перш чым дзейнічаць.

- Заўсёды гаварыце непасрэдна з чалавекам з інваліднасцю, а не з яго памочнікам або перакладчыкам на мову жэстаў.

І галоўнае: самі людзі з інваліднасцю — найлепшыя суддзі ў дачыненні да таго, што яны могуць або не могуць рабіць. Таму не прымайце за іх рашэння аб удзеле ў якой-небудзь дзейнасці.

Людзі з інваліднасцю — гэта людзі са сваімі сем'ямі, працай, захапленнямі, густамі, праблемамі і радасцямі. Хоць інваліднасць — гэта неад'емная частка таго, кім яны з'яўляюцца, не яна адна вызначае іх індывідуальнасць. Не рабіце з іх герояў ці ахвяраў.

*«Этыкет інваліднасці» адаптаваў **Офіс па правах людзей з інваліднасцю** на аснове публікацый няўрадавай арганізацыі «United Spinal Assosiation» (ЗША).*



Дар'я Ліс супрацоўнічае з незалежнымі медыямі. У 2008 годзе пабачыла свет яе кніга «Вясновы джаз». У сакавіку 2017 года Дар'я Ліс атрымала стыпендыю імя Магдалены Радзівіл для пісьменніц і перакладчыц. Журы пад старшынствам Святланы Алексіевіч абрала яе сярод трох аўтарак.



*Акцыя ў падтрымку Дар'і Ліс у сядзібе ПЭН-цэнтра.*

**1 чэрвеня 2017 года ў сядзібе ПЭН-цэнтра ў Мінску адбыўся дабрачынны распродаж кніг ды вялікая імпрэза ў падтрымку кампаніі збору сродкаў на вазок для таленавітай Дар'і Ліс.**



## Правы людзей з інваліднасцю і СМІ

Уяўленне пра сацыяльнае ўключэнне і выключэнне паўстала ў межах сацыяльнай мадэлі інваліднасці, якая паступова прыходзіць на змену ранейшай, медыцынскай мадэлі. На постсавецкай прасторы гэты пераход усё яшчэ адбываецца.

**Не заклікайце апекаваць, патрабуйце ствараць магчымасці!**

Медыцынская мадэль разглядае чалавека з інваліднасцю як «хворы арганізм». Задачы дзяржавы ў межах такой мадэлі — забяспечыць патрэбы арганізма, дапамагаць падтрымліваць жыццё і ствараць умовы для лячэння.

Сацыяльная мадэль бачыць у чалавеку з інваліднасцю перш за ўсё чалавека, з усёй разнастайнасцю патрэбаў. І задачы дзяржавы, адпаведна, мяняюцца. Цяпер становіцца важным стварыць асяродак, у якім людзі могуць рэалізаваць свае патрэбы. І тады ў цэнтры ўвагі аказваецца не памер дапамогі па інваліднасці, а магчымасць навучання і працаўладкавання, не матэрыяльная забяспечанасць школ-інтэрнатаў, а ўмовы для інклюзіўнай адукацыі ў звычайных школах.

*Талерантная журналістыка. Мінск, 2014*











# § 23. ПРАВЫ ДЗІЦЯЦІ[1]

Далёка не заўсёды дзеці разглядаюцца як катэгорыя правоў чалавека. Іх часта атаясамліваюць, асабліва ў асяроддзі псіхолагаў і педагогаў, з элементарнымі чалавечымі патрэбамі. Прынята казаць: дзіця мае права выхоўвацца ў шчаслівай сям'і, мае права на любоў і т.п.

У прэамбуле Канвенцыі ААН аб правах дзіцяці сказана: «Дзіцяці для паўнавартаснага і гарманічнага развіцця яго асобы неабходна расці ў сямейным асяроддзі, у атмасферы шчасця, любові і разумення...» Сапраўды неабходна, хоць і дарослым таксама неабходныя любоў і шчасце, але гэта зусім не азначае, што яны маюць на іх права, якое можа быць гарантаванае дзяржавай.

Кажучы аб правах дзіцяці, варта ўлічваць некалькі асноўных палажэнняў:

1. Правы дзіцяці з'яўляюцца катэгорыяй правоў чалавека і выцякаюць з годнасці і непаўторнасці кожнага дзіцяці як чалавечай асобы.

2. Правы дзіцяці не варта атаясамліваць з элементарнымі патрэбамі. Не існуе замацаванага ў дакументах права на выхаванне ў шчаслівай сям'і або права на любоў, хаця гэта вельмі важныя патрэбы для кожнага чалавека, а для дзіцяці — асабліва.

3. Аб правах дзіцяці, гэтак жа як і аб правах чалавека, варта гаварыць з пункту гледжання адносінаў «улада — асоба». Калі дзіця мае права, то дзяржава абавязана гарантаваць яму карыстанне гэтым правам. Напрыклад, права на навучанне азначае, што дзяржава гарантуе кожнаму доступ да адукацыі, распрацоўвае праграмы навучання, рыхтуе настаўніцкія кадры і г. д. Дзяржава стварае сістэму адукацыі і распрацоўвае правілы, якія рэгулююць яе функцыянаванне. Правы дзіцяці, гэтак жа як і правы чалавека, падлягаюць абмежаванням, але толькі такім абмежаванням, якія прадугледжаныя законам, дзейнічаюць у інтарэсах дзяржаўнай бяспекі і грамадскага спакою, дзеля папярэджання злачыннасці, абароны здароўя і маральнасці ці абароны правоў і свабодаў іншых асобаў і з'яўляюцца неабходнымі ў дэмакратычным грамадстве. Свабода ад катаванняў і жорсткага абыходжання, свабода ад рабства не могуць быць абмежаваныя ні пры якіх абставінах.

4. Калі дзіця/чалавек мае пэўнае права, гэта азначае, што павінны існаваць працэдуры яго выканання (патрабаванні). Наяўнасць права азначае магчымасць вылучэння патрабаванняў/абскарджвання, інакш права застаецца толькі дэкларацыяй.

5. Правы дзіцяці не варта разглядаць праз прызму адносінаў «бацькі — дзіця». Дзеці залежаць ад улады бацькоў, і менавіта бацькі ў першую чаргу прымаюць рашэнні аб іх выхаванні і светапоглядзе. У бацькоў могуць быць вельмі розныя ўяўленні аб выхаванні свайго дзіцяці, і дзяржава не можа ўмешвацца ў гэта. Умяшанне магчымае толькі тады, калі бацькі не выконваюць сваіх абавязкаў у адносінах да дзіцяці і злоўжываюць сваёй уладай над ім.

6. Бацькі з'яўляюцца законнымі прадстаўнікамі дзіцяці і прадстаўляюць яго перад дзяржаўнымі органамі, гэтак жа як і ў выпадках парушэння іх правоў. Калі бацькі не ў стане клапаціцца аб дзіцяці, дзяржава абавязаная забяспечыць яму сацыяльную апеку.

7. Правы дзіцяці, гэтак жа як і правы чалавека, належаць кожнаму і не залежаць ад выканання абавязкаў. Нельга пазбавіць правоў, гэтак жа як нельга прыпыніць іх дзеянне. Калі дзіця не выконвае сваіх абавязкаў, яго можна пакараць, напрыклад, пазбавіўшы ўзнагародаў або прывілеяў, але нельга пазбаўляць дзіця сваіх правоў.

8. Правы дзіцяці не выцякаюць з нейкіх выхаваўчых канцэпцый ці тэорый. Паняцце «правы дзіцяці» не варта атаясамліваць з антыпедагогікай, «партнёрскім» або «бясстрэсавым» выхаваннем.

Такім чынам, правы дзіцяці — гэта, у агульным сэнсе, правы чалавека, з той толькі розніцай, што некаторымі правамі дзеці пачынаюць карыстацца па меры свайго сталення і ўсведамлення свайго становішча. Не маючы здольнасці ажыццяўляць прававыя дзейнні, дзеці не ў стане самастойна дамагацца ажыццяўлення сваіх правоў. Ад іх імя дзейнічаюць бацькі або апекуны.

---

[1] Тэкст «Правы дзіцяці» пабудаваны на матэрыялах выдання Эльжбеты Чыж «Правы дзіцяці», Хельсінкскі фонд па правах чалавека (Варшава, Польшча), Надхі, Варшава, 2003 г.

ВЯСНА праваабарончы цэнтр · Беларускі дом правоў чалавека імя Барыса Звозскава · HUMAN RIGHTS HOUSE FOUNDATION · РОЗУМІЄМО ПРАВА ЛЮДИНИ www.edu.helsinki.org.ua

# ПРАВЫ ДЗІЦЯЦІ





**Сяргей Бураў**, каардынатар Усеўкраінскай адукацыйнай праграмы «Разумеем правы чалавека» і адукацыйнага кірунку Украінскага Хельсінкскага саюза па правах чалавека; старшыня праўлення Адукацыйнага дома правоў чалавека (Чарнігаў):

*«Мы часта заўважаем, што дзеці бываюць жорсткімі ў сваіх учынках у адносінах да аднагодкаў і нават да дарослых. Магчыма, гэта ад таго, што ім ніхто на ўласным прыкладзе не паказаў, што такое свабода і чалавечая годнасць? Таму што павага да бліжняга, адказнасць і суперажыванне маюць пачатак менавіта ў гэтых катэгорыях».*



Аўтарка прыведзеных тэзісаў — **Эльжбэта Чыж**, Хельсінкскі фонд па правах чалавека (Варшава, Польшча).





## З'яўляюцца катэгорыяй правоў чалавека.

Іх асновай з'яўляецца чалавечая годнасць і непаўторнасць кожнай асобы.



## Не тоесныя элементарным патрэбам.

Не існуе замацаванага ў дакументах права на выхаванне ў шчаслівай сям'і або права на любоў, хоць гэта вельмі важныя патрэбы для кожнага чалавека, а для дзіцяці асабліва.



## Разглядаюцца ў адносінах «улада — індывід».

Калі дзіця мае правы, то дзяржава абавязана гарантаваць яму гэтым правам скарыстацца.



## Могуць быць абмежаваныя.

Правамернымі з'яўляюцца абмежаванні, прадугледжаныя законам, устаноўленыя ў інтарэсах дзяржаўнай бяспекі і грамадскага спакою для папярэджання злачыннасці, абароны здароўя і маральнасці або абароны правоў і свабодаў іншых асобаў і неабходныя ў дэмакратычным грамадстве.

Свабода ад катаванняў і жорсткага абыходжання, свабода ад рабства не могуць быць абмежаваныя ні пры якіх абставінах.

*Фота: Аляксандр Каднікаў і Арвідас Шэметас.*

## КАНВЕНЦЫЯ ААН ПА ПРАВАХ ДЗІЦЯЦІ

(Спрошчаны каталог)

*Дзіцём з'яўляецца кожная чалавечая істота да дасягнення 18-гадовага ўзросту.*
*Абарона ад дыскрымінацыі.*
*Найлепшае забеспячэнне інтарэсаў дзіцяці.*
*Павага правоў бацькоў.*
*Права на жыццё, выжыванне і свабоднае развіццё.*
*Права на прозвішча і імя.*
*Права на імя і на набыццё грамадзянства.*
*Права ведаць сваіх бацькоў і карыстацца бацькоўскім клопатам.*
*Права не расставацца з бацькамі насуперак іх жаданню.*
*Права падтрымліваць кантакт з абаімі бацькамі.*
*Права на ўз'яднанне з сям'ёй, якая знаходзіцца ў іншай дзяржаве.*
*Права свабодна пакідаць любую краіну і вяртацца ў сваю краіну.*
*Права свабодна выказваць сваё меркаванне па ўсіх пытаннях.*
*Свабода думкі, сумлення, рэлігіі.*
*Свабода асацыяцый і мірных сходаў.*
*Права на поўную інфармацыю, якая садзейнічае дабрабыту дзіцяці.*
*Права на карыстанне паслугамі сістэмы аховы здароўя.*
*Права карыстацца выгодамі сацыяльнага забеспячэння.*
*Права на адукацыю.*
*Права на адпачынак і забавы.*
*Права на абарону ад эканамічнай эксплуатацыі.*
*Права на абарону ад незаконнага ўжывання наркатычных сродкаў, псіхатропных рэчываў, ад усіх формаў сексуальнай эксплуатацыі і сексуальнай распусты.*
*Права на гуманнае абыходжанне, на абарону ад незаконнага і пажыццёвага пазбаўлення волі для дзяцей, якія знаходзяцца ў канфлікце з законам.*







Усе палажэнні Канвенцыі можна ўмоўна аб'яднаць у тры катэгорыі па прынцыпе трох «Р»:

**PROVISION — Забеспячэнне:** правы, якія даюць доступ да пэўных выгодаў і паслугаў (адукацыя, ахова здароўя, догляд...);

**PROTECTION — Абарона:** права быць абароненым ад пэўных дзеянняў (дрэннае абыходжанне, эксплуатацыя, гвалт...);

**PARTICIPATION — Удзел:** права дзейнічаць пры пэўных абставінах і права быць далучаным да працэсу прыняцця рашэнняў.



ВЯСНА праваабарончы цэнтр · Беларускі дом правоў чалавека імя Барыса Звозскава · HUMAN RIGHTS HOUSE FOUNDATION · РОЗУМІЄМО ПРАВА ЛЮДИНИ www.edu.helsinki.org.ua

# ПРАВЫ ДЗІЦЯЦІ

**Сяргей Бураў**, каардынатар Усеўкраінскай адукацыйнай праграмы «Разумеем правы чалавека» і адукацыйнага кірунку Украінскага Хельсінкскага саюза па правах чалавека; старшыня праўлення Адукацыйнага дома правоў чалавека (Чарнігаў):



*«Мы часта заўважаем, што дзеці бываюць жорсткімі ў сваіх учынках у адносінах да аднагодкаў і нават да дарослых. Магчыма, гэта ад таго, што ім ніхто на ўласным прыкладзе не паказаў, што такое свабода і чалавечая годнасць? Таму што павага да бліжняга, адказнасць і суперажыванне маюць пачатак менавіта ў гэтых катэгорыях».*



Аўтарка прыведзеных тэзісаў — **Эльжбэта Чыж**, Хельсінкскі фонд па правах чалавека (Варшава, Польшча).



## З'яўляюцца катэгорыяй правоў чалавека.

Іх асновай з'яўляецца чалавечая годнасць і непаўторнасць кожнай асобы.



Чаму права на выхаванне ў шчаслівай сям'і і права на любоў названы элементарнымі патрэбамі і чаму іх нельга аднесці да правоў дзіцяці?

## Не тоесныя элементарным патрэбам.

Не існуе замацаванага ў дакументах права на выхаванне ў шчаслівай сям'і або права на любоў, хоць гэта вельмі важныя патрэбы для кожнага чалавека, а для дзіцяці асабліва.



Як вы разумееце словы «Дзяржава абавязана гарантаваць магчымасць скарыстацца правам»?

Чаму менавіта дзяржава абавязана забяспечыць правы дзіцяці?



## Разглядаюцца ў адносінах «улада — індывід».

Калі дзіця мае правы, то дзяржава абавязана гарантаваць яму гэтым правам скарыстацца.



Што азначае тэзіс аб тым, што чалавечая годнасць з'яўляецца асновай правоў чалавека?

Чаму правы дзіцяці лічаць катэгорыяй правоў чалавека?

Якая асаблівасць гэтай катэгорыі правоў чалавека?




Фота: Аляксандр Каднікаў і Арвідас Шэметас.

## Могуць быць абмежаваныя.

Правамернымі з'яўляюцца абмежаванні, прадугледжаныя законам, устаноўленыя ў інтарэсах дзяржаўнай бяспекі і грамадскага спакою для папярэджання злачыннасці, абароны здароўя і маральнасці або абароны правоў і свабодаў іншых асобаў і неабходныя ў дэмакратычным грамадстве.

Свабода ад катаванняў і жорсткага абыходжання, свабода ад рабства не могуць быць абмежаваныя ні пры якіх абставінах.



У якіх выпадках дзяржава можа абмяжоўваць правы дзіцяці?
Як вы можаце растлумачыць абсалютную забарону катаванняў, жорсткага абыходжання і рабства?



Як вы разумееце паняцце працэдуры патрабавання і абароны?
Хто, на вашу думку, можа скарыстацца гэтымі працэдурамі?

## КАНВЕНЦЫЯ ААН ПА ПРАВАХ ДЗІЦЯЦІ

(Спрошчаны каталог)

*Дзіцём з'яўляецца кожная чалавечая істота да дасягнення 18-гадовага ўзросту.*
*Абарона ад дыскрымінацыі.*
*Найлепшае забеспячэнне інтарэсаў дзіцяці.*
*Павага правоў бацькоў.*
*Права на жыццё, выжыванне і свабоднае развіццё.*
*Права на прозвішча і імя.*
*Права на імя і на набыццё грамадзянства.*
*Права ведаць сваіх бацькоў і карыстацца бацькоўскім клопатам.*
*Права не расставацца з бацькамі насуперак іх жаданню.*
*Права падтрымліваць кантакт з абаімі бацькамі.*
*Права на ўз'яднанне з сям'ёй, якая знаходзіцца ў іншай дзяржаве.*
*Права свабодна пакідаць любую краіну і вяртацца ў сваю краіну.*
*Права свабодна выказваць сваё меркаванне па ўсіх пытаннях.*
*Свабода думкі, сумлення, рэлігіі.*
*Свабода асацыяцый і мірных сходаў.*
*Права на поўную інфармацыю, якая садзейнічае дабрабыту дзіцяці.*
*Права на карыстанне паслугамі сістэмы аховы здароўя.*
*Права карыстацца выгодамі сацыяльнага забеспячэння.*
*Права на адукацыю.*
*Права на адпачынак і забавы.*
*Права на абарону ад эканамічнай эксплуатацыі.*
*Права на абарону ад незаконнага ўжывання наркатычных сродкаў, псіхатропных рэчываў, ад усіх формаў сексуальнай эксплуатацыі і сексуальнай распусты.*
*Права на гуманнае абыходжанне, на абарону ад незаконнага і пажыццёвага пазбаўлення волі для дзяцей, якія знаходзяцца ў канфлікце з законам.*






Усе палажэнні Канвенцыі можна ўмоўна аб'яднаць у тры катэгорыі па прынцыпе трох «Р»:
**PROVISION — Забеспячэнне:** правы, якія даюць доступ да пэўных выгодаў і паслугаў (адукацыя, ахова здароўя, догляд...);
**PROTECTION — Абарона:** права быць абароненым ад пэўных дзеянняў (дрэннае абыходжанне, эксплуатацыя, гвалт...);
**PARTICIPATION — Удзел:** права дзейнічаць пры пэўных абставінах і права быць далучаным да працэсу прыняцця рашэнняў.



Абярыце адно з правоў дзіцяці, паспрабуйце прывесці прыклады захавання / парушэння гэтага права і прааналізуйце прыведзеныя вамі сітуацыі, абапіраючыся на рэкамендацыі Камітэта па правах дзіцяці.

# § 24. ПРАВААБАРОНЧЫ ЦЭНТР «ВЯСНА»

## ПРАВААБАРОНЧЫ ЦЭНТР «ВЯСНА»

**Праваабарончы цэнтр «Вясна» — рэспубліканскае грамадскае аб'яднанне з цэнтрам у Мінску і рэгіянальнымі філіямі.**

По ўсёй краіне колькасць сябраў складае каля 200 чалавек.

Мэта дзейнасці Праваабарончага цэнтра «Вясна» — садзейнічаць фарміраванню грамадзянскай супольнасці, заснаванай на павазе да правоў чалавека.

Дата ўзнікнення арганізацыі — 26 красавіка 1996 года, менавіта ў гэты дзень створаная група для пошуку затрыманых удзельнікаў акцыі «Чарнобыльскі шлях — 1996» і арганізаваная дапамога сем'ям пацярпелых ад дзеянняў улады.



*Вясноўцы каля Дома правоў чалавека ў Вільні.*

**Першапачатковая назва арганізацыі — Праваабарончы цэнтр «Вясна-96».**




*Чарнобыльскі шлях 1996 года.*

*Мінск, 1997 год.*

**«26–27 красавіка 1996 года было арыштавана некалькі сотняў асобаў. Юры Хадыка і Вячаслаў Сіўчык патрапілі ў СІЗА, яны абвясцілі галадоўку, якую трымалі па тры тыдні, аж пакуль іх, пад ціскам Ельцына, не выпусціў Лукашэнка. 27 красавіка было арыштавана амаль усё кіраўніцтва БНФ. За кратамі апынуліся Юры Хадыка, Вячаслаў Сіўчык, Лявон Баршчэўскі, Вінцук Вячорка, Віктар Івашкевіч ды іншыя. Было адчуванне, што можа настаць і наступная хваля рэпрэсій і мы пойдзем следам за арыштаванымі. Але ўлады праз некалькі дзён адкруцілі назад, і Вячорка з Баршчэўскім былі выпушчаныя. Трэба было супрацьстаяць дзяржаўнаму гвалту. Неўзабаве на офісе БНФ па маёй ініцыятыве была сабрана група людзей, у якую ўваходзілі Галіна Вашчанка, Мая Кляшторная ды яшчэ некалькі асобаў, распачалі тэрміновыя дзеянні па зборы інфармацыі пра затрыманых, пошук дапамогі сем'ям. У музеі Багдановіча мы з супрацоўнікамі музея фасавалі гэтыя харчы ў поліэтыленавыя пакеты з фірменным знакам музея Багдановіча, а затым раздавалі пацярпелым ды іх сем'ям».**

**Алесь Бяляцкі,** успаміны «Вясна. Кропка адліку».

**15 чэрвеня 1999 году арганізацыя была зарэгістраваная як грамадскае аб'яднанне «Праваабарончы цэнтр "Вясна"».**




*З 1998 года выходзіў праваабарончы бюлетэнь «Права на Волю».*



*Прэзентацыя першага Агляду-хронікі парушэння правоў чалавека ў Беларусі. Мінск, люты 1999 года.*

Правядзенне незалежнага назірання з'явілася нагодай для ліквідацыі праз Вярхоўны Суд афіцыйнай рэгістрацыі ПЦ «Вясна».



2001 год. Удзельнікі прэс-канферэнцыі грамадзянскай ініцыятывы «Незалежнае назіранне» Тацяна Равяка, Алесь Бяляцкі, Мечыслаў Грыб.



*Падчас традыцыйнай акцыі «Дзень Волі»: Аліна Стэфановіч, Валянцін Стэфановіч, Алесь Бяляцкі, Уладзімір Лабковіч, Юры Новікаў і Юры Чавусаў. 24 сакавіка 2002 года.*

**Рашэннем Вярхоўнага Суда Рэспублікі Беларусь 28 кастрычніка 2003 года за ўдзел у назіранні падчас прэзідэнцкіх выбараў 2001 года грамадскае аб'яднанне «Праваабарончы цэнтр "Вясна"» было пазбаўленае дзяржаўнай рэгістрацыі.**

Камітэтам па правах чалавека ААН ліквідацыя грамадскага аб'яднання «Праваабарончы цэнтр "Вясна"» прызнанана парушэннем артыкула 22 Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах. Паводле рашэння Камітэта ўраду Беларусі рэкамендавана правесці перарэгістрацыю Праваабарончага цэнтра «Вясна» і прыняць меры па недапушчэнні падобных парушэнняў у будучым. Нягледзячы на тое, што Беларусь прызнала кампетэнцыю Камітэта па правах чалавека ААН і ўзяла на сябе абавязацельствы па выкананні палажэнняў Пакта, гэтае рашэнне не выканана ўрадам. Сябрам Праваабарончага цэнтра «Вясна» на працягу 2007–2009 гадоў тройчы было адмоўлена ў рэгістрацыі грамадскага аб'яднання.



*Пратэст праваабаронцаў у зале паседжанняў Вярхоўнага Суда Беларусі з нагоды пазбаўлення ПЦ «Вясна» афіцыйнай рэгістрацыі. Сядзяць на падлозе: Валянцін Стэфановіч, Зміцер Салаўёў, Аляксей Колчын, Мікола Лемяноўскі, Алег Жлутка, Уладзімір Вялічкін, Алесь Бяляцкі. 28 кастрычніка 2003 года.*

З 1998 года Праваабарончы цэнтр «Вясна» выступае супраць смяротнага пакарання ў Беларусі. У 2009 годзе ў выніку намаганняў арганізацыі ўзнікла кампанія «Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання ў Беларусі».



*Ліст з СІЗА ў Праваабарончы цэнтр «Вясна» ад Івана Фаміна, расстралянага за чужую віну.*



*Валянцін Стэфановіч і Ірына Тоўсцік у судзе за ўдзел у пікеце супраць смяротнага пакарання ў Беларусі, 2010 год.*

**Пераслед старшыні ПЦ «Вясна» Алеся Бяляцкага — кульмінацыя супрацьстаяння ўладаў і Праваабарончага цэнтра «Вясна».**

4 жніўня 2011 года старшыня арганізацыі Алесь Бяляцкі быў арыштаваны па абвінавачванні ва ўхіленні ад выплаты падаткаў (частка 2 артыкула 243 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь).




Алесь Бяляцкі ў судзе.



*Сустрэча Алеся Бяляцкага, вызваленага з бабруйскай калоніі ў першы дзень правядзення амністыі. За кратамі палітвязень правёў 1052 дні. Мінск, 21 чэрвеня 2014 года.*

24 кастрычніка 2011 года Алесь Бяляцкі асуджаны да 4,5 года ў выпраўленчай калоніі ўзмоцненага рэжыму за «ўтойванне прыбыткаў у буйным памеры». Праваабаронца сваёй віны не прызнаў, бо ўсе сродкі з рахункаў ішлі на праваабарончую дзейнасць. Краіны Еўразвязу, ЗША і міжнародныя праваабарончыя арганізацыі прызналі Алеся Бяляцкага палітвязнем, а прысуд — палітычна матываваным.

Алесь Бяляцкі быў вызвалены па амністыі 21 чэрвеня 2014 года.



**«Беларуская турэмная літаратура» — серыя кніг, напісаных у турмах беларускімі палітвязнямі, была запачаткаваная ў 2017 годзе Праваабарончым цэнтрам «Вясна».**

*Алена Лапцёнак прадстаўляе першыя кнігі серыі «Беларуская турэмная літаратура» на IV Форуме праваабаронцаў у Вільні.*

# ПРАВААБАРОНЧЫ ЦЭНТР «ВЯСНА»

## Праваабарончы цэнтр «Вясна» — рэспубліканскае грамадскае аб’яднанне з цэнтрам у Мінску і рэгіянальнымі філіямі.

По ўсёй краіне колькасць сяброў складае каля 200 чалавек.

Мэта дзейнасці Праваабарончага цэнтра «Вясна» — садзейнічаць фарміраванню грамадзянскай супольнасці, заснаванай на павазе да правоў чалавека.

Дата ўзнікнення арганізацыі — 26 красавіка 1996 года, менавіта ў гэты дзень створаная група для пошуку затрыманых удзельнікаў акцыі «Чарнобыльскі шлях — 1996» і арганізаваная дапамога сем’ям пацярпелых ад дзеянняў улады.



*Вясноўцы каля Дома правоў чалавека ў Вільні.*

**Першапачатковая назва арганізацыі — Праваабарончы цэнтр «Вясна-96».**




*Чарнобыльскі шлях 1996 года.*



*Мінск, 1997 год.*

**«26–27 красавіка 1996 года было арыштавана некалькі сотняў асобаў. Юры Хадыка і Вячаслаў Сіўчык патрапілі ў СІЗА, яны абвясцілі галадоўку, якую трымалі па тры тыдні, аж пакуль іх, пад ціскам Ельцына, не выпусціў Лукашэнка. 27 красавіка было арыштавана амаль усё кіраўніцтва БНФ. За кратамі апынуліся Юры Хадыка, Вячаслаў Сіўчык, Лявон Баршчэўскі, Вінцук Вячорка, Віктар Івашкевіч ды іншыя. Было адчуванне, што можа настаць і наступная хваля рэпрэсій і мы пойдзем следам за арыштаванымі. Але ўлады праз некалькі дзён адкруцілі назад, і Вячорка з Баршчэўскім былі выпушчаныя. Трэба было супрацьстаяць дзяржаўнаму гвалту. Неўзабаве на офісе БНФ па маёй ініцыятыве была сабрана група людзей, у якую ўваходзілі Галіна Вашчанка, Мая Кляшторная ды яшчэ некалькі асобаў, распачалі тэрміновыя дзеянні па зборы інфармацыі пра затрыманых, пошук дапамогі сем’ям. У музеі Багдановіча мы з супрацоўнікамі музея фасавалі гэтыя харчы ў поліэтыленавыя пакеты з фірменным знакам музея Багдановіча, а затым раздавалі пацярпелым ды іх сем’ям».**

**Алесь Бяляцкі**, успаміны «Вясна. Кропка адліку».

## 15 чэрвеня 1999 году арганізацыя была зарэгістраваная як грамадскае аб’яднанне «Праваабарончы цэнтр “Вясна”».




*З 1998 года выходзіў праваабарончы бюлетэнь «Права на Волю».*



*Прэзентацыя першага Агляду-хронікі парушэння правоў чалавека ў Беларусі. Мінск, люты 1999 года.*

Правядзенне незалежнага назірання з’явілася нагодай для ліквідацыі праз Вярхоўны Суд афіцыйнай рэгістрацыі ПЦ «Вясна».



2001 год. Удзельнікі прэс-канферэнцыі грамадзянскай ініцыятывы «Незалежнае назіранне» Тацяна Равяка, Алесь Бяляцкі, Мечыслаў Грыб.



*Падчас традыцыйнай акцыі «Дзень Волі»: Аліна Стэфановіч, Валянцін Стэфановіч, Алесь Бяляцкі, Уладзімір Лабковіч, Юры Новікаў і Юры Чавусаў. 24 сакавіка 2002 года.*

**Рашэннем Вярхоўнага Суда Рэспублікі Беларусь 28 кастрычніка 2003 года за ўдзел у назіранні падчас прэзідэнцкіх выбараў 2001 года грамадскае аб'яднанне «Праваабарончы цэнтр "Вясна"» было пазбаўленае дзяржаўнай рэгістрацыі.**

Камітэтам па правах чалавека ААН ліквідацыя грамадскага аб'яднання «Праваабарончы цэнтр "Вясна"» прызнанана парушэннем артыкула 22 Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах. Паводле рашэння Камітэта ўраду Беларусі рэкамендавана правесці перарэгістрацыю Праваабарончага цэнтра «Вясна» і прыняць меры па недапушчэнні падобных парушэнняў у будучым. Нягледзячы на тое, што Беларусь прызнала кампетэнцыю Камітэта па правах чалавека ААН і ўзяла на сябе абавязацельствы па выкананні палажэнняў Пакта, гэтае рашэнне не выканана ўрадам. Сябрам Праваабарончага цэнтра «Вясна» на працягу 2007–2009 гадоў тройчы было адмоўлена ў рэгістрацыі грамадскага аб'яднання.



*Пратэст праваабаронцаў у зале паседжанняў Вярхоўнага Суда Беларусі з нагоды пазбаўлення ПЦ «Вясна» афіцыйнай рэгістрацыі. Сядзяць на падлозе: Валянцін Стэфановіч, Зміцер Салаўёў, Аляксей Колчын, Мікола Лемяноўскі, Алег Жлутка, Уладзімір Вялічкін, Алесь Бяляцкі. 28 кастрычніка 2003 года.*

З 1998 года Праваабарончы цэнтр «Вясна» выступае супраць смяротнага пакарання ў Беларусі. У 2009 годзе ў выніку намаганняў арганізацыі ўзнікла кампанія «Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання ў Беларусі».



*Ліст з СІЗА ў Праваабарончы цэнтр «Вясна» ад Івана Фаміна, расстралянага за чужую віну.*



*Валянцін Стэфановіч і Ірына Тоўсцік у судзе за ўдзел у пікеце супраць смяротнага пакарання ў Беларусі, 2010 год.*

## Пераслед старшыні ПЦ «Вясна» Алеся Бяляцкага — кульмінацыя супрацьстаяння ўладаў і Праваабарончага цэнтра «Вясна».

4 жніўня 2011 года старшыня арганізацыі Алесь Бяляцкі быў арыштаваны па абвінавачванні ва ўхіленні ад выплаты падаткаў (частка 2 артыкула 243 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь).




Алесь Бяляцкі ў судзе.



*Сустрэча Алеся Бяляцкага, вызваленага з бабруйскай калоніі ў першы дзень правядзення амністыі. За кратамі палітвязень правёў 1052 дні. Мінск, 21 чэрвеня 2014 года.*

24 кастрычніка 2011 года Алесь Бяляцкі асуджаны да 4,5 года ў выпраўленчай калоніі ўзмоцненага рэжыму за «ўтойванне прыбыткаў у буйным памеры». Праваабаронца сваёй віны не прызнаў, бо ўсе сродкі з рахункаў ішлі на праваабарончую дзейнасць. Краіны Еўразвязу, ЗША і міжнародныя праваабарончыя арганізацыі прызналі Алеся Бяляцкага палітвязнем, а прысуд — палітычна матываваным.

Алесь Бяляцкі быў вызвалены па амністыі 21 чэрвеня 2014 года.



**«Беларуская турэмная літаратура» — серыя кніг, напісаных у турмах беларускімі палітвязнямі, была запачаткаваная ў 2017 годзе Праваабарончым цэнтрам «Вясна».**

*Алена Лапцёнак прадстаўляе першыя кнігі серыі «Беларуская турэмная літаратура» на IV Форуме праваабаронцаў у Вільні.*

Беларускі варыянт выставы «Кожны мае права ведаць свае правы» быў адаптаваны Праваабарончым цэнтрам «Вясна» ў межах сумеснай дзейнасці Міжнароднай сеткі Дамоў правоў чалавека праграмы «Дом Дому».

Пры адаптацыі выставы за аснову ўзята ўкраінская версія, падрыхтаваная грамадскай арганізацыяй «М'АРТ» (Чарнігаў, Украіна), якая была зроблена ў адпаведнасці з планам дзеянняў Усеўкраінскай асветнай праграмы «Разумеем правы чалавека».

*Аўтары і аўтаркі, складальнікі тэкстаў:* **Паліна Сцепаненка, Андрэй Палуда, Аляксандр Вайтэнка, Сяргей Бураў, Канстанцін Равуцкі, Алена Грабоўская, Андрэй Кінаш, Руслана Бурава, Максім Елігулашвілі**

*Ідэя дызайну выставы:* **Багдана Вайтэнка**

*Дызайн стэндаў экспазіцыі*: **Аксана Шаўчэнка**

*Праца над дызайнам беларускай версіі выставы:* **Віктар Корзун**

У распрацоўцы стэндаў выставы выкарыстаны фотаздымкі і ілюстрацыі з конкурсаў, якія праводзіліся Усеўкраінскай асветнай праграмай «Разумеем правы чалавека», Украінскім Хельсінкскім саюзам правоў чалавека, грамадскай арганізацыяй «М'АРТ».

Сярод выкарыстаных фотаздымкаў ёсць атрыманыя ў вольным доступе з сеткі Інтэрнэт.

У тым ліку з сайтаў: **http://spring96.org/, http://vytoki.net/, http://belsat.eu/, https://racyja.com, https://www.svaboda.org/, https://nn.by/**

*Арганізатары і арганізаторкі выставы выказваюць шчырую падзяку аўтарам і аўтаркам фотаздымкаў:* **Максіму Гацаку, Алене Сцяпанавай, Альгерду Бахарэвічу, Таццяне Смоткінай, Віктару Трацякову, Алене Казловай, Юліі Калашэнка, Ірыне Арахоўскай, Паліне Сцепаненка, Уладзіміру Сапагову, Уладзіміру Кармілкіну, Віктару Стралоўскаму, Юліі Красільнікавай, Марыяне Хардзі, Уладзіславу Спяшылаву**

*Арганізатары і арганізатаркі выставы выказваюць шчырую падзяку за спрыянне альбо непасрэдны ўнёсак у распрацоўку гэтай экспазіцыі наступным арганізацыям:*
**Сетка Дамоў правоў чалавека (Осла, Нарвегія)**
**Беларускі Дом правоў чалавека ў Вільні імя Барыса Звозскава**
**Адукацыйны Дом правоў чалавека ў Чарнігаве**
**Украінскі Хельсінкскі саюз правоў чалавека**
**Праваабарончы цэнтр «Поступ» (Луганск, Украіна)**
**Кангрэс нацыянальных грамад Украіны (Кіеў, Украіна)**
**Рэгіянальны дабрачынны фонд «Рэзананс» (Львоў, Украіна)**
**Харкаўская абласная фундацыя «Грамадская альтэрнатыва»**

Таксама вялікая падзяка ўсім асобам і арганізацыям, у асаблівасці Валанцёрскай службе ПЦ «Вясна», якія ўкладаюць свае высілкі ў працу выставы, ажыццяўляюць валанцёрскую падтрымку, выступаюць у якасці гідаў, экскурсаводаў і рэгіянальных каардынатараў.



